ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ

ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ ДВУХТЫДНЁВІК

ОРГАН ЦК КП(б)Б

ГОД ВЫДАННЯ VIII

№ 11

15-га ЧЭРВЕНЯ 1934 г.

## ЗМЕСТ



Адрас рэдакцыі:

Менск, Чырвонаармейская вул.
ЦК КП(б)Б. пакой № 105.
Тэлефон адказнага рэдактара па камутатару 20000 даб. 80; адк. сакратара—12; гарадскі—21044.



**Н. Ф. Гікало**

Сакратар ЦК КП(б)Б

# Па-большэвіцку арганізаваць барацьбу за высокі ўраджай

## I

### Пісьмо сакратарам ГК, РК КП(б)Б і ЛКСМБ

Толькі што закончыўшыйся пленум ЦК, які працаваў сумесна з начальнікамі палітаддзелаў МТС і соўгасаў, высунуў для ўсёй КП(б)Б, для калгаснікаў, рабочых соўгасаў, аднаасобнікаў БССР важнейшую задачу, якая мае выключнае значэнне—захаванне ўраджаю без якіх-бы там ні было страт як у працэсе падрыхтоўкі да ўборкі, так і пры самой уборцы.

Між тым, сігналы, якія ЦК атрымаў ад старшынь міжраённых камісій па ўраджайнасці на нарадзе ў ЦК, гавораць аб тым, што ў большасці раёнаў і МТС БССР не прыняты канкрэтныя аператыўныя меры па выкананню гэтай баявой задачы, што пацвярджаецца наступным:

1

У большасці раёнаў, МТС, калгасаў, соўгасаў, сярод аднаасобнікаў не разгорнута сапраўды большэвіцкая раз'ясніцельная агітацыйная работа кожнага комуніста, кожнага комсамольца па мабілізацыі ўсіх калгаснікаў, усіх рабочых соўгасаў, усіх аднаасобнікаў на захаванне ўраджаю, на барацьбу са стратамі. У рэзультаце праполка пачата са спазненнем, а сям-там да яе нават не прыступлена. У многіх выпадках праполка праводзіцца зусім нездавальняюча, нядбайна, прычым у радзе месц абязлічваецца адказнасць брыгад за праполку.

2

У большасці выпадкаў да рамонту сельска-гаспадарчых машын толькі прыступаюць і, што самае галоўнае, амаль зусім не арганізован кантроль за тэрмінамі, ходам і якасцю рамонту.

3

Зусім не разгорнута работа па прыстасаванню сельска-гаспадарчых машын (жняярак, снопавязалак), абсталяванню іх зерна-ўлавіцелямі. Наркамзем БССР і райземаддзелы не разгарнулі неабходнай работы, не далі адпаведных указанняў, не арганізавалі інструктаж. Не пачаўся яшчэ папярэдні агляд і рамонт малатарань для забяспечання палепшання іх работы ў сэнсе чыстаты абмалоту, меншага адыходу зярна.



Таксама няма неабходных клопатаў аб падрыхтоўцы тары для перакідкі зярна, аб падрыхтоўцы зернахавальняў і ўсёй сумы мерапрыемстваў, якія забяспечваюць мінімальную страту зярна.

4

Зусім упушчана тая акалічнасць, што палявая ахова ўраджаю павінна быць не толькі ў перыяд выспявання хлябоў, але ўжо цяпер трэба прыступіць да арганізацыі аховы ўраджаю на карні ад патраў, ад вытаптвання, ад пракладвання дарожак праз збожжа, і тым больш павінна ісці барацьба супроць злоснага знішчажэння збожжа.

5

Камісіі па вызначэнню ўраджайнасці павінны, асабліва ў гэтым годзе, правесці велізарную работу, накіраваную на барацьбу са стратамі. Работа гэта павінна быць праведзена з прыцягненнем камуністаў, комсамольцаў і беспартыйных, перадавых актывістаў на вёсцы, сапраўды паставіўшых перад сабой задачу ўбраць ураджай без страт, здаць дзяржаве поўнацэннай якасці зярно.

6

Вымярэнне ўраджаю на карні, праверка якасці і рэзультатаў масавага абмалоту ў дзесяці процантах калгасаў БССР, кантрольныя вызначэнні страт пры касавіцы і ўсіх другіх працэсах уборкі ўраджаю, намечаныя міжраённымі камісіямі па ўраджайнасці, павінны прыкаваць да сябе ўвагу ўсіх партыйных, совецкіх і комсамольскіх арганізацый.

Аднак, вопыт мінулага года і факты бягучага года паказваюць, што не гледзячы на выключнае значэнне работы міжраённых камісій па ўраджайнасці, яны не толькі не знаходзяць неабходнага падтрымання ў радзе раёнаў і калгасаў, але ў радзе выпадкаў сустракаюць прамую недаацэнку і ігнараванне.

Таварышы, мабілізаваныя ў мінулым годзе, згодна рашэння ЦК, для работы ў міжраённых камісіях па ўраджайнасці, скрозь і ўсюды перамяшчаліся, адклікаліся або падбіраліся якасна нездавальняюча. Запатрабаванні камісіі па выключна важных справах не атрымлівалі неадкладнага і быстрага рэагавання раённых арганізацый, зямельных органаў.

Наяўныя факты сведчаць, што комсамольцы да сёнешняга дня не лічаць неабходным устанавіць сувязь з работнікамі міжраённых камісій для практычнай дапамогі ім. Больш таго, комсамольцы сваю работу па ахове ўраджаю, па барацьбе са стратамі праводзяць без неабходнай увязкі з міжраённымі камісіямі, якія могуць ім даць велізарнейшы вопыт у гэтай справе, і па сутнасці справы ігнаруюць гэтыя камісіі.

Партыйныя і совецкія арганізацыі абавязаны ведаць, што, аказваючы дапамогу міжраённым камісіям па вызначэнню ўраджайнасці, яны тым самым атрымліваюць магчымасць ужо неадкладна, улічваючы вопыт работы гэтых камісій, праводзіць цэлы рад зусім практычных, аператыўных мерапрыемстваў, дапамагаючых і спрыяючых захаванню ўраджаю, прыняццю мер па далейшаму палепшанню вядзення сельскай гаспадаркі і т. д.

Раённыя партыйныя, совецкія і комсамольскія арганізацыі павінны ведаць, што заключэнні міжраённых камісій па вызначэнню ўраджай-

насці непасрэдна звязаны і па сутнасці справы маюць важнейшае значэнне пры вызначэнні размераў зернапаставакданага раёна, калгаса, соўгаса, аднаасобнай гаспадаркі. Апрача таго рэзультаты работ міжраённых камісій у большасці выпадкаў, як ужо гэта паказала практыка мінулага года, зусім правільна ўказваюць на якасць работы раённых партыйных і совецкіх арганізацый у справе барацьбы за ўраджай. Кожны кіруючы работнік абавязан гэта зразумець і прадумаць да канца.

Выходзячы са значэння работ, праводзімых міжраённымі камісіямі па вызначэнню ўраджайнасці, ЦК ВКП(б) і саюзны ўрад лічылі неабходным паставіць на чале гэтай справы буйных работнікаў, правераных большэвікоў, набыўшых сур'ёзны вопыт работы і барацьбы на радзе ўчасткаў партыйнай, совецкай і гаспадарчай дзейнасці. Кожны з старшынь міжраённых камісій можа дапамагчы партыйнай арганізацыі раёна сваім вопытам і ведамі ў рабоце па сельскай гаспадарцы.

Кожны сакратар ГК і РК КП(б)Б, РК ЛКСМБ, старшыня РВК павінны так пабудаваць сваю практычную работу ў барацьбе за ўраджай, цесна ўвязаўшы яе з аказаннем самай сур'ёзнай дапамогі міжраённым камісіям, каб неадкладна зжыць недахопы, якія маюцца ў гэтых адносінах, і неадкладна ліквідаваць у радзе выпадкаў маючаеся ігнараванне работы міжраённых камісій. Усякая недаацэнка гэтай работы будзе ў далейшым рашуча перасякацца цэнтральнымі кіруючымі органамі.

ГК, РК КП(б)Б, РК ЛКСМБ павінны неадкладна прыняць усе меры да падбору лепшых работнікаў для ўдзелу ў рабоце міжраённых камісій, асабліва ў сувязі з задачамі, ускладзенымі на міжраённыя камісіі на бліжэйшы адрэзак часу. Кожны старшыня калгаса, дырэктар соўгаса і старшыня сельсовета павінны быць лепшымі карэспандэнтамі міжраённых камісій па пытаннях аб ураджайнасці, па барацьбе са стратамі і т. д. Асабліва павінна быць аддана выключная ўвага вылучэнню лепшых людзей калгасаў—ударнікаў, брыгадзіраў, ведаючых справу, на работу ў якасці наглядчыкаў міжраённых камісій па вызначэнню ўраджайнасці.

II

## З выступлення Н. Ф. Гікало на III пленуме ЦК КП(б)Б

Таварышы!

Пытанне аб выніках сяўбы тут на пленуме даволі поўна асвятлілі тав. **Бенек**, тав. **Ратнек** і т. **Куртукоў.** У сваіх выступленнях яны далі аналіз асноўных поспехаў і недахопаў праведзенай работы ў часе веснавой сяўбы.

У гэту вясну, бясспрэчна, мы дасягнулі сур'ёзных поспехаў. Вынікі сяўбы знамянуюць сабой велізарны рост палітычнай, вытворчай актыўнасці калгасных мас. Якасць работы МТС і соўгасаў, нізавых арганізацый непараўнальна вышэй іх леташняй работы. Мы маем нямала ўзораў сапраўды большэвіцкай работы, большэвіцкай мабілізацыі мас на барацьбу за высокі ўраджай.

Па тэмпах і якасці сяўбы ільну наша рэспубліка заняла перадавое месца ў Саюзе.

Але нельга захапляцца дасягнутымі поспехамі.

І калі ў цэлым падрыхтоўка да сяўбы і сама сяўба былі праведзены не дрэнна, то ўсё-ж, улічваючы выключна спрыяючыя ўмовы вясны гэтага года, у нас была поўная магчымасць яшчэ раней і лепш завяршыць сяўбу. Гэтага, я думаю, ніхто не будзе адмаўляць. Нашы дырэктывы аб ранняй сяўбе, аб тэрмінах сяўбы аўса і іншых культур многія таварышы сустрэлі з недавер'ем. Ці то спалохаліся марозаў, ці то наогул фармальна падышлі да справы, але фактам з'яўляецца тое, што яны зацягнулі пачатак пасеўных работ.

Кіраўніцтва сяўбой у параўнанні з мінулым годам значна лепшае. Але ўсё-ж яно мела цэлы рад недахопаў, характэрных для мінулага года. Калі мы адмовіліся ад масавай пасылкі людзей, то ад масавай пасылкі тэлеграм мы яшчэ не адмовіліся. Больш таго, самі тэлеграмы часта насілі агульны характар. Яны не былі дыферэнцыяваны. У гэтым у значнай меры вінаваты і раённыя работнікі. Калі таварышы марудзяць з пачаткам сяўбы, то прыходзіцца звярачацца да тэлеграм. Масавая пасылка тэлеграм—гэта недахоп, які неабходна ліквідаваць.

Гаворачы аб выніках сяўбы і аб далейшых задачах па сельскай гаспадарцы, трэба паставіць пытанне аб рабоце рашаючых для нас двух апаратаў—Наркамзема і Ўпаўнаркомсоўгасаў. І тут неабходна прама сказаць, што апарат Наркамзема і асабліва апарат Упаўнаркомсоўгасаў яшчэ не перабудаваліся.

Тав. **Кагановіч** у сваім дакладзе на XVII з'ездзе партыі, адзначаючы недахопы ў рабоце саюзнага Наркамзема, указаў:

> «Галоўная слабасць работы Наркамзема заключаецца імена ў тым, што ён пасылаў дзесяткі і сотні распараджэнняў, патрабаваў уліку і адчотнасці, рассылаў машыны і станкі, але не ўваходзіў у сутнасць аператыўнай работы і арганізацыйнай пабудовы нізавых органаў, не забяспечваў штодзённага кіраўніцтва гэтымі арганізацыямі».

Гэтыя ўказанні тав. Кагановіча цалкам і поўнасцю адносяцца і да работы Наркамзема Беларусі.

Наш Наркамзем раней з году ў год кіраваў работай наогул. Зараз карціна рэзка змянілася.

Зараз стрыжань пытання ў дыферэнцыяваным канкрэтным кіраўніцтве.

**Трэба апарат Наркамзема пабудаваць так, каб ён непасрэдна займаўся пытаннямі МТС, г. зн. калгасам, калгаснай вытворчасцю.**

**Нельга кіраваць селскай гаспадаркай, калі не возьмешся за галоўнае звяно вытворчасці.** А гэта звяно—МТС. Гэта—трактар. Гэта—складаныя сельска-гаспадарчыя машыны. Гэта—агранамічныя і тэхнічныя сілы і т. д.

Дырэктар МТС прызван кіраваць усёй тэхнікай сельска-гаспадарчай вытворчасці. Аднак, **ён, як кіраўнік такой буйнай адзінкі, не акружан належнай увагай.** У нас нярэдка рашаюць справу адразу—зняць дырэктара МТС, палажыць яго на абедзве лапаткі, абвінаваціць у апартунізме. Гэта, зразумела, лягчэй за ўсё. А вось сапраўдных штодзённых клопатаў аб умацаванні кадраў МТС, аб іх правільным выкарыстанні, аб стварэнні адпаведных умоў для работы яшчэ няма.

Трэба прама сказаць, што агратэхнічныя кадры ў нас, у Беларусі, выкарыстоўваюцца прыкладна на адну трэцюю частку. **Пытанне аб агратэхнічных кадрах з гэтай прычыны павінна быць адным з самых галоўных, буйнейшых пытанняў у рабоце Наркамзема.**

Я нядаўна прысутнічаў на злёце конюхаў і пастухоў зоны Рагачоўскай МТС. На гэтым злёце я слухаў выступленне аднаго ветдоктара. Добрае ўражанне ён робіць. Праўда, у яго асталіся некаторыя адрыжкі нацыянал-дэмакратычнага і прышчэпаўскага парадку. Але гэты чалавек, калі ім кіраваць і сур'ёзна да яго адносіцца, калі прыцягнуць да сябе, будзе працаваць нядрэнна, ён сваю вытворчасць, сваю справу разумее.

У нас пакуль што к гэтаму пытанню механічна адносяцца. Нярэдка з людзьмі як след не гутараць, а загадваюць. Так адносіцца да агратэхнічных сіл недапушчальна.

Калі мы ў рэзалюцыі ставім пытанне, што аграном павінен стаць у нас, у сельскай гаспадарцы, тым-жа, што інжынер на заводзе, на вытворчасці,—а гэта не пусты гук,—то неабходна і нашы адносіны да агранома змяніць.

Гэта значыць, мы павінны яго цаніць, мы павінны індывідуальна ім займацца, мы павінны паставіць яго ў адпаведныя матэрыяльныя і іншыя ўмовы. Інакш гэтага чалавека мы не падымем да ўзроўню тэхнічнага дырэктара або галоўнага інжынера. Ён будзе хлапчуком, які пад нагамі будзе круціцца і вы на яго ўсякую бяду будзеце ўзвальваць.

Я наўмысна спыніўся на слабым баку работы МТС, бо МТС не заняла ў сістэме нашага кіраўніцтва і ў першую чаргу ў сістэме Наркамзема таго месца, якое яна павінна заняць.

Наша задача—у бліжэйшы-ж час—у месяц-паўтара—па-сур'ёзнаму, сіламі начальнікаў палітаддзелаў, сіламі раённых камітэтаў партыі, палітсектара, сельгасаддзела ЦК, Наркамзема, усімі сіламі ўзяцца за гэту справу, за гаспадарчае і тэхнічнае кіраўніцтва МТС. Без гэтага справа не выйдзе.

Трэба прызнаць, што цяперашняе кіраўніцтва Наркамзема моцна падцягнулася, цяпер трэба як след перабудаваць і яго апарат, каб Наркамзем сапраўды моцна і сур'ёзна заняўся пытаннямі вытворчасці.

Наркамзем з бюракратычнага органа, якім ён быў раней, павінен ператварыцца ў сапраўды вытворчы наркамат. Гэта—галоўнае і ўсе даныя для гэтага ёсць. Трэба толькі, каб усе звенні Наркамзема ўзяліся па-сапраўднаму за выкананне гэтай важнейшай задачы.

Нам трэба падняць МТС на вышэйшую ступень. Трэба будзе паставіць справу так, каб мы ведалі ўсе сілы, усе кадры ў МТС. Людзі растуць, і мы не можам дапусціць, каб іх мянялі як пярчаткі. Трэба дапамагчы людзям расці.

Дрэнна ў нас абстаіць справа з работай Наркомсоўгасаў, уласна кажучы, кіраўніцтва Наркомсоўгасаў БССР яшчэ сур'ёзна не прыступіла да перабудовы.

Соўгасы, як правіла, адсталі і адсталі настолькі, што цягнулі нас уніз ва ўвесь час сяўбы. Тут з трыбуны кідаюць абвінавачанні, што райкомы не дапамагаюць соўгасам. Гэта няправільна. Райкомы і ў леташнім і пазалеташнім гадах падцягвалі соўгасы. І калі той ці іншы сакратар райкома не хоча дапамагаць соўгасам, трэба яго моцна стукнуць. Аднак, несумненна, што Наркомсоўгасаў павінен хутчэй закончыць сваю рэарганізацыю, расставіць людзей, наладзіць сапраўднае, аператыўнае, канкрэтнае кіраўніцтва соўгасамі, інакш у наступныя работы, асабліва ў часе загатовак і ўборкі мы можам адстаць.

Падводзячы вынікі сяўбы, трэба асабліва падкрэсліць узросшую актыўнасць і палітычны рост працоўных мас, сялянства. У гэту вясну

як ніколі мы мелі грамадны палітычны ўздым, сапраўды бальшэвіцкія ўзоры работы многіх калгасаў і калгаснікаў. Тая акалічнасць, што аднаасобнік у нас адставаў ад калгасаў у кожную пяціднёўку толькі на 5—7 процантаў—гэта ўжо само па сабе вялікі паказчык.

**Але ўсё-ж мы ў сваёй масава-арганізатарскай, палітычнай, партыйнай рабоце адстаем ад гэтага ўздыму.** Іхалі хочаце, гэта ў вядомай меры паказалі выступленні сакратароў і начпалітаддзелаў на пленуме. Аб чым яны гаварылі? Больш за ўсё аб арганізацыйных і гаспадарчых пытаннях. Толькі адзін тав. Каменштэйн, па-мойму, добра паставіў некаторыя пытанні масавай работы. Большасць таварышоў зусім абыходзяць задачы масавай, палітычна-арганізатарскай работы. Хіба можна так паступаць?

Таварышы, масава-арганізатарская, палітычная работа іграе велізарнейшую ролю ў правядзенні ўсіх нашых гаспадарчых мерапрыемстваў.

Вазьміце калгаснае будаўніцтва, пытанні калектывізацыі. Мы-ж па калектывізацыі за гэту вясну, пры тым агромным палітычным уздыме мас дасягнулі нязначных рэзультатаў. Праўда, Рагачоўскі раён падвоіў процант калектывізацыі—з 24 да 48 проц. Але вы самі ведаеце, што 1—2 раёны не рашаюць справы. Больш таго, мы нават крыху забылі аб калектывізацыі. Хіба гэта не прамы паказчык слабасці масавай, палітычнай, арганізатарскай работы нашых партарганізацый? Калі-б мы разгарнулі як след палітычную, масава раз'ясніцельную работу, хіба яна не знайшла-б сур'ёзнага выражэння ў працэсе калектывізацыі. Я не магу прывесці зараз лічбаў росту калектывізацыі: адчотнасць па калектывізацыі ў нас вельмі адстае. Мы маем толькі квартальную адчотнасць, г. зн. на сёння можам даць лічбы толькі на 1 красавіка, але ва ўсякім выпадку, нават па ўсіх падліках рост калектывізацыі ў нас будзе не большы, чым на 10—12 проц., а то і менш за вясну.

Пры тым агромным палітычным росце і пры той грамаднай дапамозе Саюза, якую мы атрымалі ў выглядзе насення, харчоў і т. д., мы маем зусім недастатковы рост калектывізацыі.

А адставанне цэлага раду раёнаў па сяўбе—хіба гэта не рэзультат нашай слабай арганізатарскай, палітычна-масавай работы. Гэта значыць, што кіраўніцтва адстала ад агромнага палітычнага, вытворчага ўздыму мас. Гэта значыць, што калгаснікі, працоўныя данага раёна па свайму палітычнаму росту стаяць вышэй, чым само кіраўніцтва.

Тав. Сталін у сваім гістарычным дакладзе на XVII з'ездзе партыі гаварыў:

> «Пасля таго, як дана правільная палітычная лінія, арганізацыйная работа вырашае ўсё, у тым ліку і лёс самой палітычнай лініі—яе выкананне, або яе правал.
>
> ...Трэба зразумець, што сіла і аўтарытэт нашых партыйна-савецкіх, гаспадарчых і ўсякіх іншых арганізацый і іх кіраўнікоў выраслі да небывалай ступені. І іменна таму, што іх сіла і аўтарытэт выраслі да небывалай ступені—ад іх работы залежыць цяпер усё, або амаль усё. Спасылка на так званыя аб'ектыўныя умовы не мае апраўдання. Пасля таго, як правільнасць палітычнай лініі партыі пацверджана вопытам раду год, а гатоўнасць рабочых і сялян падтрымаць гэту лінію не выклікае больш сумненняў,—роля так званых аб'ектыўных умоў звялася к мінімуму, тады як роля нашых арганізацый і іх кіраўнікоў стала рашаючай, выключнай. А што гэта значыць? Гэта значыць,

што адказнасць за нашы прарывы і недахопы ў рабоце кладзецца ад гэтага часу на дзевяць дзесятых не на «аб'ектыўныя» ўмовы, а на нас саміх, і толькі на нас».

Іменна зараз, як ніколі, трэба паднясць на выключна высокі ўзровень нашу палітыка-масавую работу. Іменна зараз, як ніколі, нам трэба заняцца ўнутрыпартыйнай работай. У нас-жа парткамітэтаў, партгруп на вёсцы яшчэ мала, іх амаль няма. Нашы комуністы ў вёсках жывуць адзінкамі і раскіданы па вёсках і калгасах. Вельмі важна і неабходна сабраць гэтых адзіночак-комуністаў, пагаварыць з імі, выясніць, чым яны жывуць. Трэба іх часцей збіраць. Калі ў маштабе раёна, або ў маштабе зоны МТС гэта трудна зрабіць, то збірайце комуністаў па паасобных участках.

Возьмемся-ж за справу, таварышы, з яшчэ большай энергіяй з тым, каб сапраўды забяспечыць быструю і без страт уборку ўраджаю і поўнае выкананне абавязацельстваў перад дзяржавай—гэтай першай запаведзі калгасніка.

---

**В. Кладавікоў**

# Аб рабоце харчовай прамысловасці Наркамснаба БССР за 5 месяцаў 1934 года

У рашэнні майскага пленума ЦК КП(б)Б аб рабоце прамысловасці БССР работа прамысловасці НКСнаба, як і іншых наркаматаў, прызнана зусім нездавальняючай. Разам з тым адзначана, што «намеціўся некаторы ўздым у рабоце паасобных прадпрыемстваў харчовай прамысловасці БССР.

Пленум ЦК КП(б)Б разам з тым лічыць, што прамысловасцю БССР зроблены толькі першыя крокі ў справе барацьбы за ажыццяўленне гістарычных указанняў тав. Сталіна, рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б. Перад харчовай прамысловасцю стаяць агромнейшыя задачы, на вырашэнне якіх павінны быць мабілізаваны ўсе сілы, энергія і ініцыятыва ўсіх работнікаў.

Харчовая прамысловасць Наркамснаба БССР промфінплан за 5 месяцаў 1934 г. выканала зусім нездавальняюча і вышла з агромным прарывам у 7 мільёнаў рублёў.

Выходзячы з 5-месячнага плана, па асноўнай вытворчасці (без тарных прадпрыемстваў) харчовая прамысловасць павінна была выпусціць рознай прадукцыі на 65 млн. рублёў, што складае 40 проц. гадавога плана. Фактычна за 5 месяцаў гэтага года выпушчана прадукцыі на 58 млн рублёў, што складае 89,1 проц. плана, гадавы-ж план выканан толькі на 35,5 проц.

Рэспубліканская прамысловасць выканала план ніжэй саюзнай прамысловасці, план па рэспубліканскай прамысловасці выканан толькі на 87 проц. пры выкананні плана саюзнай прамысловасці на 91,9 проц. Па рэспубліканскай прамысловасці недадана прадукцыі на 5 млн. руб., па саюзнай на 2,3 млн. руб. Іншымі словамі, рэспубліканская прамысловасць, г. зн. тая прамысловасць, якой Наркамснаб больш за ўсё займаецца, выканала план горш, чым галіны саюзнай прамысловасці.

У параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года, харчовая прамысловасць ідзе ўперад і аб'ём вытворчасці павялічыўся на 8 проц. або на 4 з лішнім мільёна руб., у тым ліку па рэспубліканскай прамысловасці павялічыўся на 18,4 проц., па саюзнай зменшыўся на 2,5 проц.

З агульнай сумы недаданай прадукцыі рабочаму спажыўцу ў 7 млн. руб., асноўны прарыў падае на студзень і люты месяцы, на працягу якіх недадана прадукцыі на 5,6 млн. руб. Калі для некаторых прадпрыемстваў Менска, Гомеля на працягу студзеня і лютага месяцаў мелі месца перабоі ў снабжэнні палівам і электраэнергіяй, то ў адносінах абсалютнай большасці прадпрыемстваў гэта аб'ясняецца

няўменнем працаваць, няўменнем з першых дзён новага гаспадарчага года развіць тэмпы і роўнамерна з месяца ў месяц весці вытворчасць.

Месячная дынаміка выканання плана паказвае крывую паступовага нарастання з месяца ў месяц, так напр.: план за студзень месяц выкананы на 79,1 проц., за люты на 81,2 проц., за сакавік—92,9 проц., красавік—89,8 проц. і за май месяц на 106,5 проц.

Гэта пацвярджае тое становішча, што першыя месяцы прадпрыемствы працавалі з прахладцам, не разгарнулі сапраўднай барацьбы з некаторымі меўшыміся труднасцямі, звычайна ўзмацнялі тэмпы работы к канцу квартала. У сакавіку агромны ўплыў аказала разгорнутая падрыхтоўчая работа к 1 Усебеларускай вытворчай тэхнічнай канферэнцыі харчовай прамысловасці. Выкананне майскага плана на 106,5 проц. гаворыць аб тым, што мы сапраўды маем усе магчымасці для выканання плана.

Задача гаспадарнікаў састаіць у тым, каб ліквідаваць штурмаўшчыну ў рабоце прадпрыемстваў, замацаваць узровень, дасягнуты ў маі месяцы, і планамерна весці вытворчасць, паставіўшы сваёй задачай у што-б там ні стала ліквідаваць агромную запазычанасць народнай гаспадарцы, якая стварылася за мінулыя месяцы па прамысловасці Беларусі, і перш за ўсё ў харчовай прамысловасці Наркамснаба, займаючай па прарыву першае месца.

Невыкананне плана сцягнула ўніз і ўсе астатнія паказчыкі: не выканана заданне па росту прадукцыйнасці працы, у перарасходзе фонда зарплаты.

Зусім нездавальняючае выкананне плана па якасных паказчыках. Заданне па зніжэнню сабекошту па трох рэспубліканскіх трэстах (Белкмо, Белброд і Белмасламарг) не выканана: у 1-м квартале замест зніжэння на 0,8 проц. атрымалася павышэнне на 1,4 проц.

Па палепшанню якасці прадукцыі намеціліся наступныя змяненні ў асартыменце і якасці вырабаў: на Магілеўскім браварным заводзе ў 1933 г. выпускаўся адзін сорт піва і 5 сартоў безалкагольных напіткаў. У 1-м квартале 1934 г. выпускаецца 4 сарты піва і 6 сартоў безалкагольных напіткаў. На кандытэрскай фабрыцы «Комунарка» у 1933 г. выпускалася 12 сартоў вырабаў, у 1-м квартале 34 г. выпускаецца 24 сорта. Прычым некаторыя сарты вырабаў, як «Дырыжабль», «Пamадныя» і буйны размер карамелі, зусім зняты з вытворчасці. Па «Спартаку» у 1933 г. выпускалася 7 сартоў, у 1-м квартале 1934 г.—19 назваў, 26 сартоў.

Па мясной прамысловасці ў 1933 г. выпускалася 3 сорта каўбасных вырабаў, у 1-м квартале 1934 г. выпускаецца 12 сартоў і лепш выкарыстоўваецца жывая вага жывёлы на мясакамбінатах. Малочная кіслата выпускалася ў 1933 г. моцнасцю 22°—30°, у 1-м квартале 1934 г.—36,4°; па масладзельнай галіне сярэдняя бальнасць масла ў 1933 г.—80,9, у 1-м квартале—82,36, пры стандарце ў 83,5. Упершыню дасягнулі выпуску масла 1-га сорту.

Большасць трэстаў і прадпрыемстваў за першы квартал 1934 г. па якасных паказчыках маюць мізэрныя рэзультаты. Гэта лепш за ўсё характарызуе тое, што цэнтральныя пытанні ў плане 1934 г., якімі з'яўляюцца якасныя паказчыкі, не стаяць у цэнтры ўвагі нашых гаспадарнікаў. Гаспадарнікі не аўладалі гэтымі пытаннямі і не займаюцца імі.

У раённым разрэзе асноўны прарыў падае на: гомельскія прадпрыемствы, выканаўшыя план за 4 месяца на 75,8 проц., з прарывам у 3 млн. руб.; на менскія прадпрыемствы, выканаўшыя план на 77,4 проц.,

з прарывам у $2^1/_2$ млн. руб.; на магілеўскія прадпрыемствы, выканаўшыя план на 80,1 проц. з прарывам у 400 тыс. рублёў.

Па выкананню плана ў цэннасным выражэнні з лепшымі паказчыкамі вышлі віцебскія прадпрыемствы—99 проц., аршанскія—109 проц.

XV з'езд КП(б)Б у рэзалюцыі па дакладу т. **Гікало** падкрэсліў агромную адказнасць усёй КП(б)Б у справе рашучага палепшання работы харчовай прамысловасці.

Гомель, які налічвае каля 20 харчовых прадпрыемстваў, у тым ліку і такія буйныя, як маргарынавы завод «Спартак», «Чырвоны хімік» і інш., якія стаяць па ўдзельнай вазе ва ўсёй прамысловасці БССР на першым месцы (20,7 проц), маюць не дрэнныя кіруючыя кадры работнікаў—па выкананню плана стаіць на апошнім месцы.

Гэта становішча даволі ярка гаворыць аб тым, як Гомельская партарганізацыя кіруе, кантралюе работу харчовых прадпрыемстваў і дапамагае ім.

На сёнешні дзень, на жаль, прыходзіцца канстатаваць, што, не гледзячы на тое, што прайшло больш 5-ці месяцаў з дня апублікавання адозвы ЦК ВКП(б), ад 22 снежня 1933 г., не гледзячы на праведзімы Ўсесаюзны агляд харчовых прадпрыемстваў, не гледзячы на пастанову ЦК КП(б)Б, ад 9/V-34 г., аб харчовай прамысловасці Наркамснаба —адносіны раду гарадскіх і раённых камітэтаў КП(б)Б да харчовых прадпрыемстваў мала змяніліся. Яны па-ранейшаму не ўдзяляюць ім дастатковай увагі, не ўзначальваюць барацьбу за рэалізацыю адозвы ЦК.

Між іншым, прыкладна ў 20 раёнах БССР харчовая прамысловасць ва ўсёй прамысловасці, распалажанай на тэрыторыі даных раёнаў, займае асноўнае месца. Раённыя-ж камітэты партыі і РВК і пры гэтым становішчы не займаюцца харчовымі прадпрыемствамі, як гэта належыць.

Калі ўзяць раённы разрэз плана 1934 г. па валавой прадукцыі, то харчовая прамысловасць у Нараўлянскім раёне займае 76,5 проц., у Клімавіцкім—72,5 проц., у Жлобінскім—66,2 проц., у Расонскім—63 проц., у Чавускім—61,3 проц., Чырвонапольскім—60 проц., Мсціслаўскім—59,8 проц., Гарадоцкім—57,6 проц. і т. д. І не гледзячы на гэта, напр., работнікі Нараўлянскага РК КП(б)Б, пры звароце дырэктара кандытэрскай фабрыкі т. Штэйнгарта за дапамогай, адказалі, што «з цукерак соцыялізма не пабудуеш».

Аднак усё гэта ні ў якой ступені не здымае адказнасці за дрэнную работу харчовых прадпрыемстваў з нас, працуючых непасрэдна ў гэтай галіне. Гаспадарнікі, спецыялісты і рабочыя харчовых прадпрыемстваў у першую чаргу адказваюць за дрэнную работу харчовых прадпрыемстваў.

XV з'езд КП(б)Б асоба адзначыў у рэзалюцыі аб падцягванні адстаючых галін: плодагароднай, масладзельнай, птушкавай і рыбнай прамысловасці, але гэта рашэнне з'езда на сёнешні дзень не выканана.

Выкананне плана харчовай прамысловасці зрываюць наступныя галіны: дражджавая прамысловасць, выканаўшая план на 68,8 проц., недадаўшая прадукцыі на 970 тыс. руб.; завод малочнай кіслаты, які выканаў план на 45 проц., не дадаў прадукцыі на 440 т. руб.; маргарынавы завод—выканаў план на 63 проц. і не дадаў на 858 т. р. Надзвычай дрэнна працуе плодагародная прамысловасць, выканаўшая план на 43,3 проц., недадаўшая 920 т. р., прычым буйнейшы і механі-

заваны завод у сістэме Белплодгародніны—Магілеўскі гароднесушыльны завод працаваў вельмі дрэнна, усляпую, зусім не асвоіў вытворчасці, транжырыў сыравіну, як за кошт недаатрымання яе ад калгасаў па захавальных распісках, так і за кошт агромнага перарасходу сыравіны (замест 6,5 тон па плану—ад 8—9 тон адну тону сухата).

За такую работу павінны адказваць і кіраўнік Белплодгародніны т. **Анікейчык** і трыкутнік завода тт. **Чыж** і **Гваздзёў.**

У агідным стане знаходзіцца ўся сістэма Белсадвінпрома, дзе на большасці заводаў безгаспадарчасць, якая даходзіць аж да злачынстваў, затаварванне, нізкая якасць прадукцыі. Зусім нягодная пастаноўка работы ў рыбнай прамысловасці, якая патрабуе прыняцця самых рашучых мерапрыемстваў па ўпарадкаванню ўсёй справы, пачынаючы ад рыбацкай брыгады і канчаючы трэстам, па перагляду ўсёй сістэмы размеркавання ўладаемаў і іх эксплаатацыі, а то ў сучасны момант рыбу ловяць усе, але толькі не Белрыбтрэст; і агромная колькасць рыбы не даходзіць да рабочага спажыўца.

Зусім нездавальняюча працуе масладзельная прамысловасць, прадстаўляючая сабой агромную сець у складзе 270 заводаў, 500 сепаратарных пунктаў, 1 500 зліўных пунктаў, дробных прадпрыемстваў, раскіданых па раёнах, якімі трэст Маслапрома (тт. Жалезны, Тімохін) зусім дрэнна кіруе.

Узначальваючыя гэтыя галіны прамысловасці тт. Жалезны, Анікейчык, Канцлер, Рабіновіч, Харун і Чыж—павінны прадставіць ітогі работы за 5 мес. і па-большэвіцку заявіць, што або яны справяцца з работай і ў далейшым забяспечаць выкананне плана, або яны не могуць працаваць, не могуць кіраваць і павінны быць адстаронены ад работы.

Няхай гэтыя таварышы прыгледзяцца да вопыту работы тых галін прамысловасці, якія перавыканалі план за 5 месяцаў. Так маслабойная прамысловасць за 5 месяцаў выканала план на 109,8 проц., мясная—на 106,5 проц., махорачная—на 108,6 проц., безалкагольная—на 130,6 проц.

Перадавыя прадпрыемствы, выканаўшыя план (броварны завод «Пролетарый», Оршанскі мясакамбінат, махорачная фабрыка, броварны завод імя Бебеля—у Віцебску, віцебскі мясакамбінат і інш.) павінны ўзяць на грамадскі буксір адстаючыя прадпрыемствы і паказаць лепшыя прыклады перавыканання ўсіх якасных паказчыкаў, выпуску прадукцыі лепшай якасці, правядзення найстражэйшых санітарнагігіенічных мерапрыемстваў.

У палепшанні санітарна-гігіенічнага становішча прадпрыемстваў за час, прайшоўшы з дня апублікавання адозвы ЦК ВКП(б), ад 22 снежня 1934 г., у цэлым радзе прадпрыемстваў маюцца дасягненні, якія значна змянілі знешні твар гэтых прадпрыемстваў. Гэта толькі першы этап барацьбы, але не ўсе прадпрыемствы яго прайшлі. Напр., завод «Беларусь» у Менску, гароднесушыльны завод у Магілеве, макаронная фабрыка ў Барысаве, Нараўлянская кандытэрская фабрыка, вінакураны, масладзельныя заводы і інш.

Прадпрыемствам, дабіўшымся лепшых і прытым вельмі нязначных рэзультатаў, ліквідаваўшым кідаючыяся ўсім у вочы агіднасці, але не даўшым ніякага руху ўперад, як «Спартак»,, «Комунарка», трэба правесці яшчэ больш упорную барацьбу за асартымент, за якасць, за стан абсталявання, паглядзець на многа больш практычнае, не заспакойваючыся знешнім паказным бокам.

Правадзімы агляд харчовых прадпрыемстваў павінен мабілізаваць

увагу рабочых да гэтых пытанняў, разгортваючы соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

Калі ў рабоце паасобных прадпрыемстваў у тым квартале мелі месца перабоі ў снабжэнні палівам і электраэнергіяй, тым больш нецярпімым з'яўляецца тое, што торфаздабыча і торфавывазка, правадзімая Белдзяржспіртам (тав. **Кузьмічоў**) і Белкмо (тав. **Трыфсік**)—самастойна для вінакураных і крахмальных заводаў у красавіку і маі—праходзяць нездавальняюча. Замест таго, каб сезон пачаць 20/IV, большасць заводаў пачалі з вялікім спазненнем, а Стрэлічэўскі, Кармянскі, Рудабелкаўскі вінакураныя заводы не пачалі яшчэ і 25/V. Дземіхаўскі і Паўлівіцкі вінакураныя заводы, маючыя заданне—13 тыс. тон з 40 т. тон, г .зн. $1/3$ усяго плана па Белдзяржспірту, яшчэ не атрымлівалі лакамабіляў і таму элементарныя машыны яшчэ не пушчаны.

Тт. Кузьмічоў і Трыфсік павінны ўзяцца за гэту справу самі і пасур'ёзнаму, не перадавяраючы гэту важнейшую работу на трэцеступенных работнікаў.

Калі харчовыя прадпрыемствы адчуваюць напружанае становішча з тарай і піламатэрыяламі, тым больш трэсты і прадпрыемствы павінны зараз-жа разгарнуць работу па загатоўцы тары і паліматэрыялаў. Трэба самім распільваць кругляк, сушыць і стварыць абавязковы пераходзячы запас тары на ўсіх харчовых прадпрыемствах. Ад гандлюючых арганізацый патрабаваць сваечасовага звароту тары.

Цэлы рад сезонных галін закончыў або заканчвае работу: крахмальныя заводы, вінакураныя, плодагародныя і іншыя прадпрыемствы рыхтуюцца к адпуску ў III квартале. Неабходна ў гэтым годзе узяць пад асобы нагляд рамонтную кампанію, не дапускаючы самацёку і саматужніцтва. Кожны трэст павінен распрацаваць календарны план рамонту сваіх прадпрыемстваў з тым, каб астаноўка прадпрыемстваў была падпарадкавана інтарэсам вытворчасці, для найбольш мэтазгоднага і эканомнага расходвання сродкаў і матэрыялаў, з улікам таго, што патрабуецца зараз ад харчовага прадпрыемства адозвай ЦК ВКП(б).

Наступная чарговая задача, якая стаіць перад харчовымі прадпрыемствамі—гэта падрыхтоўка і лепшае правядзенне загатоўчай кампаніі па забеспячэнню прамысловасці сыравінай ураджаю новага года. Праверыць заключаныя дагаворы на кантрактацыю пладоў, ягад, гародніны, асабліва па новых відах сыравіны: белая гарчыца, рэвень, тапінамбур і інш. Забяспечыць разнастайны асартымент сыравіны, каб не паўтарылася карціна мінулага года, калі кандытэрскія, вінадзельныя і безалкагольныя прадпрыемствы працавалі на адной клюкве, пры наяўнасці ў БССР багацейшых запасаў культурных і дзікарастучых пладоў і ягад, і забяспечыць поўную захаванасць і добраякаснасць сыравіны як пры з'ёмцы, транспартыроўцы і хаванні. Трэба падрыхтавацца к таму, каб прыняць і захаваць з ураджаю 34 г. для вінакурнай, крахмальнай і плодагароднай прамысловасці 300 тыс. тон бульбы.

На другое паўгоддзе 1934 г. кожнаму прадпрыемству трэба занова перагледзець увесь асартымент усіх вырабаў у бок максімальнага расшырэння, уводу новых вырабаў у праграму, палепшання рэцэптуры і знешняга афармлення прадукцыі. Нельга далей цярпець такога становішча, калі ў мяккіх цукерках пераважаюць памадныя сарты, у безалкагольнай—клюквены квас, прычым выпускаецца вялікі процант без паперак, напіткі і дрожджы—без этыкетаў і т. д.

За прайшоўшыя 5 месяцаў не праведзена перабудова ўсёй работы зверху да нізу, яна ў многіх выпадках заменена гаварыльняй. Цэлы

рад мерапрыемстваў не даведзен да канца. Да гэтага часу не зжыты яшчэ элементы канцылярска-бюракратычнага кіраўніцтва. Апарат Наркамснаба ў цяперашнім сваім выглядзе не здолен аператыўна і канкрэтна кіраваць прадпрыемствамі. Апараты трэстаў адарваны ад прадпрыемстваў і не аказваюць ім сістэматычнай і канкрэтнай дапамогі, спецыялісты адсіжваюцца ў апаратах (Белдзяржспірт, Белсадвінпром, Белкмо і інш.). Штодзённае, жывое, аператыўнае кіраўніцтва падмянялася рассылкай цыркуляраў, загадаў і інструкцый. Так, напр.: па Белсадвінпрому за першы квартал 1934 г. спушчана 55 загадаў; быўшы дырэктар кандытэрскай фабрыкі «Комунарка» ухітраўся ў дзень выпускаць па 2 загады.

Праведзеныя мерапрыемствы па змене кіраўніцтва цэлага раду трэстаў, напр: Белптушкапрадукт—Безбародава, Белсадвінпром—Трубіцына, Белрыбтрэст—Кісліца, дырэктара фабрыкі «Комунарка», раду дырэктароў вінадзельных і вінакурных заводаў і т. д.—далі станоўчыя рэзультаты і яшчэ раз пацвердзілі, што асноўнае залежыць ад людзей; ад таго, як яны арганізоўваюць работу, як яны змагаюцца за выкананне плана.

Змена кіраўніцтва на фабрыцы «Комунарка» і папаўненне яе радам іншых работнікаў прывялі к таму, што фабрыка ўпершыню перавыканала план і за красавік і за май месяцы. Перад фабрыкай «Комунарка» з усёй вастрынёй павінна зараз паўстаць пытанне аб якасці прадукцыі і аб якасці работы.

Асабліва важна падкрэсліць тую акалічнасць, што падбор кіруючых кадраў харчовай прамысловасці праводзіўся часта недастаткова сур'ёзна, адбываліся частыя змены і мабілізацыі. Так, напр.: дырэктара вінадзельнага завода «Спартак» тав. Палея Оршанскі райком 5 раз прабаваў перакінуць на іншую работу і толькі пасля ўмяшання ЦК яго замацавалі за харчовай прамысловасцю. Неаднаразова Магілеўскі РК прабаваў перакінуць тав. Ліўшыца з грамаднай і важнай пабудовы рыхтуючагася к пуску косцеапрацоўчага завода. Запатрабавалася ўмяшанне ЦК, каб пакінуць на рабоце парторга Віцебскага мясакамбіната тав. Мейціна і, нарэшце, запатрабавалася пастанова Бюро ЦК КП(б)Б ад 9/V-34 г., каб наогул спыніць самавольнае зняцце кіруючых работнікаў, перакідку і мабілізацыю без узгаднення з Наркамснабам. Аб адносінах да падбору кадраў у радзе партыйных арганізацый сведчыць такі факт: аднаго работніка пасля выключэння яго з партыі перавялі на работу ў Белплодгародніну, пасля-ж таго, як гэтага таварыша аднавілі ў партыі, ён райкомам партыі быў перакінут на работу ў райза.

Наша задача заключаецца ў тым, каб праверыць і вывучыць увесь кіруючы склад прамысловасці, замацаваўшы яго на доўгі тэрмін на пэўнай рабоце, расціць яго на рабоце і прымусіць кожнага гаспадарніка ў найкарацейшы тэрмін аўладаць тэхнікай вытворчасці і дэталямі ўсёй работы.

Да гэтага часу на прадпрыемствах вакол пытанняў вытворчасці няма разгорнутай масава-палітычнай работы. Комуністы на радзе прадпрыемстваў не ўсведамляюць яшчэ той адказнасці, якую на іх ускладае партыя ў разгортванні работы харчовай прамысловасці.

Трэба дабіцца паспяховага вырашэння чарговых задач, стаячых перад прамысловасцю, замацаваць узровень дасягнутага ў выкананні плана і рушыць уперад рост прамысловасці. Справа гонару ўсіх работнікаў харчовай прамысловасці—рэалізаваць дырэктывы майскага пленума ЦК КП(б)Б.

---

А. Запескі

# Новаму ўраджаю большэвіцкую ўборку

У выніку большэвіцкай барацьбы ўсёй КП(б)Б за арганізацыю падрыхтоўкі і правядзення сяўбы ў паспяховым ходзе веснавой пасеўнай кампаніі атрыманы значныя перамогі. БССР побач з перадавымі краямі і абласцямі заваявала ў пасеўнай адно з перадавых месц у Совецкім саюзе.

Ранняе і паспяховае заканчэнне яравой сяўбы ў гэтым годзе, у параўнанні з папярэднімі гадамі, спрыяючыя кліматычныя ўмовы вясны—усё гэта садзейнічае ранняму паспяванню азімых і яравых зернавых культур.

Калгасы ў гэтым годзе павінны будуць убраць усіх зернавых 1 450 тыс. га, з іх азімых 730 тыс. га і яравых 720 тыс. га. Задача заключаецца ў тым, каб у максімальна кароткія тэрміны, своечасова і без страт убраць ураджай зернавых і забяспечыць своечасовае выкананне зарнапаставак высокаякасным зярном.

Да пачатку ўборкі зернавых засталося не многа часу, але прыходзіцца з усёй рашучасцю падкрэсліць, што рад калгасаў яшчэ не падрыхтаваўся к сустрэчы ўборкі.

У справе падрыхтоўкі да ўборачнай у радзе месц наглядаюцца самацёк і благадушаскія настроі. Рад мясцовых арганізацый не ўзначаліў ягс на работу па падрыхтоўцы да ўборкі. Рад раёнаў і калгасаў паўяго на работу па падрыхтоўцы да ўборкі. Рад даёнаў і калгасаў паўтарае леташнюю практыку—усё яшчэ раскачваецца, прычым раскачваецца недапушчальна слаба. Наглядаецца мітусня са сходамі, нарадамі, паседжаннямі, наогул балтаўні многа, а канкрэтнай справы мала. А трэба сабе ўясніць, што несвоечасовасць падрыхтоўкі да ўборкі можа загубіць справу, бо непадрыхтаванасць дасць сябе адчуць з першых дзён уборкі і прывядзе да зацяжкі работы і вялікіх страт ураджаю.

Паспяванне, як ужо відаць, яравых хлябоў адначасова з азімымі, абавязвае нас загадзя быць у поўнай гатоўнасці, каб з першых-жа дзён уборкі узяць максімальна вялікія тэмпы і ўключыць у работу ўсю наяўную колькасць рабочай сілы і машын. Таму правільная арганізацыя работ па ўборцы—неабходная і важнейшая задача. Тут перш за ўсё маецца на ўвазе планаванне, якім павінны быць ахвачаны ўсе калгасы, брыгады і звенні.

Павінна быць аб'яўлена рашучая барацьба з усякімі праявамі апартунізма, жаданнем пусціць справу падрыхтоўкі і правядзення ўборкі на самацёк. Комуністы, комсамольцы і актывісты-калгаснікі павінны ўзначаліць барацьбу за лепшую і своечасовую ўборку ўраджаю і выкананне хлебапаставак. Барацьба за выкананне гэтых задач павінна быць разгорнута з такой-жа энергіяй і настойлівасцю, з якой перада-

вые калгасы і раёны вялі яе ў гэтым годзе за раннія тэрміны сяўбы яравых, за поўнае выкананне сваіх планаў сяўбы, за ўзняццё ўраджайнасці. Толькі пры гэтых умовах могуць быць цалкам рэалізаваны перамогі большэвіцкай вясны гэтага года і забяспечана выкананне лозунга правадыра партыі т. **Сталіна** аб тым, каб «зрабіць усе калгасы большэвіцкімі, а калгаснікаў заможнымі».

Невялікі адрэзак часу, які астаўся да пачатку ўборкі зернавых, трэба скарыстаць на тое, каб прывесці ў поўную гатоўнасць усе ўборачныя і малацільныя машыны, забяспечыць іх быстразнашваючыміся часткамі, прапрацаваць пытанне арганізацыі працы і інш.

СНК БССР і ЦК КП(б)Б у сваіх пастановах адзначылі, што патрэбна

> «уборку пачынаць не чакаючы агульнага выспявання ўсіх пасеваў, убіраючы ўчасткі па меры іх выспявання. Уборку жыта, ячменю і пшаніцы праводзіць у час васковай спеласці».

Для выканання гэтага ўказання трэба, каб праўленні калгасаў і асабліва брыгадзіры паляводчых брыгад сачылі за паспяваннем пасеваў гэтых культур, на паасобных участках і па меры выспявання неадкладна пачыналі работу. Там, дзе гэта ўказанне будзе ігнаравацца і будуць чакаць выспявання пасеву на ўсіх участках, то вядома, што пасевы, раней паспеўшыя, пачнуць асыпацца і ў рэзультаце калгас будзе мець вялікія страты ўраджаю.

Трэба рашуча папярэдзіць практыку «лявацкіх» заскокаў, меўшую месца ў радзе калгасаў у мінулым годзе, калі жыта і інш. зернавыя культуры пачалі жаць зялёнымі, не выспеўшымі, чым таксама былі нанесены вялікія страты.

* * *

Рашучая барацьба са стратамі ўраджаю ў час уборачнай кампаніі гэтага года з'яўляецца адказнейшай задачай. На барацьбу за ахову калгаснага ўраджаю трэба падняць усю калгасную масу, ад школьніка-піонера і да старыка, пад лозунгам—не даць прапасці ні аднаму каласку, ні аднаму зярняці.

Трэба павесці шырокую масавую работу і раз'ясніць усім калгаснікам, што чым менш будзе страт пры ўборцы, тым больш будзе сабрана ўраджаю, тым больш атрымаюць калгаснікі прадуктаў і грошай за свае працадні, тым хутчэй былыя беднякі і серадлякі-калгаснікі падымуцца да ўзроўню заможных і будуць адчуваць перавагу калгаснага жыцця.

Вялікія страты і недабор значнай колькасці прадукцыі ўраджаю атрымліваюцца перш за ўсё ад таго, што ўборка праводзіцца несвоечасова, са спазненнем, у сувязі з чым зярно ад перастойвання абсыпаецца. Апрача таго, вялікія страты атрымліваюцца ад самой якасці ўборкі, напрыклад: пры жніве на дрэнна ўстаноўленай, не адрэгуляванай машыне, пры вязцы, зносцы, пастаноўцы ў бабкі і возцы снапоў, пры ўкладцы снапоў у скірды, малацьбе і інш. Для таго, каб уявіць сабе размер страт зярна толькі пры ўборцы, досыць прывесці наступныя даныя: страта аднаго толькі процанту ад агульнай лічбы ўраджаю зернавых з пасеўнай плошчы гэтага года пры сярэднім ураджаі можа скласці 1 млн. 200 тыс. пудоў. На падставе праведзеных падлікаў устаноўлена, што пакіданне на полі толькі двух каласоў на кв. метр уборачнай плошчы дае страты не менш, як адзін пуд з кожнага гектара.

Каб зніштожыць страты ўраджаю пры ўборцы неабходна правесці рад мерапрыемстваў: пры жніве забяспечыць усе жняяркі зернаўлаві-целямі, рашуча зламаўшы косныя і наплявацельскія адносіны да гэтага мерапрыемства; матэрыяльна заахвочваць работнікаў на жняярках, каб яны лепш скарыстоўвалі зернеўлавіцелі; вязка ў снапы сухога зярна павінна праводзіцца следам за ўборкай, а вільготнага пасля прасыхання, але ні ў якім разе не пазней аднаго дня пасля зрэзкі хлябоў; зносіць снапы і ставіць у бабкі трэба асцярожна, каб не вымалочваць зярно, а пасля зноскі снапоў, пастаноўкі іх у бабкі і пасля звозцы з поля неабходна падграбаць каласы; пры перавозцы снапоў з поля павозкі трэба шчыльна абабіць лубкамі або дошкамі і падаслаць брэзенты, подсцілкі, саламяныя маты і інш.; перад укладкай снапоў у скірды падніз трэба падаслаць жэрдкі і салому, складванне рабіць каласамі ўсярэдзіну і ўверх, скірду пасля заканчэння прыкрыць саломай. Пры правядзенні ў жыццё гэтых прасцейшых мерапрыемстваў калгасы зберагуць мільёны пудоў хлеба і для дзяржавы і для саміх сябе.

Класавы вораг—кулакі, падкулачнікі, гультаі, прагульшчыкі, рвачы—скарыстаюць малейшае аслабленне ў ахове калгаснага ўраджаю, яны прымуць усе меры, каб пажывіцца за кошт калгаснікаў. Таму пастаноўка належнай аховы калгаснага ўраджаю павінна стаць у цэнтры ўвагі ўсіх праўленняў калгасаў, брыгадзіраў паляводчых брыгад і ўсіх чэсных калгаснікаў. ЦК і СНК сваімі пастановамі аб ахове калгаснага ўраджаю ўсклалі адказнасць за ахову на брыгаду і яе брыгадзіра. Таму не чакаючы поўнага выспявання ўраджаю, брыгадам трэба вызначыць вартаўнікоў для аховы ўраджаю ў полі, а праўленні калгасаў вызначаюць спецыяльных аб'езчыкаў для аб'езду палёў калгасаў па ўсіх брыгадах для праверкі вартаўнікоў, вылучаных брыгадамі.

Побач з найстражэйшай аховай калгаснага ўраджаю павінен быць наладжан і забяспечан належны ўлік збіраемага ўраджаю і абмалочанага хлеба. Памяшканні, вызначаныя пад складванне ўраджаю, павінны быць належным чынам падрыхтаваны, зарэгістраваны ў праўленні калгаса і забяспечаны адпаведнымі запорамі і замкамі. На звазімы з поля ўраджай камісіяй, з удзелам брыгадзіраў, кладаўшчыкоў і вартаўнікоў, павінны складацца адпаведныя акты.

Асаблівая ўвага павінна быць звернута на ўлік зярна пры малацьбе, перавозцы хлеба з току на здатачны пункт і ў калгасныя свірны. Справу трэба паставіць так, каб здача і прыёмка праводзіліся на вазе з належным афармленнем дакументаў на здачу і прыёмку.

Неабходна так разгарнуць масава-палітычную работу вакол уборкі, каб кожны калгаснік зразумеў, што ўлік і кантроль, якія ўнядрае дзяржава ў калгасах, неабходны як у інтарэсах дзяржавы, так і калгаса ў цэлым і кожнага калгасніка ў паасобку. Без такога дакладнага ўліку і найстражэйшага кантролю будзе раздолле кулацкім элементам, зладзеям і гультаям, работа якіх накіравана на падрыў нашага пераможнага калгаснага будаўніцтва.

У планах уборачнай кампаніі кожны калгас павінен прадугледзець пытанні захавання ўбіраемага ўраджаю і зярна. У гэтым годзе не павінна быць тых нядбайна-злачынных адносін да збіраемага ўраджаю і ссыпаемага зярна, як у мінулым годзе, калі з-за дрэнна падрыхтаванага памяшкання звезены ўраджай псаваўся. Кожнай брыгадзе загадзя павінны быць вызначаны і падрыхтаваны памяшканні для ўкладкі ўраджаю. Для гэтага трэба адрамантаваць страхі, дзверы і інш.







Калгасы павінны засыпаць насенны і страхавы фонды, а таксама фураж для кармлення жывёлы таварных калгасных ферм і коняй. Тут таксама трэба падрыхтаваць свірны асобна для насенных і кармавых фондаў. Перад ссыпкай зярна свірны павінны быць праветраны і прадэзінфіцыраваны, каб не дапусціць заражэння зярна і паражэння яго шкоднікамі. Памяшканні, дзе будзе складзен ураджай і ссыпана зярно, павінны пільна ахоўвацца, бо недабітае кулацкае ахвосце будзе скарыстоўваць усякае аслабленне ў справе аховы калгаснага ўраджаю, каб падпалам памяшканняў і іншымі мерамі перашкодзіць нашай паспяховай соцыялістычнай рабоце.

У ахове калгаснага ўраджаю вялікую ролю павінен адыграць комсамол. У рабоце пажарных дружын, у арганізацыі і праверцы, пастаноўкі аховы—кожны комсамолец калгаса павінен штодзённа, штогадзінна прымаць удзел, ведучы за сабою ўвесь калгасны актыў, асабліва калгасную моладзь.

* * *

Паспяховае выкананне ўборкі будзе вырашаць пастаянная вытворчая брыгада. Вынікі веснавой пасеўнай кампаніі з усёй бясспрэчнасцю даказалі, што пастаянная вытворчая брыгада з'яўляецца адным з галоўных рычагоў у барацьбе за высокія тэмпы работы, за знішчэнне дробна-буржуазнай ураўнілаўкі і абязлічкі ў калгасах, за шырокі ўдзел усіх калгаснікаў у рабоце калгаса і за высокую прадукцыйнасць калгаснай працы.

Задачай усіх райкомаў, палітаддзелаў, парторгаў і праўленняў калгасаў з'яўляецца далейшае ўмацаванне пастаяннай вытворчай брыгады, правільнае пераключэнне яе з работ пасеўнай кампаніі на ўборачную з захаваннем свайго пастаяннага складу і правільная расстаноўка яе на ўборачных работах.

Унутрыбрыгадная здзельшчына ў час уборкі павінна быць пабудавана па звеннявой сістэме. Звенні ў брыгадах трэба арганізаваць так, каб унутры брыгад ліквідаваць абязлічку на заданых участках і захаваць пастаянства звяна спачатку і да канца пэўнага віду работ. Найбольш мэтазгоднай формай звяна ў брыгадах у час уборкі з'яўляецца камбінаванае звяно, склад якога выконвае некалькі звязаных паміж сабою відаў работ па ўборцы, як, напр.: жніво зернавых з вязкай і пастаноўкай у бабкі, малацьба, сартыроўка і адвозка зярна на здатачныя пункты і т. д.

Пры рабоце на машынах размер звяна вызначае машына-агрэгат. У залежнасці ад прадукцыйнасці машыны вызначаецца і замацоўваецца за звяном адпаведная катэгорыя работнікаў. Расстаноўку людзей унутры звяна трэба праводзіць з улікам іх вытворчага навыку, кваліфікацыі і зработанасці паміж сабою, забяспечыўшы для работы на машынах найбольш вопытных і падрыхтаваных работнікаў.

У радзе калгасаў мы маем узорныя прыклады арганізацыі звеннявой здзельшчыны ў брыгадах. З вопыту работы ў час уборкі мінулага года расстаноўку сіл у брыгадзе на аснове звеннявой здзельшчыны можна раіць наступным парадкам: напр., пры ўборцы зернавых малатарняй-снопавязалкай звяно складаецца з 6 чал., з якіх—3 працуюць на машыне, а 3 ставяць снапы ў бабкі. Пры ўборцы зернавых жняяркай-самаскідкай звяно складаецца з 9— 11 чал., з якіх—1 чал. працуе на машыне, 6—8 чал. для вязкі снапоў і 2 чал. для пастаноўкі снапоў у бабкі. Камбінаванае звяно можа быць арганізавана пры звозцы снапоў з поля і пры ўкладцы іх у скірды. У даным выпадку

пры сярэдняй адлегласці ад месца ўборкі да месца ўкладкі снапоў звяно складаецца з 9 чал., з якіх—4 чал. возчыкаў, 2 чал. падавальшчыкаў і 3 чал. для складання снапоў у скірды.

Работу калгаснікаў па ўборцы трэба арганізаваць так, каб максімальна ўзняць яе прадукцыйнасць і эфектыўнасць.

У час уборачнай як ніколі павінна быць пастаўлена пытанне поўнага скарыстання ўсёй наяўнасці рабочай сілы ў кожным калгасе. Тут асаблівую ўвагу трэба звярнуць на тое, каб найбольш скарыстаць рабочую сілу жанчын, падросткаў і старыкоў. У час уборкі работы хопіць усім, трэба толькі загадзя распланаваць, разлічыць і вызначыць кожнаму сваё месца.

Каб поўнасцю і рацыянальна скарыстаць на ўборачных работах усю жаночую сілу, калгасы павінны для жанчын, якія маюць малых дзяцей, арганізаваць і наладзіць работу дзіцячых яслей, хоць-бы спрошчанага тыпу.

Справу арганізацыі працы калгаснікаў і калгасніц на ўборачных работах трэба паставіць так, каб уся калгасная маса разгарнула сапраўдную большэвіцкую барацьбу за працадзень, за поўнацэнную яго аплату, за яго поўную захаванасць, не дапускаючы страты ні аднаго коласа, ні аднаго зярна.

Механізацыя ўборкі—справа агромнай гаспадарчай і палітычнай важнасці. Калгасы ў гэтым годзе машынамі павінны будуць убраць да 60 проц. зернавых пасеваў.

Безумоўна, што ў паасобных месцах будуць, як і ў мінулым годзе, праявы кулацкага сабатажу ў адносінах да поўнага скарыстання машын. Сабатаж гэты будзе праяўляцца ў розных формах, пад рознымі прадлогамі, як, напр., у разважанні аб тым, што машына не чыста жне, што ёю яшчэ не аўладалі, што прадукцыйнасць яе яшчэ нізкая, і таму рукамі можна больш убраць, а дзе-небудзь пастараюцца правесці і прамое шкодніцтва (псаванне машын) і інш.

З усёй рашучасцю трэба выкрываць кулацкі сабатаж у ігнараванні машын і носьбітам гэтых шкодных тэндэнцый і дзеянняў даваць сакрушальны адпор. Трэба мець на ўвазе, што машына ў гэтым годзе будзе вырашаць поспехі ходу ўборачнай кампаніі ўсіх зернавых культур, а таму справе падрыхтоўкі машын і яе поўнаму і рацыянальнаму скарыстанню павінна быць удзелена максімум увагі як у час падрыхтоўкі да ўборкі, так і ў час самой уборкі.

Яшчэ да пачатку ўборкі ўсе ўборачныя машыны павінны быць поўнасцю адрамантаваны і забяспечаны быстразнашваючыміся часткамі, каб у часе работ з-за якой-небудзь дробязі не было прастояў машын.

Даныя аб ходзе рамонту ўборачнага інвентара сведчаць аб тым, што становішча з рамонтам надзвычай дрэннае. Напр., па БССР план рамонту конных снопавязалак выканан толькі на 35 проц., а жнеярак-самаскідак на 45 проц. Па паасобных раёнах справа з рамонтам абстаіць яшчэ горш. Напр., у Любанскім раёне план рамонту жнеярак выканан толькі на 5,9 проц., у Чэрвеньскім—на 7 проц., Дубровенскім—на 11,5 проц.

Самым рашучым чынам і ў найкарацейшы тэрмін трэба пакончыць з недапушчальным становішчам рамонту ўборачнага інвентара і забяспечыць, каб з самага пачатку ўборкі ўсе машыны былі ўключаны ў работу. Машыны павінны быць поўна і эфектыўна скарыстаны. У заданнях, якія даюцца паляводчым брыгадам, трэба вызначыць норму для

машыны. К машыне дапускаць свядомых і падрыхтаваных калгаснікаў, ведаючых яе.

Значная частка машын будзе працаваць на конным цягле. Для работы ў жняярках трэба вылучыць і замацаваць добрых коняй і забяспечыць ім добры догляд і падкормку. Каб больш поўна загрузіць уборачныя машыны трэба арганізаваць зменную работу па спаранаму прынцыпу, не дапускаючы абязлічкі ў рабоце на машынах.

Ні ў якім разе нельга ігнараваць і ручной уборкі зернавых, маючы на ўвазе, што каля 40 проц. зернавых пасеваў павінна ўбірацца ручным спосабам. Трэба выкарыстоўваць косы, сярпы, граблі і інш., бо адсутнасць гэтых дробязей, якія на першы погляд як быццам і не маюць важнага значэння, будуць затрымліваць работу і не дадуць магчымасці поўнасцю і рацыянальна скарыстаць усю рабочую сілу.

Калгасны транспарт у справе забяспечання лепшай уборкі будзе іграць рашаючую ролю. Той калгас, які забяспечыць сябе транспартам, больш паспяхова і з найменшымі стратамі выйдзе з уборкі. Калгасы ў гэтым годзе павінны будуць звезці з палёў значную колькасць ураджаю, а таксама звезці на здатачны пункт прылічваючыяся з іх па пастаўках і кантрактацыі сельгаспрадукты.

У радзе калгасаў у выніку негаспадарчасці і кулацкай работы транспарт знаходзіцца ў вельмі дрэнным становішчы. Кожнаму калгасніку, кожнай брыгадзе і кожнаму калгасніку, да якога прымацаваны коні і транспарт, трэба зараз-жа ўзяцца за рамонт і прывесці ў поўную гатоўнасць увесь свой транспарт. Дробны рамонт павозак і збруі павінен быць зроблен самімі калгаснікамі, да якіх гэты інвентар прымацован, а вялікі ў майстэрнях калгаса. Пры правядзенні рамонту трэба скарыстоўваць матэрыялы з мясцовых рэсурсаў калгаса.

Адпаведнае месца ў рабоце кожнага сельсовета і кожнага калгаса к уборачнай кампаніі і хлебаздачы павінна заняць падрыхтоўка дарог. Маючы ў радзе сельсоветаў і калгасаў надзвычайнае бездарожжа, пры звозцы ўраджаю і перавозках зярна на здатачныя пункты могуць быць вельмі вялікія страты. Гэты год павінен з'явіцца годам шырокага будаўніцтва і рамонту дарог калгаснага, сельсовецкага і раённага значэння. Трэба ўзамен старых пабудаваць новыя мосцікі, а іншыя падрамантаваць. Калюжыны, ямы, касагоры павінны быць выроўнены шляхам правядзення адпаведных зямельных работ. Затраты на гэтых работах акупяцца поўнасцю, бо маючы добрую дарогу пры перавозцы ўраджаю будзе захован як перавозачны інвентар, так і частка самога ўраджаю.

* * *

Своечасовае і поўнае выкананне калгасамі зернапаставак дзяржаве лепшым па якасці зярном завершыць тыя поспехі, якія калгасы заваявалі ў час пасеўнай і заваюють ва ўборачнай кампаніі гэтага года. Дрэннае будзе тое кіраўніцтва калгаса, сельсовета, МТС, раёна, якое, адсвяткаваўшы перамогу пасеву і ўборкі, не забяспечыць своечасовага выканання плана зернапаставак. Справу трэба арганізаваць так, каб зярно з першага гектара ўборкі і першага абмалоту непасрэдна з-пад малатарні пайшло на склады Заготзярно. З першых-жа дзён работы неабходна падцягваць адстаючыя сельсоветы і калгасы шляхам аказання ім арганізацыйнай дапамогі. Работу праводзіць пад лозунгам—«ні аднаго адстаючага калгаса ў раёне».

Першачарговасць выканання калгасамі сваіх абавязацельстваў па здачы хлеба добраякасным зярном павінна быць унедрана ў сазнанне самых шырокіх мас калгаснікаў.

Вялікая работа пры гэтым выпадае на долю МТС, бо рашаючае ў своечасовым выкананні хлебапаставак—гэта абмалот. Неабходна прывесці ў гатоўнасць усе малатарні, правільна распланаваць іх работу і забяспечыць поўную нагрузку. Трэба чакаць, што ў некаторых месцах пад уплывам кулацкіх настрояў будзе праводзіцца сабатаж малацьбы машынамі МТС. Аднак нельга ісці і па такому шляху, як гэта было ў мінулым годзе, калі паасобныя калгасы не малацілі на простых, спасылаючыся на тое, што адміністрацыя МТС забараніла праводзіць малацьбу гэтымі машынамі, матывіруючы гэта як быццам-бы тым, што ёй, МТС, не будзе чаго рабіць.

Аб'ём работ МТС у кожным калгасе вызначан у дагаворы, а, як вядома, дагавор мае сілу закона і для калгаса і для МТС. Там, дзе МТС не зможа праводзіць абмалоту, трэба выкарыстаць поўнасцю ўсе маючыяся ў калгасе прывадныя і манежныя малатарні.

Адначасова з малацьбой трэба наладзіць зернаачыстку, тут-жа на таку, каб зярно, здаваемае на пункты, было першай якасці.

Насгул у час падрыхтоўкі к хлебапастаўцы трэба прадугледзець усе дробязі, каб у працэсе работы не было замінак, каб з-за таго, што няма завязак к мяшкам, не затрымлівалася адпраўка хлеба і т. д.

У час веснавой сяўбы гэтага года соцыялістычным спаборніцтвам былі ахвачаны вялікія масы калгаснікаў. Выявіліся тысячы лепшых барацьбітоў-ударнікаў, паказаўшых лепшыя ўзоры работы і барацьбы па правядзенню ў жыццё дырэктыў партыі і ўрада. У ходзе соцыялістычнага спаборніцтва шырока развіліся розныя формы самадзейнасці калгасных мас. У час сяўбы ў калгасах актыўна працавалі інспекцыі па якасці, у якіх прымалі ўдзел тысячы лепшых калгаснікаў. У час уборачнай кампаніі і ў час здачы сельска-гаспадарчай прадукцыі дзяржаве работу гэтых інспекцый трэба пашырыць і ўцягнуць у іх вялікую масу калгаснікаў.

Інспекцыі па якасці павінны яшчэ з большай, чым у час веснавой сяўбы, пільнасцю і напорыстасцю сачыць за тым, каб у час уборкі ні адзін колас, ні адно зярно не засталося няўбраным, каб зжаты хлеб быў своечасова звязан у снапы і звезен, каб не было ніякіх прастояў у час абмалоту; сачыць за якасцю абмалоту, ці не застаецца зярно ў саломе, ці не ўходзіць зярно ў палову, ці не рассыпаецца хлеб пры перавозцы і ці наладжаны належным чынам яго ахова і ўлік.

Формы самадзейнасці калгасных мас у час уборачнай кампаніі не могуць, вядома, абмяжоўвацца толькі інспекцыямі па якасці.

Павінна шырока практыкавацца ўзаемная праверка работы па выкананню заданняў у час уборкі і хлебапаставак дзяржаве паміж брыгадамі, калгасамі і інш. У гэту работу павінны быць уцягнуты ў першую чаргу калгаснікі-ўдарнікі—удзельнікі калгасных з'ездаў і з'ездаў выдатных людзей. Трэба ўсю масавую работу перанесці на поле, у брыгаду, звяно, прычым уся работа павінна быць пабудавана вакол канкрэтных пытанняў і мерапрыемстваў па выкананню задач партыі, па большэвіцкаму правядзенню ўборачнай кампаніі і выкананню плана хлебапаставак.

Партыйныя арганізацыі павінны ўдзяліць вялікую ўвагу рабоце сярод аднаасобнікаў. Разгортванню палітычна-масавай культурнай работы ў перыяд уборкі і хлебапаставак, аказанню рэальнай дапамогі аднаасобнікам па ўборцы ўраджаю, мабілізацыі іх увагі вакол своеча-

совай пастаўкі хлеба дзяржаве—гэтай задачы, як ніколі павінна быць удзелена агромная ўвага палітаддзелаў, раённых, нізавых партыйных і комсамольскіх арганізацый.

Каб з поспехам выканаць задачу ўборачнай і загатоўчай кампаній, трэба забяспечыць належную арганізацыю і аператыўнае кіраўніцтва ходам уборкі і хлебапаставак. Асноўная роля ў гэтай рабоце належыць сельпарткомам, партарганізатарам, праўленням калгасаў, сельсоветам, комсамольскім арганізацыям, палітаддзелам МТС і раённым кіруючым арганізацыям.

Астаткі разгромленага кулацтва безумоўна павядуць сваю падрыўную работу на паасобных участках нашай работы, каб сарваць намечаныя і правадзімыя мерапрыемствы па паспяховаму выращэнню задач уборачнай і загатоўчай кампаній. Яны пастараюцца выкарыстаць малейшае аслабленне пільнасці ў нашых паасобных работнікаў і нават устаноў, каб зацягнуць уборку, павялічыць страты ўраджаю, зацягнуць выкананне калгасамі сваіх абавязацельстваў перад дзяржавай па здачы сельска-гаспадарчых прадуктаў. Апіраючыся на ўзрослую актыўнасць калгасных мас, трэба даваць рашучы і сакрушальны адпор усякім кулацкім спробам сарваць мерапрыемствы, забяспечваючыя выкананне задач уборкі і хлебапаставак.

Убраць ураджай у максімальна кароткія тэрміны поўнасцю і без страт, своечасова выканаць абавязацельствы перад дзяржавай па здачы прадукцыі—вось баявая задача, выращэнне якой з'явіцца справай гонару для кожнага соўгаса, МТС, калгаса, кожнага калгасніка і кожнай брыгады.

---

П. Пасюкевіч

# Аб палітасветнай рабоце на вёсцы

*„Упэўнена і радасна глядзіць кожны рабочы і калгаснік на сваё будучае, прад'яўляючы ўсё больш патрабаванняў к ведам і культуры“ (з рэзалюцыі XVII з'езда ВКП(б)).*

Соцыялістычная рэканструкцыя народнай гаспадаркі паставіла пытанне аб культурнай рэволюцыі з асаблівай вастрынёй. Пытанне павышэння прадукцыйнасці працы, дысцыпліны, задача ўмацавання пролетарскай дыктатуры, барацьба з бюракратызмам у совецкім апараце патрабавалі фарсіравання культурнай рэволюцыі.

Першая пяцігодка была перыядам вялікага росту самых разнастайных палітыка-асветных мерапрыемстваў, адлюстраваўшых агульны культурны ўздым працоўных Совецкага саюза. Сетка хат-чытален у вёсцы з 21,3 тыс. павялічылася да 46,2 тыс. Апрача таго створана 1,5 тыс. дамоў соцкультуры.

За гады першай пяцігодкі ў галіне культурнага будаўніцтва праароблена агромная работа, якая значна рушыла краіну ўперад у галіне зжыцця розніцы ў культурным узроўні паміж горадам і вёскай, паміж разумовай і фізічнай працай і паміж разнастайнымі нацыянальнасцямі Совецкага саюза.

Дасягненні першай пяцігодкі ў галіне індустрыялізацыі краіны і калектывізацыі сельскай гаспадаркі змянілі твар вёскі. Тав. **Сталін** у сваім адчоце XVII з'езду ВКП(б) паказаў гэта з асаблівай сілай:

> «Старая вёска з яе царквой на самым відным месцы, з яе лепшымі дамамі ўрадніка, папа, кулака на першым плане, з яе поўразваленымі хатамі сялян на заднім плане—пачынае знікаць. На яе месца выступае новая вёска з яе грамадска-гаспадарчымі пабудовамі, з яе клубамі, радыё, кіно, школамі, бібліятэкамі і яслямі, з яе трактарамі, камбайнамі, малатарнямі, аўтамабілямі».

Пад кіраўніцтвам Ленінскага ЦК ВКП(б) на чале з тав. Сталіным, пры агромнай дапамозе Совецкага саюза, КП(б)Б на аснове няўхільнага правядзення ленінскай нацыянальнай палітыкі і разгорнутай барацьбы на два фронты ва ўсіх галінах гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, рашучага разгрому нацыянал-дэмакратаў, дабілася выключных поспехаў у будаўніцтве культуры, нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу, у справе канчатковай ліквідацыі былога каланіяльнага становішча Беларусі і звязанай з гэтым эканамічнай

і культурнай адсталасці. У выніку пяцігодкі БССР па культурнаму ўзроўню выходзіць у першыя рады рэспублік Савецкага саюза.

За гады першай пяцігодкі шырока разгарнуліся раённыя і сельскія дамы соцкультуры. У 1932 г. колькасць сельскіх хат-чыталень дасягнула 1911 (па адной на кожны сельсовет) і 81 раённага дома соцкультуры. З агульнай колькасці хат-чыталень і дамоў соцкультуры маецца 53 польскіх, 4 украінскіх, 2 нямецкіх, 1 літоўская, 1 татарская. На ўтрыманне ўсіх хат-чыталень і дамоў соцкультуры ў 1932 г. зрасходавана звыш 3 млн. рублёў.

Паспяхова ажыццяўляецца лозунг тав. **Сталіна: «зрабіць калгасы большэвіцкімі, а калгаснікаў заможнымі».** З ростам даходаў ад працадзён павышаюцца культурныя запатрабаванні калгаснікаў. Ідучы насустрач гэтым запатрабаванням, партыя ў другім пяцігадовым плане павялічвае палітасветную сетку на вёсцы на 130 проц.

Агромныя поспехі ў галіне сельскай гаспадаркі ў бягучым годзе не толькі павышаюць матэрыяльнае становішча калгаснікаў, але дзякуючы больш быстраму сканчэнню сельска-гаспадарчых работ у параўнанні з мінулымі гадамі, калгаснікі будуць мець больш дасугу, асабліва ў зімні перыяд. Гэты дасуг павінен быць выкарыстан для культурнай работы, у першую чаргу для павышэння агульнаадукацыйных і агратэхнічных ведаў, неабходных для далейшага палепшання гаспадаркі.

Усё гэта з новай сілай ставіць перад намі задачу, побач з разгортваннем сеткі палітасветустаноў, павышаць якасць палітасветнай работы на вёсцы.

* * *

Пытанне якасці палітасветнай работы, як сродку ў справе арганізацыі мас для соцыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі, не ўсімі партарганізацыямі на месцах, органамі народнай асветы правільна ацэньваецца. Праведзеная культпропам ЦК КП(б)Б праверка становішча культурнай і палітыка-асветнай работы ў Клічаўскім, Слуцкім і Дрысенскім раёнах паказала, што гэты ўчастак работы знаходзіцца ў яўна нездавальняючым становішчы, што разгортванне культасветнай работы рэзка адстае ад агромнага росту культурных запатрабаванняў працоўных мас і ад чарговых гаспадарча-палітычных задач. Хатычытальні і дамы соцкультуры, як цэнтры палітасветнай работы, больш палавіны не працуюць: у Клічаве з 19 працуюць толькі 10, у Слуцку з 21 працуюць 5, у Дрысе з 14—5.

Адсутнічаюць элементарныя ўмовы работы хат-чыталень [1]), без чаго наогул немагчыма ніякая палітасветная работа.

**Кадры.** Вялікая цякучасць работнікаў хат-чыталень знімае з іх усякую адказнасць і не дае магчымасці разгарнуць адпаведнай работы. У Клічаўскім раёне большасць хатнікаў працавала толькі да 6 месяцаў. Многія з іх сумяшчаюць гэту пасаду з іншымі вельмі разнастайнымі работамі: у Вярэйкаўскім сельсовеце, Клічаўскага раёна, хатнік адначасова і руханкавод калгаса; у Паталаўскім сельсовеце—рахункавод сельсовета; ва Ўсохскім—сакратар сельсовета, сам лічыць работу ў хаце-чытальні пабочным заняткам; у Росіцкай хаце-чытальні

1) Сюды адносяцца і дамы соцкультуры і чырвоныя куткі. Каб не паўтарацца, абмяжуемся ў далейшым ужываннем аднаго тэрміна „хата-чытальня“.

(Дрысенскі раён)—загадчыкам з'яўляецца комсамолец Грычук, ён-жа і настаўнік ШКМ, які з работай у школе не спраўляецца і ў хаце-чытальні не працуе; загадчыкам хаты-чытальні Ўрэчскага сельсовета, Слуцкага раёна, з'яўляецца малапісьменны начальнік пажарнага дэпо.

З такімі кадрамі вельмі трудна разгарнуць палітасветную работу. Безумоўна, што ад загадчыка хаты-чытальні, ад яго ініцыятывы, светапогляду залежыць поспех культурна-палітычнай работы, якая павінна разгортвацца вакол палітасветустаноў на вёсцы.

**Бібліятэка.** Многія хаты-чытальні не маюць адпаведнай літаратуры па актуальных пытаннях бягучай палітыкі, агранамічных ведах і інш., не маюць газет, а калі яны і ёсць, то не праводзяцца чыткі з калгаснікамі.

Адсутнасць літаратуры ў хатах-чытальнях аб'ясняецца нядбайнасцю хатніка ў набыцці літаратуры і дрэннай работай кнігапрасоўваючых арганізацый. Так Росіцкая хата-чытальня з 1/І—34 г. на май месяц не выпісала ні адной газеты; бібліятэка, якая налічвае да 200 кніг, знаходзіцца ў поўным беспарадку: лепшая мастацкая літаратура ўжо па году—паўтара знаходзіцца на руках у чытачоў, але не было прынята ніякіх мер для яе звароту; астатняя літаратура раскрадаецца, бо знаходзіцца ў адкрытай шафе; бібліятэка, пачынаючы з палавіны 1932 года, не папаўнялася новай літаратурай; большасць кніг устарэла, і як зусім агідны факт—**у бібліятэцы ДСК адсутнічала літаратура па XVII з'езду партыі.**

Такое-ж становішча і ў Прудзінкаўскай хаце-чытальні, Дрысенскага раёна. У Бацэвіцкай хаце-чытальні 120 кніг звалены ў кучу і ніхто імі не карыстаецца. Выпісаных газет—«Правда», «Звязда», «Известия», «Чырвоная змена», «Літаратура і мастацтва», мясцовая газета «Сталінскі шлях»—ніхто не чытае і большасць з іх знаходзіцца ў хатніка на кватэры. Ні адной брашуры аб XVII з'ездзе партыі ў хаце-чытальні няма.

**Кіраўніцтва.** Абследванне хат-чытален па трох раёнах паказвае, што імі ніхто не кіруе, не правярае работы, не дае ім парады як паставіць, арганізаваць культурна-асветную работу. Кіраўніцтва раённых арганізацый зводзіцца галоўным чынам к таму, што забіраюць работніка і перакідваюць яго на іншую работу. З боку органаў народнай асветы, якія непасрэдна павінны весці гэту работу, няма належнай увагі. Так, загадчык Райана, т. Найдут, Клічаўскага раёна, нават не ведае, колькі ў яго раёне хат-чытален і дамоў соцкультуры (з матэрыялаў абследвання). Ён тры разы (з 25/III па 6/IV) рабіў спробу склікаць нараду хатнікаў, але ні адзін хатнік на нараду не з'явіўся. Напэўна, Райком КП(б)Б лічыць гэта «нармальным», паколькі не прыняў ніякіх мер супроць такой агіднай з'явы, не дабіўся, каб ўсё-ж такі склікаць хатнікаў і разгарнуць палітасветную работу. Загадчык Прудзінкаўскай хаты-чытальні т. Станкевіч працуе ўжо 2 гады і за гэты час ніхто не запытаў аб яго рабоце, не пацікавіўся вынікамі яе.

Ёсць факты, якія паказваюць зусім ужо «пампадурскія» адносіны да культурна-асветнай работы на вёсцы, напр.: старшыня Росіцкага сельсовета, тав. Зайцаў, член партыі, калі да яго звярнуўся загадчык хаты-чытальні за дапамогай, сказаў: «кінь чапухой займацца, трэба займацца правядзеннем гаспадарча-палітычных кампаній». Гэты факт абышлі раённыя арганізацыі (Райана—т. **Лемеш**, РК КП(б)Б—т. **Кацуба).** Між іншым, гэта размова старшыні сельсовета з'яўляецца вельмі тыповай, яна сведчыць аб тым, што паасобныя работнікі не

зразумелі дырэктыў партыі аб разгортванні культурнай, палітасветнай работы на вёсцы, недаацанілі гэту работу. Процістаўленне палітасветнай работы правядзенню гаспадарча-палітычных кампаній гаворыць аб забыцці масавай, агітацыйнай работы сярод працоўных калгаснікаў і аднаасобнікаў у час правядзення гэтых кампаній, гаворыць аб наяўнасці старых метадаў работы, элементах голага адміністравання, што ў цэлым тармозіць паспяховае выкананне чарговых гаспадарчых задач на вёсцы.

Разам з гэтым неабходна адзначыць ініцыятыву некаторых палітаддзелаў у справе разгортвання палітасветнай работы. Палітаддзелы пры МТС і соўгасах, створаныя па геніяльнай думцы т. Сталіна для выпраўлення буйнейшых недахопаў па рабоце ў вёсцы, з'яўляюцца магутнейшым фактарам культурнай рэвалюцыі на вёсцы.

Па пачыну палітаддзела Слуцкай МТС праведзена такое буйнае мерапрыемства, як будаўніцтва за кошт калгасаў дамоў соцкультуры («Новае жыццё» і «Вольная праца», Слуцкага раёна), водпуск сродкаў на рамонт памяшканняў пад ДСК («1 мая», «Шлях калектывізацыі», «Чырвоны сцяг», Слуцкага раёна), радыёфікацыя ДСК («Новае жыццё»—Слуцк, «Новы свет»—Дрыса) і т. д. Гэта сведчыць аб увазе да культработы з боку палітаддзелаў. Так, палітаддзел Слуцкай МТС у мінулым годзе шырокім фронтам разгарнуў культпаход, правёў культканферэнцыю. У рэзультаце такіх мерапрыемстваў у калгасах створаны культбытавыя камісіі. Паход аформіў у зоне дзейнасці МТС 24 ДСК і чырвоных куткоў, стварыў радыёаудыторыі, агратэхнічны і палітычны гурткі. На жаль, пачын палітаддзела не быў падхвачан раёнам у цэлым.

Палітаддзелам Полацкай МТС праведзен конкурс на чцяца, Рагачоўскай—культбытавая канферэнцыя і т. д.

Безумоўна, што культурна-палітычная работа на сёнешні дзень яшчэ не ва ўсіх палітаддзелах з'яўляецца перадавым участкам работы, ёсць яшчэ многа недахопаў. Але бясспрэчны той факт, што палітаддзелы з'яўляюцца тымі органамі, якія сапраўды па-большэвіцку пабудуюць культурна-масавую і палітасветную работу на сяле. Пастановай Бюро ЦК КП(б)Б даручана НКА сумесна з палітсектарам НКЗ і ЦП саюзаў МТС зерневых і жывёлагадоўчых соўгасаў арганізаваць у 1934 г. пры 50 МТС і буйных соўгасах апорныя базы палітасветработы для абслугоўвання рабочых МТС, соўгасаў і калгасаў зоны МТС для інструкцыйна-метадычнай дапамогі сетцы палітасветустаноў. Кіраўніцтва гэтай работай ускладзена на намесніка начальніка палітаддзела па партмасавай рабоце.

Гэтыя апорныя базы павінны з'явіцца тымі рычагамі, пры дапамозе якіх палітасветная работа на вёсцы будзе паднята на вышыню палітычных задач, ажыццяўляемых зараз партыяй у справе перабудовы ўсёй сельскай гаспадаркі.

Бюро ЦК КП(б)Б заслухала на сваім паседжанні вынікі абследвання работы хат-чыталень і дамоў соцкультуры па 3 раёнах: Дрысенскаму, Слуцкаму і Клічаўскаму. На падставе гэтага матэрыялу дан рад дырэктыў, ажыццяўленне якіх павінна значна палепшыць палітасветную работу на вёсцы.

Сакратарам і старшыням Дрысенскага, Слуцкага і Клічаўскага РК КП(б)Б і РВК зроблена ўказанне на зусім нездавальняючае кіраўніцтва іх хатамі-чытальнямі, як цэнтрам палітработы на вёсцы. Гэта ўказанне, гаворыцца ў пастанове, павінны прыняць на сябе і іншыя РК КП(б)Б і РВК.

Прапанавана тав. Чарнушэвічу (НКА) у дэкадны тэрмін укамплектаваць палітасветаддзелы НКА кваліфікаванымі работнікамі, усклаўшы на яго абавязкі апаратыўнага кіраўніцтва і метадычнай дапамогі ўсім палітасветустановам раёнаў.

СНК БССР даручана неадкладна правесці ў жыццё пастанову Бюро ЦК ад 11 жніўня 1933 года аб увядзенні ў штатах усіх раёна інструктароў па палітасветнай рабоце.

ЦК ЛКСМБ павінен на працягу месяца мабілізаваць не менш 350 камсамольцаў на работу ў хаты-чытальні, прапусціўшы іх праз кароткатэрміновыя падрыхтоўчыя курсы.

Даручана НКА разам з ЦСПСБ распрацаваць канкрэтныя мерапрыемствы аб удзеле ў рабоце і кіраўніцтве хатамі-чытальнямі цэнтральных устаноў, наркаматаў і ЦП саюзаў і правесці конкурс на лепшую хату-чытальню. Таксама НКА і ЦП працасветы сумесна з НКФ павінны распрацаваць мерапрыемствы па палепшанню матэрыяльнага становішча загадчыкаў хат-чытален і раённых дамоў соцкультуры, як напр., устанаўленне дыфплаты, поўнае прыраўненне да вясковага настаўніка і рад іншых мерапрыемстваў, якія павышаюць адказнасць раённых партарганізацый і органаў народнай асветы за становішча культурнай і палітасветнай работы на вёсцы.

* * *

Як практычна арганізаваць работу хаты-чытальні, чырвонага кутка?

**Памяшканне.** Неабходна дабіцца, каб хата-чытальня, чырвоны куток сапраўды мелі культурны знешні выгляд. Памяшканне павінна быць адрамантавана, чыстае, забяспечана апалам і светам; мэбля ў хаце-чытальні павінна знаходзіцца ў парадку, расстаўлена як след, не дапускаць паламаных крэслаў, табурэтак і т. д. Хата-чытальня, чырвоныя куткі павінны быць упрыгожаны партрэтамі правадыроў партыі, адпаведнымі плакатамі і лозунгамі. Неабходна, каб плакаты і асабліва лозунгі мяняліся ў залежнасці ад бягучага моманту, а то заўважаецца, што часта ў хатах-чытальнях і клубах вісяць вельмі старыя лозунгі: ужо даўно прайшлі першамайскія святы, хутка наступяць акцябрскія, а ў некаторых хатах- чытальнях вісяць яшчэ лозунгі першамайскія. Гэта сведчыць аб нядбайнай і несвоечасовай рабоце загадчыкаў хат-чытален. Не абавязкова, каб загадчык сам наклейваў плакаты, ён павінен мець у сябе актыў, які пад яго кіраўніцтвам зможа прывесці хату-чытальню ў культурны выгляд.

**Змест работы.** Кожная хата-чытальня і клуб могуць арганізоўваць гутаркі, даклады, чытку газет, вечары пытанняў і адказаў, даведачную работу, выкарыстоўваць радыё-лекцыі па пытаннях як правільна арганізаваць працу калгасніка, як арганізаваць вытворчую брыгаду, якая роля і адказнасць брыгадзіра, што такое здзельшчына, яе формы, як устанавіць правільныя нормы выпрацоўкі, як праводзіць улік і ацэнку работы пры здзельшчыне, як лепш наладзіць аператыўны і гаспадарчы ўлік і т. д. Разам з гэтым па сутнасці раз'ясніць агульнапалітычнае і гаспадарчае значэнне ўсіх гэтых пытанняў з тым, каб кожны калгаснік актыўна садзейнічаў і дапамагаў правільнай расстаноўцы рабочай сілы—стварэнню пастаянных брыгад, увядзенню здзельшчыны, зніштажэнню абязлічкі.

Перанясенне палітасветработы ў час веснавой сяўбы і ўборкі з клуба і хаты-чытальні ў поле, брыгаду з'явіцца асноўным сродкам

перабудовы палітасветных устаноў на дадзены перыяд. Каб правільна правесці гэту работу, неабходна ўлічыць склад культактыва, які можа быць вылучан ці прымацован да брыгады на час вясеннепасеўнай і ўборачнай кампаній. Перад кожнай брыгадай паставіць пытанне аб вылучэнні з яе складу культарганізатара. Вылучаных культарганізатараў сабраць і праінструктаваць. Культарганізатар нясе адказнасць за абслугоўванне палітасветнай работай членаў сваёй брыгады.

Чырвоны куток павінен мець усе неабходныя матэрыялы для інфармацыі насельніцтва аб палітычным жыцці краіны, аб міжнародным рэвалюцыйным руху, аб пастановах партыі і ўрада. Для гэтага кожны чырвоны куток павінен быць у першую чаргу снабжон газетамі, мясцовымі і асноўнымі цэнтральнымі («Правда», «Известия»), невялікай бібліятэчкай, у складзе якой павінны абавязкова быць даведачныя матэрыялы, навінкі мастацкай літаратуры і галоўная палітычная літаратура (брашуры Леніна, артыкулы і прамовы т. Сталіна і інш.). Кожны чырвоны куток павінен мець у бібліятэцы рашэнні і пастановы XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б. Вакол усяго гэтага друкаванага матэрыялу павінна быць разгорнута раз'ясніцельная перыядычная работа. Насельніцтву трэба паведамляць аб атрыманні свежых газет, арганізоўваць калектыўныя чыткі, праводзіць гутаркі ў сувязі з падзеямі бягучага палітычнага жыцця, арганізоўваць даклады і т. д.

Каштоўным відам культасветнай работы неабходна прызнаць экскурсіі, так званы «абмен вопытам». Сутнасць гэтых экскурсій заключаецца ва ўзаемным наведванні калгасаў, у абмене калгасаў дасягненнямі і тымі метадамі, якімі гэтыя дасягненні атрыманы. Усё лепшае на практыцы пераносіцца к сабе, усё горшае ў парадку таварыскай самакрытыкі ўказваецца, крытыкуецца з практычнымі прапановамі, знішчаючымі недахопы.

Трэба таксама праводзіць экскурсіі калгаснікаў у соўгас, на МТС, на вопытную сельска-гаспадарчую станцыю і вопытныя палі і ўчасткі. Тут важна адзначыць і падкрэсліць не толькі атрыманне лепшага арганізацыйна-гаспадарчага і агра-зоатэхнічнага вопыту, але асабліва палітычны бок, вядучую ролю дзяржаўных пролетарскіх ачагоў у адносінах калгасаў, падкрэсліць ролю совецкіх гаспадарак і МТС у вытворчай змычцы паміж горадам і вёскай, арганізацыйную, матэрыяльную дапамогу вёсцы і палітыка-выхаваўчую работу.

Падбор і забяспечанне калгасаў і калгасных брыгад бібліятэчкамі—вельмі важная і патрэбная справа. Але разам з гэтым не менш важна арганізаваць і індывідуальнае забяспечанне калгаснікаў і працоўных аднаасобнікаў патрэбнай ім кніжкай. Тут вялікую ролю павінны адыграць правільная арганізацыя ўсёй справы распаўсюджвання кніжак і сеткі кнігаsuccessful кнігаността. Кнігановшы, у большасці школьнікі і піонеры (там дзе было арганізавана), нярэдка ў распаўсюджванні кніжкі ідуць па лініі найменшага супрціўлення: каб хутчэй распаўсюдзіць кніжку яны ідуць галоўным чынам да раённых работнікаў, навязваючы часта непатрэбныя ім кніжкі, у той час, калі калгаснік забяспечан кніжкамі недастаткова. Соцыялістычнае спаборніцтва паміж кнігановшамі павінна ісці не толькі па колькасці распаўсюджаных кніжак, але, і, галоўным чынам, па якасці гэтага распаўсюджвання. Кніга павінна пайсці к таму, для каго яна больш патрэбна і дзе яна прынясе больш карысці.

**Метад работы.** Асноўным метадам правядзення ўсёй палітасветнай работы ў перыяд сельска-гаспадарчых работ павінны быць соцспабор-

ніцтва і ўдарніцтва. Кожны клуб, хата-чытальня спаборнічаюць унутры сябе—паміж культбрыгадамі і культармейцамі на лепшае правядзення палітасветнай работы, культабслугоўванне калгаснікаў у перыяд сельска-гаспадарчых работ. Палітасветнікі, ведучы барацьбу за ўнядрэнне соцыялістычных метадаў працы ў калгасе, брыгадзе, павінны паказваць прыклады ў сваёй рабоце.

У гэтай рабоце неабходна прытрымлівацца лозунгу: **«Кожны калгаснік-ударнік павінен стаць культактывістам, а кожны культактывіст павінен быць калгаснікам-ударнікам».** Дрэнны той палітасветнік, які крычыць аб соцспаборніцтве і ўдарніцтве, а сам стаіць у баку ад яго.

Вялікую дапамогу ў разгортванні культурнай і палітасветнай работы на вёсцы павінны аказваць шэфы—гарадскія пролетарскія арганізацыі. Пад кіруючым удзеяннем пролетарыята, калгасныя масы шырока скарыстоўваюць вопыт арганізацыі працы ў гарадскіх рабочых, пераймаюць і прымяняюць метады соцспаборніцтва і ўдарніцтва і разгортваюць барацьбу за цвёрдую працоўную дысцыпліну. Такое-ж актыўнае ўздзеянне пролетарскія шэфскія арганізацыі горада павінны аказваць на калгасныя масы і ў сэнсе пастаноўкі культурных пытанняў і разгортвання палітасветнай работы. Раней шэфы ў пачатку сваёй работы падыходзілі аднабакова—праводзілі чыста «культурную» работу (лекцыі, даклады і інш.). Зараз матэрыялы паказваюць, што некаторыя шэфы захапляюцца другім бокам работы—дапамогай па лініі вытворчай практыкі (пачынка сельска-гаспадарчых машын і т. д. ). Гэта добра, але ніяк нельга ўпускаць з-пад увагі палітасветную работу. А па лініі шэфства горада над вёскай у разгортванні культурнай і палітасветнай работы можна вельмі многа зрабіць. Кожны шэф над тым ці іншым калгасам або над вёскай у першую чаргу павінен паклапаціцца аб тым, каб належным чынам арганізаваць культурны ачаг—хату-чытальню, чырвоны куток у вёсцы і вакол гэтага шырока разгарнуць культурную палітасветную работу. Культаддзел ЦСПСБ павінен быць больш гібкім у размеркаванні маючыхся ў яго сіл і сродкаў па лініі арганізацыі шэфства для паасобных профсаюзаў (работнікі кіноўстаноў, члены саюза рабіс, асветы і т. д.).

Уся палітасветная работа ва ўмовах нацыянальнай рэспублікі павінна быць прасякнута духам пролетарскага інтэрнацыяналізма. Але палітасветная работа на вёсцы сярод нацменшасцей пастаўлена зусім нездавальняюча: хаты-чытальні ў нац. советах працуюць вельмі дрэнна, не забяспечаны адпаведнымі кадрамі (Нараўлянскі, Ельскі—раёны па рабоце сярод немцаў). Адсутнасць большэвіцкай палітасветнай работы заўсёды, як правіла, скарыстоўваецца шавіністычнымі элементамі ў сваіх контррэволюцыйных буржуазна-нацыяналістычных мэтах.

Асноўная палітычная задача, пастаўленая XVII парткацферэнцыяй, заключаецца ў «пераадаленні перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і свядомасці людзей». Тав. **Сталін** на XVII партз'ездзе ўказаў на «блытаніну», якая існуе ў галовах паасобных членаў партыі. Тым больш рознага роду перажыткаў і блытаніны можа быць ва «ўчарашняга дробнага ўласніка». Яшчэ XVI з'езд партыі адзначыў, што:

> «У калгасах сяляне канчаткова зжывуць дробна-ўласніцкую псіхалогію, смагу прыватна-гаспадарчага накаплення, унаследваную ад пакалення дрбных прыватных уласнікаў, толькі ў рэзультаце гадоў упорнай работы над падвядзеннем пад калгасы базы буйнай механізаванай гаспадаркі, упорнай работы над стварэннем кадраў з асяроддзя калгаснікаў і культурнага ўздыму

ўсёй калгаснай масы» (з рэзалюцыі XVI з'езда ВКП(б) аб калгасным руху і ўздыме сельскай гаспадаркі).

Свядомасць калгаснікаў не паспела яшчэ падняцца на той высокі ўзровень, на якім умацавалася іх фактычнае палажэнне як удзельнікаў соцыялістычнай (калгаснай) вытворчасці. Свядомасць калгаснікаў адстае ад іх фактычнага становішча, «калгаснікі па становішчу ўжо не аднаасобнікі, а калектывісты, але свядомасць у іх пакуль што старая—прыватна-ўласніцкая» **(Сталін).**

Мы маем рад фактаў, калі, скарыстоўваючы культурную і палітычную адсталасць калгаснікаў, жывучасць у іх яшчэ дробна-ўласніцкага мінулага, кулацкія элементы стараюцца лавіць і ловяць рыбу ў гэтай мутнай вадзіцы. У барацьбе з кулаком мы прымянялі і з астаткамі кулацтва будзем прымяняць метад адміністрацыйнага націску, метад рэпрэсій. Барацьба з перажыткамі, з несвядомасцю павінна весціся шырокай масавай культурна-палітычнай работай. Тут галоўным чынам павінен прымяняцца метад пераканання і перавыхавання мас.

Зусім няправільна робяць партыйныя арганізацыі, якія ўпускаюць з-пад увагі гэты бок справы, якія не звяртаюць увагі на палітыка-асветную работу пры правядзенні гаспадарчых кампаній і наогул слаба звяртаюць увагу, як гэта ўказваў т. **Гікало** на апошнім пленуме ЦК (май 1934 г.), на масавую работу, уключаючы сюды галоўным чынам палітычную агітацыю і культасветную работу.

Як-бы паспяхова ні ішла тая ці іншая сельска-гаспадарчая кампанія, якой-бы вялікай ні была сіла большэвіцкага ўплыву, ніколі не трэба ўпускаць з-пад увагі паасобныя праслойкі і групы. Рабочы клас не аднастайны ў сваім складзе, тым больш неаднастайна калгаснае сялянства. Пры самых вялікіх поспехах класавы вораг чапляецца за адсталыя элементы, скарыстоўваючы кожны невялікі промах, некультурнасць, рэлігійныя прадрассудкі (асабліва калі ў сельскай гспадарцы прыходзіцца весці барацьбу са стыхійнымі сіламі прыроды). Такі прыклад мы маем па Веткаўскаму раёну, калі там пад уплывам работы сектантаў зрываліся сельска-гаспадарчыя кампаніі, а партыйныя і комсамольскія арганізацыі не разгарнулі належнай палітыка-асветнай і антырэлігійнай работы.

З усяго вышэйсказанага неабходна зрабіць адзін вывад, што культурная і палітыка-асветная работа на вёсцы з'яўляецца арганічна неад'емнай часткай усёй нашай работы па соцыялістычнай перабудове вёскі.

**В. Кірылаў**

Нач. Палітаддзела
Оршанскага чыг. раёна

# Тэрытарыяльныя партарганізацыі і палітаддзелы на чыгунцы ў барацьбе за здаровы транспарт

Чыгуначны транспарт, выконваючы план дзяржаўных перавозак метала, руды, нафты, вугалю, будматэрыялаў, хлеба, гатовай прадукцыі і т. п., іграе выключна агромнае значэнне ва ўсёй народнай гаспадарцы, з'яўляючыся:

> «галоўным нервам эканамічнага жыцця краіны, матэрыяльнай апорай для сувязі паміж горадам і вёскай, паміж прамысловасцю і земляробствам, паміж рознымі абласцямі СССР, нарэшце—для сувязі паміж тылам і фронтам» (з пастановы ЦК ВКП(б) ад 10 ліпеня 1933 г.).

Вось чаму партыя і ўрад у сваіх апошніх рашэннях падкрэсліваюць, што задача вывядзення чыгуначнага транспарта ў перадавыя галіны народнай гаспадаркі—справа ўсёй партыі, ўсёй краіны.

Рабочы клас, калгаснікі, працоўныя аднаасобнікі краіны Советаў кроўна зацікаўлены ў палепшанні работы чыгуначнага транспарта, помнячы, што

> «аслабленне чыгуначнага транспарта, перабоі ў яго рабоце азначаюць з прычыны гэтага аслабленне ўсёй народнай гаспадаркі, аслабленне і падрыў абароназдольнасці краіны» (з пастановы ЦК ВКП(б) ад 10 ліпеня 1933 г.).

Але не ўсе чыгуначнікі ды і частка рабочых горада, калгаснікаў зразумелі і да гэтага часу разумеюць грамаднае гаспадарча-палітычнае значэнне гэтых задач. І адной з важнейшых прычын неразумення таго, што справа транспарта—справа ўсіх працоўных Савецкага саюза, з'яўляецца побач, са многімі іншымі, вельмі шкодная і культываемая «спакон вякоў» тэорыя «паласы адчуджэння», якой прытрымліваліся чыноўнікі, бюракраты і класава-варожыя элементы на чыгуначным транспарце.

Адной з важнейшых задач палітаддзелаў чыгуначнага транспарта з'явілася і з'яўляецца карэнная ломка псіхалогіі «паласы адчуджэння», выхаванне чыгуначнікаў ва ўсведамленні новых задач соцыялістычнага транспарта.

Цесна ўвязваць сваю работу з тэрытарыяльнымі совецкімі, партыйнымі і профсаюзнымі арганізацыямі, мабілізаваць увагу рабочых

і ІТР прадпрыемстваў горада, калгаснікаў, працоўных аднаасобнікаў на практычную дапамогу транспарту— вось задача палітаддзелаў чыгуначнага транспарта.

Першымі крокамі работы палітаддзела Оршанскага аддзялення ў гэтых адносінах было тое, што ён, па прыкладу калгаснікаў Лазоўскага раёна УССР, дабіўся арганізацыі дапамогі з боку тэрытарыяльных арганізацый у снегабарацьбе.

Сумесна з райкомамі і палітаддзеламі МТС Оршанскага, Менскага, Смалявіцкага, Барысаўскага, Лепельскага і інш. раёнаў вакол гэтага пытання была праведзена вялікая палітычная работа.

Па патрабаванню перадавых калгасаў былі заключаны соцыялістычныя дагаворы на лепшую арганізацыю барацьбы са снежнымі заносамі. Кожны калгас узяў шэфства над паасобнымі акалодкамі, прымацаваў туды рабочую і цяглавую сілу.

Наколькі правільна калгаснікі зразумелі свае задачы ў справе дапамогі транспарту сведчыць тое, што пры правядзенні пробных і сапраўдных выклікаў на снегабарацьбу цэлы рад перадавых калгасаў Оршанскай (калгас «Парыжская комуна») і Менскай МТС з'явіліся на прымацаваныя акалодкі ў поўным складзе і па-ўдарнаму змагаліся са снежнай стыхіяй, паказаўшы гэтым самым прыклад высокай палітычнай свядомасці.

Калгаснікі калгаса «**Парыжская комуна**» з гонарам выканалі свае абавязацельствы па дагавору з 6-й дыстанцыяй чыгункі аб дапамозе ў снегабарацьбе. Калгас гэты дабіўся вялікіх гаспадарча-палітычных поспехаў у гэтым годзе і ў сябе: веснавую сяўбу закончыў добраякасна і да тэрміну, засеяў звыш плана 61 га.

Зараз па ініцыятыве саміх калгаснікаў узята шэфства над участкам чыгункі, прылягаючай к тэрыторыі калгаса (544 і 545 клм.). Калгас абавязаўся: 1) адрамантаваць пуцявую будку, знаходзячуюся на тэрыторыі калгаса, 2) арганізаваць праверку пастоў, 3) не дапускаць хаджэння па чыгунцы пастаронніх асоб, 4) сачыць за спраўнасцю чыгункі, 5) аказваць пуцявым вартаўнікам дапамогу ў барацьбе з хуліганствам, 6) весці раз'ясняльную работу сярод акружаючага насельніцтва аб важнасці аховы чыгункі і барацьбы з хуліганствам.

Па прыкладу калгаса «Парыжская комуна» палітаддзел соўгаса Лемніца (нач. т. **Таўдзінскі)** узяў шэфства над станцыяй Лемніца і над прылягаючымі кіламетрамі чыгункі. У дапамогу транспарту па барацьбе з хуліганствам вылучана 7 чалавек.

Калгасы «На рэйках», «Чырвоны прамень» таксама ўзялі шэфства над кіламетрамі чыгункі і станцыяй Коханава.

Перадавыя калгаснікі-ўдарнікі вельмі добра разумеюць, што гэта чыгуначны транспарт не старой, буржуазна-памешчыцкай Расіі, які служыў сродкам закабалення сялян, а што гэта транспарт соцыялістычны, ад чоткай і бесперабойнай работы якога залежыць уздым сельскай гаспадаркі, паспяховае вырашэнне задачы ператварэння калгасаў у большэвіцкія, а калгаснікаў у заможных.

Па ініцыятыве палітаддзела гэта шэфства зараз замацоўваецца ў напрамку дапамогі акалодкам у летнім рамонце чыгункі, падрыхтоўцы к асенне-зімнім перавозкам і садзеянні чыгуначнаму транспарту ў паспяховым ажыццяўленні апошняй пастановы ЦК і СНК аб барацьбе з хуліганствам.

Маючы станоўчы вопыт прыцягнення тэрытарыяльных арганізацый і калгаснікаў для дапамогі транспарту, палітаддзел, па прыкладу

перадавых прадпрыемстваў саюза разгарнуў шырокую работу па прыцягненню к практычнай дапамозе ў палепшанні работы паасобных звенняў эксплаатацыйнага аддзялення мясцовых совецкіх, партыйных, профсаюзных арганізацый, фабрык, заводаў, распалажаных у зоне дзейнасці палітаддзела.

Вялікую дапамогу ў арганізацыі гэтай работы аказаў ЦК КП(б)Б. Бюро ЦК мабілізавала цэлы рад адказных работнікаў і паслала іх у раёны для намячэння канкрэтных мерапрыемстваў па аказанню дапамогі станцыям, з'яўляючымся галоўнымі рычагамі ў выкананні дзяржаўнага плана перавозак.

У правадзімы з 25 па 30 мая «дзень стрэлкі» сакратаром ЦК КП(б)Б т. **Гікало** была дана дырэктыва ўсім гарадскім і райпарткомам аб узяцці шэфства над кожнай стрэлачнай будкай і прылягаючымі да яе стрэлкамі, забяспечыўшы рамонт іх, снабжэнне стрэлачнікаў абмундыраваннем, літаратурай і правядзенне з імі сістэматычнай культурна-асветнай работы.

Першымі адгукнуліся на заклік ЦК КП(б)Б і палітаддзела Оршанскага аддзялення Барысаўскі, Лепельскі, Оршанскі райкомы і Менскі гарком КП(б)Б.

Барысаўскі РК КП(б)Б без лішніх дэкларацый аказваў сапраўды практычную дапамогу ст. Барысаў, арганізаваўшы рамонт вакзала і іншых станцыйных пабудоў, забяспечыўшы каманды састаў станцыі поўным абмундыраваннем і т. д. У «дзень стрэлкі» райком у адпаведнасці з указаннямі т. Гікало і на аснове ініцыятывы рабочых Бярэзінскага камбіната ў парадку шэфства прымацаваў да станцыі, сігнальных і блок-пастоў, стрэлачных будак усе буйныя прадпрыемствы Барысаўшчыны.

Менскі гарком, адобрыўшы ініцыятыву дэпутацкіх груп буйных заводаў («Комунар», імя Варашылава, імя Молатава, «Большэвік»), намеціў рад практычных мерапрыемстваў па аказанню дапамогі ст. Менск—па рамонту і прывядзенню ва ўзорны парадак заводскіх ветак, пад'язных чыгунак, стрэлачных будак, абсталяванню ў вакзале чытальні і пакою маці і дзіцяці, рамонту электра-асвятлення і радыёфікацыі паасобных кватэр лепшых ударнікаў станцыі і т. д.

Аналагічныя мерапрыемствы былі намечаны Оршанскім і Лепельскім райкомамі.

Аднак, баявая дырэктыва ЦК КП(б)Б і асабіста тав. Гікало, якая павінна была служыць для райкомаў кіраўніцтвам да неадкладнага дзеяння, на сёнешні дзень з боку цэлага раду райкомаў не выканана (Чашнікі, Сянно, Дуброўна, Талочын, Крупкі, Смалявічы, Дзержынск, Заслаўль). Яны прабуюць аддзелацца прыняццем агульных рэзалюцый і дачай абяцанняў, якіх не выконваюць.

Паасобныя работнікі проста ігнаруюць указанні ЦК. Так, сакратар Дзержынскага РК т. Дамброўскі абсалютна нічога не зрабіў для дапамогі пагранічным станцыям: Негарэлае, Койданава і Фаніпаль.

Старшыня Смалявіцкага мясцовага совета і старшыня калгаса імя Молатава, калі да іх звярнуліся па пытанню аб «дні стрэлкі», заявілі літаральна наступнае: «Гэта не наша справа, а чыгуначнікаў. А колькі вы нам заплоціце, калі мы вам паможам?».

Для характарыстыкі выканання дырэктывы ЦК пададзім жывы матэрыял з рэзультатаў абследвання ў сувязі з конкурсам становішча і работы Лепельскай лініі.

Ст. **Смальяны**—знаходзіцца на тэрыторыі Оршанскага раёна, але ніхто шэфства над ёю не ўзяў. Мясцоваму кіраўніцтву прыходзіцца

сваімі сіламі прыводзіць станцыю ў парадак (разбіваць сад, клумбы і т. д.). Але гэтых сіл мала, а без дапамогі з боку яны не справяцца з задачамі, пастаўленымі бюро ЦК КП(б)Б у спаборніцтве на лепшую станцыю.

Недалёка ад станцыі распалажан Малатнянскі сельсовет і соўгас Смальяны. Актыў станцыі звяртаўся да гэтых арганізацый, але шэфская сувязь не ўстаноўлена. Гэтыя арганізацыі маглі-б зрабіць для станцыі многае, калі-б па-сур'ёзнаму падышлі да выканання ўказанняў ЦК ВКП(б) і прапаноў ЦК КП(б)Б.

Ст. **Лемніцы**—распалажана на тэрыторыі трох раёнаў: Оршанскага, Сенненскага і Талачынскага і знаходзіцца на аднолькавай адлегласці ад іх. Таму ніхто з гэтых арганізацый сувязі з чыгуначнікамі не ўстанавіў. Шэфствуе над станцыяй соўгас Лемніца, які прарабіў вялікую работу—ім рамантуецца вакзал і рабочыя памяшканні.

Ст. **Бурбін**—уноў прызначаны начальнік станцыі т. **Бурко** па-дзелавому прыступіў к рэалізацыі ўказанняў партыі і ўрада. Не чакаючы рашэнняў райкома, актыў станцыі звязаўся з шэфамі і на сёнешні дзень сумеснымі сіламі прарабілі наступнае:

Будуюць пад'язную дарогу к вакзалу і пакгаўзу, умацавалі панель перона, зрабілі канаву для стоку вады, правялі радыё ў клубе і наладжваюць радыёфікацыю станцыі. Адрамантавалі пажарны інвентар, сіламі работнікаў станцыі зроблена зялёнае насаджэнне, рамантуюцца будкі. Шэфы адпусцілі 20 лістоў шкла на рамонт ваконных рам.

Ст. **Вятны**—сваімі сіламі зрабілі пасадку дрэваў, прывялі ў парадак перон. Чашніцкі раён ніякай дапамогі, ні палітычнай, ні матэрыяльнай, не аказаў.

Ст. **Чашнікі**—начальнік т. **Антонаў**—талковы, палітычна-развіты, беспартыйны актывіст. Нядаўна прыехаў на станцыю, а здолеў ужо згуртаваць вакол сябе чыгуначнікаў, што асабліва характэрна для гэтай станцыі, якая ўвесь час хварэла склокамі.

Рабочыя і служачыя, скарыстаўшы ўнутраныя рэсурсы, адрамантавалі будкі, зрабілі пасадку зелені. Райком, райвыканком і райпрофсовет не аказалі дапамогі сваёй станцыі, з якой яны кожны дзень маюць справу. У гутарцы актыў раёна заяўляў, што «мы былі заняты сяўбой і не лічылі транспарт аднолькава важнай справай». Райпрофсовет нават не ведаў нічога аб разгортванні Ўсесаюзнага спаборніцтва станцый.

З боку кіраўніцтва Чашніцкага раёна адносіны к указанням партыі і ўрада аб дапамозе транспарту яўна супраціўленчыя. На працягу двух месяцаў, не гледзячы на рад дагаворанасцей з прадстаўнікамі палітаддзела, станцый, аддзялення, раёнам нічога не зроблена. Палітычнае значэнне агромнай дапамогі, аказанай нам ЦК КП(б)Б, паасобнымі апартуністамі змазваецца. Такія адносіны тэрытарыяльнага раёна да транспарта ствараюць такога роду настроі, што «размовы аб транспарце і дапамозе яму палітычнай і матэрыяльнай—балбатня». Трэба самым рашучым чынам ударыць па такога роду апартуністычных настроях і дабіцца выканання на справе рашэнняў ЦК КП(б)Б аб дапамозе транспарту.

Зусім адваротнае, у параўнанні з іншымі станцыямі ўсёй лініі, мы маем на ст. **Лепель.** ЦК КП(б)Б ужо адзначаў аб канкрэтным удзеле лепельскіх тэрытарыяльных арганізацый у справе дапамогі транспарту. На сёнешні дзень Лепельскі раён з'яўляецца адным з лепшых шэфаў. Гарадскія арганізацыі сумесна з чыгуначнікамі з боку пад'езду наса-

дзілі прыгожы сад фруктовых і дэкарацыйных раслін (каля 300 шт.), правялі дарожкі, водаадводныя канавы па ўсяму пасёлку, рамантуюць будкі, дасталі масляных фарбаў для станцыі і будак. Не спыняючыся на гэтым, прадаўжаюць разгортваць шэфства, замацоўваючы яго вылучэннем прапагандыстаў. Сакратар райкома т. **Хіжэнкоў** і старшыня райвыканкома т. **Закоркін** асабіста прымаюць актыўны ўдзел у масавай рабоце станцыі. Яны ведаюць сваю станцыю таксама добра, як і свае калгасы.

Такія кіраўнікі, як т. **Чарнышоў**—сакратар Барысаўскага райкома КП(б)Б, тт. **Хіжэнкоў і Закоркін**—Лепель—заслугоўваюць, за іх актыўную і штодзённую дапамогу чыгуначнаму транспарту, узнагароджання значкамі ўдарнікаў сталінскага закліку.

Але ў некаторых месцах вынесеныя рашэнні аб дапамозе транспарту паасобнымі кіраўнікамі выконваюцца вельмі дрэнна, а то і зусім не выконваюцца. Напр., па Менску і Оршы доўгі час з дня вынясення пастановы райкома некаторыя гаспадарнікі зусім не прыступалі к выкананню даных ім заданняў і толькі пасля таго, як гэта пытанне з усёй рашучасцю было пастаўлена на бюро і калі ў адносінах да паасобных людзей былі прыняты меры ўздзеяння, тады толькі намеціўся пералом.

У радзе арганізацый шэфства зводзіцца толькі к матэрыяльнай дапамозе, што не дасягае асноўнай мэты—палітычнай сувязі тэрытарыяльных арганізацый з чыгуначнымі і на гэтай аснове змагацца за ўздым культурна-палітычнага росту чыгуначнікаў.

Многія арганізацыі стаяць у баку ад дапамогі чыгуначнаму транспарту. Гнілая пазіцыя нейтралітэта ў адносінах да транспарта, з якой яшчэ і дагэтуль не рассталася частка мясцовых арганізацый, павінна быць зломлена.

Работа транспарта цесна пераплецена з работай усіх галін народнай гаспадаркі. Дрэнная работа транспарта цяжкімі ўдарамі абрушваецца на заводы, фабрыкі, калгасы і соўгасы.

Тав. **Сталін** на XVII партз'ездзе ясна ўказаў, што

> «Мы дабіліся таго, што асноўныя пытанні прамысловасці вырашаны правільна, і прамысловасць стаіць цяпер цвёрда на нагах. Мы дабіліся таго, што асноўныя пытанні сельскай гаспадаркі таксама вырашаны правільна, і сельская гаспадарка—мы можам сказаць гэта прама—таксама стаіць цяпер цвёрда на нагах. Але мы можам пазбавіцца гэтых дасягненняў, калі наш таваразварот пачне кульгаць, і транспарт акажацца ў нас гірай на нагах. Таму, задача разгортвання таваразвароту і рашучага палепшання транспарта з'яўляецца той чарговай і актуальнейшай задачай, без вырашэння якой мы не можам рухацца ўперад».

Трэба арганізаваць рабочых і калгаснікаў на дапамогу транспарту, выхоўваць рабочых і калгаснікаў у духу соцыялістычных адносін да чыгуначнага транспарта і разумення яго агромнага значэння ў сістэме народнай гаспадаркі. Гэту задачу тэрытарыяльныя арганізацыі і палітаддзелы транспарта павінны разглядаць як пастаянную сістэматычную работу па ўздыму транспарта да ўзроўню задач, якія стаяць перад краінай у другой пяцігодцы.

Новыя адносіны рабочых і калгаснікаў да транспарта павінны сустрэць на чыгунцы новыя соцыялістычныя адносіны з боку чыгуначнікаў да рабочага і калгасніка—гаспадароў краіны. У нас яшчэ многа грубасці, высокамер'я, няўважлівых адносін, а часам і здзек-

ваняя над пасажырамі. Гэта—астатак старой спадчыны. Гэта ідзе ад старога чыгуначнага чыноўніка. Патрэбна вялікая работа, каб выкарчаваць з свядомасці чыгуначнікаў дробна-буржуазную разбэшчанасць.

Прадстаіць яшчэ агромная работа па ўнядрэнню сярод чыгуначнікаў жалезнай дысцыпліны на транспарце і ўясненню самімі чыгуначнікамі тых адказнейшых задач, якія на іх усклала партыя. Чыгуначнікі павінны быць на **перадавых пазіцыях** у барацьбе за аднаўленне транспарта, launched ператварэнне транспарта ў перадавую галіну народнай гаспадаркі. Без гэтай умовы дапамога тэрытарыяльных арганізацый не дасягне належнага эфекту. Між тым, маючыяся факты сведчаць, што і па сёнешні дзень на транспарце няма сапраўднай барацьбы за жалезную дысцыпліну, многія чыгуначнікі працуюць яшчэ па-старынцы.

У ноч з 11 на 12 чэрвеня па ўсяму аддзяленню быў праведзен рэйд па праверцы рэалізацыі пастановы партыі і ўрада аб барацьбе з хуліганствам.

У гэту ноч 37 брыгадзіраў палітаддзельскага актыва пяшком прайшлі больш 500 кілометраў. Не асталося ні адной будкі, блокпаста, станцыі, дзе не пабывала-б зоркае вока палітаддзельцаў. Брыгадзіры па дагаворанасці з тэрытарыяльнымі арганізацыямі стварылі аператыўныя брыгады ў колькасці 150 чал. з прадстаўнікоў ад тэрытарычльных арганізацый (старшынь сельсоветаў і калгасаў), ударнікаў чыгункі, уключыўшы ў іх начальнікаў станцый і дарожных майстроў.

Рэйд з'явіўся для ўсіх нечаканасцю. Гэта не мала спрыяла забяспечанню максімальнага палітычнага эфекту яго. Удзельнікі выявілі безадказныя адносіны з боку паасобных людзей да выканання свзіх службовых абавязкаў.

Брыгадзіры: Міронаў, Гайдукевіч, Хасін, Васілеўскі, Яцэвіч знайшлі спячых на пастах камандзіраў руху.

На блокпасту 636 клм. начальнік паста Вішнеўскі спаў у нецвярозым стане. Дзяжурныя блок-пастоў: 569—Бараноўскі, 565—Паўловіч, 5—Гітлевіч, 471—Сергееў і раз'езда Чэрвякова—Конюшка таксама спалі. А на ст. Шухоўцы за кампанію з ДСП Жукоўскім спалі на сталах стрэлачнік Буравы і пуцявы абходчык Сільмачэнка.

На большасці перагонаў абходчыкаў, пуцявых вартаўнікоў або зусім не сустрэлі на месцах, а калі і сустракалі, то яны не запытваліся, хто, куды, навошта ідзе і спяшаліся хутчэй ісці.

На 529 клм. брыгада ў прысутнасці абходчыка Мушкашова трогала балты на стыках, але Мушкашоў спакойна прайшоў міма брыгады, нічога не сказаўшы. Калі ў Мушкашова запыталі, чаму ён не рэагаваў на дзеянні незнаёмых яму асоб, ён адказаў: «Баюся, я ўжо напалохан. Пагражаў мяне пакалаціць адзін з прахожых».

Абходчыкі перагона Асінаўка-Чырвонае—Жукоўскі, Іваненко, Вальковіч—не затрымалі дрэзіну з брыгадай, ехаўшую без сігналаў.

Многія абходчыкі не мелі пры сабе інструментаў, а калі ў некаторых яны і былі, то ў большасці не поўнасцю і няспраўныя. Так на 6 акалодку Барысаўскай дыстанцыі чыгункі 4 абходчыкі былі без малаткоў. Чыгуначны вартаўнік Паўлаў з няспраўным ражком. Абходчыкі ст. Гусіна—Жукаў і Глухаў не мелі ключоў і малаткоў.

Выявіліся нядобрасумленныя адносіны да інструментаў з боку некаторых работнікаў чыгункі: у калоне № 6 валялася пад адкосам вагакетка; у казарме № 41 ляжаў не закрыты інструмент: лампы, дамкраты, лапаты і інш.; у дарожнага майстра Гайліка ў казарме № 43 на дварэ

кінут лом і інш. матэрыялы; інструмент не закляймован і маецца не поўнасцю.

На ст. Смальяны затрыман каля дзвярэй пакгаўза злодзей з фінкай і ключом.

Дзяжурны блок-паста 555—Тарашкевіч пусціў у памяшканне дзяжурнага невядомую асобу.

З гэтага відаць, што сапраўднай рэволюцыйнай пільнасці на лініі яшчэ няма. Дысцыпліна дрэнная. Толькі забыўшыя аб сваім доўгу перад пролетарскай дзяржавай парушальнікі дысцыпліны на транспарце здольны пакідаць адказнейшыя пасты, класціся спаць на дзяжурстве, выходзіць на работу з няспраўнымі інструментамі, кідаць яго адкрыта замест пільных адносін к ахове соцыялістычнай маёмасці і барацьбы з хуліганствам.

Лепшым прыкладам свядомых адносін да выканання сваіх абавязкаў з'явіліся брыгадзіры 3 акалодка—**Кароткі, Баранаў,** дарожны майстар ст. Смальяны **Філін** і абходчык **Суднік.** У іх увесь інструмент у наяўнасці, пранумерован, змазан, замкнут у кладовых, стаяць на сваіх месцах замкнутыя ваганеткі. Абходчык Суднік спыніў брыгаду, запатрабаваў уйсці з палатна чыгункі. У яго было ўсё ў парадку.

У асноўным рэйд паказаў, што значная частка работнікаў чыгуначнай лініі яшчэ не ўсвоіла і не зразумела палітычнай сутнасці рашэння партыі і ўрада аб дысцыпліне на транспарце і аб барацьбе з хуліганствам.

Кіраўнікам транспарта нельга забываць каштоўнейшых указанняў т. **Кагановіча,** што

> «к аздараўленню транспарта трэба падысці так, як партыя ішла і ідзе ў пераадаленні труднасцей на паасобных гаспадарчых участках. Трэба згуртаваць масы, аперціся на лепшых людзей—ударнікаў транспарта, і перамога будзе забяспечана».

Палітаддзелы чыгуначнага транспарта пры актыўнай штодзённай дапамозе тэрытарыяльных арганізацый, беззаветным правядзеннем у жыццё ўказанняў тт. Сталіна і Кагановіча здолеюць вывесці соцыялістычны транспарт на месца, якое ён павінен займаць у сістэме народнай гаспадаркі СССР.

**Стронгін**

Нам. Нач. Палітаддзела
Полацкай МТС

# Барацьба за ауладанне агратэхнікай у калгасах зоны Полацкай МТС

*(З вопыта парт-масавай работы)*

Уся сістэма нашай партыйна-масавай работы прасякнута пытаннямі барацьбы за высокі ўраджай. У зімні перыяд мы паставілі цэнтральную задачу перад калгаснікамі—ауладаць мінімумам агразоатэхнічных ведаў для ўнядрэння іх у калгасную вытворчасць. Сістэматычна праводзіўшыяся ў нас за зімні перыяд адзіныя партыйна-комсамольскія дні па калгасах былі ў розным разрэзе прысвечаны пытанням падрыхтоўкі і забяспечання высокага ўраджаю 1934 г., і ў прыватнасці арганізацыі і разгортванню агразоатэхвучобы. Напр., у лістападзе месяцы 1933 г. яшчэ на чарговым 3-м адзіным парткомсамольскім дні было абгаворана пытанне аб кантрольных лічбах, даходах на працадзень будучага ўраджаю 1934 года.

На гэтым сходзе пачалася вярбоўка ўдарнікаў высокага ўраджаю, узнагароджаных зараз спецыяльнымі кніжкамі. Іх налічваецца звыш 300 чал. Ударнікі высокага ўраджаю сталі застрэльшчыкамі ў разгортванні агравучобы, яны з'явіліся застрэльшчыкамі і ўзорам у прымяненні агратэхнікі і якасці работы ў перыяд веснавой сяўбы.

Два наступных адзіных парткомсамольскіх дні былі цалкам запоўнены пытаннямі пастаноўкі, ходу і разгортвання агравучобы, дзе пытанне барацьбы за агратэхніку было паднята на палітычную вышыню.

Неабходна падкрэсліць, што сістэма правядзення адзіных парткомсамольскіх дзён прымяняецца ў нас як форма адкрытых парткомсамольскіх сходаў з прыцягненнем шырокіх мас калгаснікаў. Папярэдне праводзіцца шырокая падрыхтоўка пры ўдзеле беспартыйнага калгаснага актыва. Сходы праводзяцца пад кіраўніцтвам парторга або комсамольскага арганізатара па ўсіх калгасах зоны МТС.

Канкрэтны змест пытанняў барацьбы за высокі ўраджай праз сістэму партмасавай работы даў свае рэзультаты ў справе шырокага развароту і ўцягнення калгаснікаў у барацьбе за ауладанне і ўнядрэнне агратэхнікі.

У зімні перыяд па нашых калгасах налічвалася 130 гурткоў па агразоатэхвучобе, з ахватам да 2.065 чал. (па няпоўнаму падліку), в іх 86 гурткоў паляводчых, 12 гурткоў спецыяльна ільнаводчых, з ахватам 160 чал. і пераважна жанчын (культура ільну вывучалася і ў па-

льняводчых гуртках); 22 гуртка жывёлагадоўчых—28 чал. Асноўны касцяк гурткоў—радавыя калгаснікі і калгасніцы вядучых спецыяльнасцей і калгасны беспартыйны актыў (сяўбіты, машыністы, ільнаводы, трапальшчыцы ільну, конюхі, даяркі, брыгадзіры, пам. брыгадзіраў—жанчыны, інспектары па якасці і т. д.). Каштоўна тое, што ў гуртках займалася ад 35 да 38 проц. жанчын, да 20 проц. моладзі, і пераважна людзі сярэдняга ўзросту. Арганізуючым і актывізуючым элементам былі ўдарнікі высокага ўраджаю і вопытнікі.

Пачалі з аднаго калгаса. У калгасе імя Сталіна работнік палітаддзела на працягу 3-х дзён разам з вопытнымі старыкамі калгаснікамі-ўдарнікамі распрацавалі праграму зімняй агравучобы для гэтага калгаса. Праграма строга ўвязвалася з практычнымі пытаннямі калгаснай вытворчасці, з агульнымі палажэннямі агратэхнікі. Кіраўнікамі гурткоў вылучалі выключна са свайго актыва вопытных калгаснікаў. Пасля правядзення адных—двух масавых заняткаў вопыт абагульняўся.

Палітаддзел разгарнуў масавую работу па арганізацыі агравучобы па ўсёй зоне калгасаў, прыстасоўваючыся да ўмоў кожнага паасобнага калгаса.

Мы амаль не мелі школьнага тону ў вучобе, не мелі таго, што робіць часам сухімі, нецікавымі заняткі ў розных іншых гуртках.

Гэта аб'ясняецца галоўным чынам наступным: першае і галоўнае тое, што мы арганізатарамі-кіраўнікамі вылучалі вопытных калгаснікаў—людзей мясцовых, звязаных з калгаснай вытворчасцю. Так, радавая калгасніца **Чэрткова** кіравала двума ільнаводчымі гурткамі выключна з жанчын, заняткі праводзіліся нармальна, увесь час уцягвала новых людзей. Заняткі цесна ўвязваліся з практычнымі задачамі. Чэрткова, як брыгадзір паляводчай брыгады, першая з прымяненнем усіх агра-правіл скончыла веснавую сяўбу. Разам з 5 жанчынамі, працуючы плячо ў плячо з мужчынамі ля плугоў і барон, выконвалі і перавыконвалі нормы.

Старшыня калгаса «Чырвоная зорка» т. **Казанаў** сам кіраваў агравучобай. Без асобай праграмы, выходзячы з плана калгаса і веснавой сяўбы, увязваючы з усімі палажэннямі агратэхнікі, т. Казанаў рэгулярна праводзіў заняткі. Гэты калгас, як ніколі, правёў сяўбу на высокім якасным узроўні: усе зернавыя і прапашныя культуры пасеяў па гною і ўгнаенню, па добрых прадшэственніках, пры вельмі добрай апрацоўцы. Усходы дружныя і чыстыя, у рэзультаце чаго праполка зусім лёгкая, ёсць магчымасць перавыканаць норму, замест 0,10 даць 0,50 га. Калгаснікі чакаюць рэкорднага ўраджаю. Тав. **Казанаў** гаворыць: «Агрaгурткі дапамаглі не толькі своечасова скласці вытворчы план, прапрацаваць нормы здзельшчыны, але к 20 сакавіку ўжо саставіць вытворчыя заданні для ўсіх брыгад на ўвесь год. Дзякуючы гурткам у нас пачалася самая сапраўдная барцьба за ўраджай».

У тых калгасах, дзе кіраўнікамі гурткоў былі людзі, адарваныя ад вытворчасці данага калгаса, там, з-за няправільнага падыходу і арганізацыі, агравучоба часта праваливалася. У такіх калгасах і веснавая сяўба праведзена нездавальняюча. Так, у калгасе «Савецкая Беларусь» агравучобай кіраваў аграном Сухо, кіраваў адарвана ад практычнай работы, не зацікаўліваў калгаснікаў, і таму гурток амаль не займаўся. Гэты калгас праваліў веснавую сяўбу як па якасці, так і па тэрмінах.

У калгасе «Парыжская комуна» вучобай кіраваў настаўнік, які таксама не здолеў зацікавіць калгаснікаў, праваліў агравучобу. Гэты калгас дапусціў рад фактаў ігнаравання агратэхнікі ў перыяд сяўбы.

Вялікае гаспадарчае, практычнае і палітычнае значэнне агравучобы пацвярджаецца такімі данымі: заг. МТФ калгаса «Трактар» гаворыць: «Агратэхгурткі далі многа ў палепшанні жывёлагадоўлі. Нашы калгасніцы, якія раней адносіліся дрэнна да жывёлагадоўлі, зараз адносяцца лепш. Мы іх навучылі працаваць і даглядаць жывёлу. Агратэхвучоба выхавала лепшых актывістак-ударніц».

Конюх **Антонаў** калгаса імя Сталіна гаворыць: «Агратэхвучоба дала нам магчымасць лепш навучыцца даглядаць коняй. Мы штодзённа праводзім чыстку коняй, устанавілі нормы кармлення, разбілі пагалоўе на групы».

Калгасніцы калгаса **«Чырвоная сосніца»** і **«Чырвонае залессе»** узялі шэфства над ацёлам і маладняком і не дапусцілі падзяжу, забою і разбазарвання. Арганізавалі паказальнае кармленне.

Радавая калгасніца калгаса «Окцябр» **Кудраўцова** гаворыць: «Мы добра ведаем, што лён з'яўляецца ў раёне і ў нашым калгасе вядучай культурай і што за ім трэба глядзець, як-бы лепш пасеяць і апрацаваць яго, каб дабіцца высокай нумарнасці. Наведваючы агратэхнічныя гурткі, мы ўявілі сабе значэнне ільну, лён—гэта наш хлеб».

Як відаць, гурткі і вучоба выходзяць з рамак звычайнай вучобы. Склад гурткоў, склад кіраўнікоў і, нарэшце, змест і рэзультаты работы гурткоў ставяць гэту справу на вялікую гаспадарча-палітычную вышыню.

* * *

З 5 па 8 сакавіка палітаддзел разам з раённай газетай, пры ўдзеле Беларускай Акадэміі Навук, правёў трохдзённую агразоатэхнічную канферэнцыю. Канферэнцыя мела асноўную задачу—падвесці вынікі зімняй вучобы ў калгасах, узняць якасць агравучобы, даць высокаякасную зарадку к веснавой сяўбе і ўстанавіць непасрэдную сувязь з Беларускай Акадэміяй Навук і яе спецыялістамі.

На канферэнцыі абгаварылі наступныя пытанні: вынікі XVII з'езда ВКП(б) і задачы павышэння ўраджаю 1934 г.; вопыт звышранняй і ранняй сяўбы ў 1933 г. (даклад дацэнта **Пілько);** агратэхніка ільну (даклада дацэнта **Мецельскага);** барацьба з хваробамі і шкоднікамі сельгасраслін (даклад праф. **Дарожкіна**); барацьба з сарняком сельгасраслін (даклад вучонага спецыяліста акадэміі **Герасімовіча);** пытанні хімізацыі сельскай гаспадаркі (даклад праф. **Протасені);** пытанні ўзняцця жывёлагадоўлі (даклад спецыяліста Наркамзема Беларусі); вопыт арганізацыі агразоатэхвучобы ў адным з лепшых калгасаў (даклады парторга і адной калгасніцы—кіраўніка гуртка).

Па свайму зместу канферэнцыя з поўным правам можа быць названа агразоатэхнічнай. Тып канферэнцыі ў практыцы партыйна-масавай работы зусім новы.

Гэта канферэнцыя з'яўляецца асаблівай і па свайму складу. Прымалі ўдзел, пачынаючы ад вучоных, прафесароў, спецыялістаў аграномаў, зоавет-спецыялістаў, раённага партактыва да старшынь калгасаў, брыгадзіра, радавых калгаснікаў і калгасніц. Склад наступны: усяго ўдзельнікаў 422, з іх: дэлегатаў ад калгасаў—383 чал., з якіх жанчын да 35 прац., моладзі да 23 год—да 20 проц.. старыкоў звыш 55 год—да 10 проц. Амаль усе дэлегаты—ударнікі, да 65 проц. прэміраваныя калгасамі. Толькі 4 чал. выпрацавала менш 150 працадзён за 1933 г. Амаль усе займаліся ў агратэхгуртках.

Падбор і пасылка на канферэнцыю былі таксама не выпадковы. Палітаддзелам загадзя былі даны развёрсткі па калгасах з указаннем

якасных прызнакаў складу дэлегатаў. У калгасах да пачатку канферэнцыі ішла сапраўдная барацьба за мандат на канферэнцыю.

Падрыхтоўка к канферэнцыі праводзілася на працягу пяці тыдняў. Вучоба за гэты перыяд яшчэ больш узмацнілася. Вялікую ролю ў перыяд падрыхтоўкі к канферэнцыі адыграла раённая газета «Чырвоная Полаччына».

Арганізацыйны бок канферэнцыі—яўка дэлегатаў, адкрыццё—зусім не падобен быў на звычайныя сельскія канферэнцыі і злёты. Добрая падрыхтоўка і цікавасць к канферэнцыі забяспечылі амаль 100 проц. своечасовую яўку. Канферэнцыя была прызначана на 12 гадзін дня і к 12 гадз. 15 мінут усе былі ў зборы. За 2 гадзіны ўсе дэлегаты былі прапушчаны праз усякія рэгістрацыі, атрыманне харчавання, кватэр і т. д. (асабліва трудна асвоіць усе бакі абслугоўвання ва ўмовах раёна, які рэдка збірае такія масавыя нарады). Гэта гаворыць аб цікавасці да такой незвычайнай справы і аб новым стылі арганізацыйнай падрыхтоўкі і практыкі збору ўсякіх масавых канферэнцый, злётаў у вёсцы. Дысцыплінаванасць, уважлівасць дэлегатаў і парадак у самім ходзе канферэнцыі гавораць таксама аб выключнай цікавасці, праяўленай к канферэнцыі.

Канферэнцыя выслухала з вялікай увагай цікавы навукова-папулярны даклад дацэнта акадэміі **Мецельскага**—аб агратэхніцы ільну, папулярнейшы даклад прафесара **Дарожніка**—аб хваробах і шкодніках сельска-гаспадарчых раслін і яркае, кароткае выступленне акадэміка **Домбаля.**

Настрой дэлегатаў і цікавасць да спецыяльных пытанняў, сільная цяга к аўладанню тэхнікай з ўсёй яркасцю характарызуюцца наступным эпізодам: спецыяліст Наркамзема Беларусі (дакладчык па пытанню жывёлагадоўлі) пабудаваў сваё выступленне на ізлажэнні раду лічб аб дрэнным становішчы ў галіне жывёлагадоўлі, аб агульных задачах у развіцці жывёлагадоўлі тонам звычайнага дакладчыка на звычайным сходзе, нічога не сказаўшы аб зоатэхнічных мерапрыемствах, спосабах, якія забяспечваюць уздым жывёлагадоўлі. Канферэнцыя яго слухала з яўным нездавальненнем. Калі-ж пасля яго асноўнага даклада слова было прадастаўлена мясцоваму ветурачу **Казлоўскаму,** які проста, ярка, але навукова абгрунтавана расказаў, як дабіцца палепшання догляду і захавання жывёлы і маладняка, то канферэнцыя праводзіла яго бурнымі апладысментамі, якімі выразіла поўнае задавальненне ад яго выступлення.

Гэта яшчэ раз гаворыць аб неабходнасці карэннай перабудовы зместу ўсёй нашай партыйна-масавай работы сярод калгасных мас.

На канферэнцыі было 44 выступленні і многа запісак па спецыяльных пытаннях. Выступленні былі не доўгімі, яны пацвярджалі высунутыя дакладчыкамі палажэнні.

Канферэнцыя мела, вядома, і рад недахопаў, як, напр., незнаёмства паасобных спецыялістаў-дакладчыкаў з мясцовымі матэрыяламі, аўдыторыяй; некаторыя спецыялісты, напэўна, даўно ўжо не сустракаліся з калгаснай масай, што часткова адчувалася ў іх дакладах; таксама, відаць, парадак дня быў перагружан спецыяльна агранамічнымі пытаннямі і інш. Але ўсе гэтыя недахопы адступаюць перад выключна арганізацыйным, грамадска-палітычным і, нарэшце, гаспадарчым значэннем, якое мела сама канферэнцыя.

Канферэнцыя з'явілася сапраўднай дэманстрацыяй саюза навукі і працы, сустрэчай людзей працы, калгасных палёў з людзьмі навукі—прафесарамі, спецыялістамі.

Калгаснік **Круглікаў** у сваім выступленні сказаў: «Нам многа яшчэ трэба вучыцца каб нашы палі былі ўгноены, каб на іх не было сарнякоў, каб нам мець чыстае насенне, бо ад гэтага залежыць высокі ўраджай. Вучоныя і прафесары Беларускай акадэміі навук, выязджаючы непасрэдна ў калгасы, павінны дапамагчы нам, калгаснікам, даць нам больш простую і зразумелую агразоатэхнічную літаратуру. Мы, людзі практыкі і людзі навукі, працуючы ў цесным саюзе, даб'емся павышэння ўраджайнасці».

Канферэнцыя зрабіла на дэлегатаў-калгаснікаў вялікае ўражанне. На адно з анкетных пытанняў: што мне дала агратэхканферэнцыя? атрымана больш 200 адказаў. Вось некаторыя з іх:

**Чарноў**—калгас «Чырвоная сосніца»—«Я атрымаў веды, як угнойваць глебу, ачышчаць насенне, праводзіць звышраннюю і раннюю сяўбу, змагацца з сарнякамі і шкоднікамі палёў. Атрымаў веды і аб развіцці жывёлагадоўлі».

**Познякаў**—калгас «Окцябр»—«Канферэнцыя дала мне неабходны напрамак у павышэнні ўраджайнасці. Атрыманыя тут веды буду папулярызаваць сярод сваіх калгаснікаў, каб кожны калгаснік узяўся за гэту справу».

**Аляксееў**—калгас «Рабочы шлях»—«Я зразумеў, на якой глебе трэба сеяць лён, каб атрымаць высокі ўраджай».

**Дарафееў**—кладаўшчык калгаса «Новыя тараны»—«Мне зараз стала зразумела як лепш захоўваць насенне і як самому правяраць засмечанасць, усхожасць і вільготнасць свайго насення. Апрача гэтага, я ведаю як пратручваць насенне».

**Іваненко**—конюх калгаса «Рабочы шлях»—«Агратэхканферэнцыя дала мне веды як правільна даглядаць коняй, каб прысці к веснавой пасеўнай кампаніі з моцным канём».

**Якушэнка**—свінавод калгаса «Дзержынскага»—«Я даведаўся, як даглядаць жывёлу і вырошчваць маладняк».

Не меншую цікавасць прадстаўляе практычная работа дэлегатаў пасля канферэнцыі. Адразу пасля канферэнцыі яна стала самай папулярнай тэмай сярод калгаснікаў раёна. У калгасах праводзіліся масавыя сходы з дакладамі дэлегатаў канферэнцыі аб яе змесце. Пад кіраўніцтвам дэлегатаў прачытваліся і прапрацоўваліся друкаваныя даклады і выступленні на канферэнцыі. Пачаўся запіс у групы вопытнікаў і падбор участкаў для вопытаў. Усіх вопытнікаў па калгасах нашай зоны не менш 300 чал. У калгасе «Лекерта» 65-гадовы старыквопытнік **Галаўчэнка** і брыгадзір **Сабаленка**, звязаўшыся з Акадэміяй навук, заклалі рад вопытных участкаў па ільну, яравізацыі і інш. культурах.

У калгасе «Новы шлях» пад кіраўніцтвам вопытнікаў—дэлегатаў канферэнцыі і дэлегата, пасланага на сесію Беларускай акадэміі навук па пытанню аб ранняй сяўбе, у кожнай брыгадзе закладзены вопытныя ўчасткі. У калгасе «Варашылава» закладзен рад вопытных участкаў ільну і аўса па рознасці глебы, яе размяшчэнню, рознасці прадшэственнікаў, па зябліву і веснаўзорванню і тэрмінах пасеву. Усе вопыты заносяцца ў спецыяльны дзеннік і к кожнаму участку прымацоўваюцца вопытнікі.

У час раённага злёта калгаснікаў-ударнікаў рад калгасаў ужо дэманстраваў пасевы вопытных участкаў. Асабліва цікавыя рэзультаты атрыманы ад яравізаваных вопытных пасеваў ільну.

Вопытніцтва ў нашых калгасах ператвараецца ў масавы рух старыкоў, моладзі, а таксама і жанчын, але пакуль што без пэўнага плану, напрамку і агранамічнай дапамогі.

* * *

Агромнае значэнне ў разгортванні агразоатэхвучобы адыграў перыяд паміж канферэнцыяй і грамадскім агразоатэхэкзаменам. Гэты перыяд узняў вучобу на высокаякасную ступень. Пачынаючы з падрыхтоўкі к канферэнцыі, мы тут-жа разгарнулі падрыхтоўку к прадстаячаму агратэхэкзамену перад выхадам у поле. Па сутнасці экзамен пачаўся з таго часу, калі дэлегаты канферэнцыі сталі адчытвацца на сходах калгаснікаў. У перыяд паміж канферэнцыяй і экзаменам зноў пачаўся прыліў калгаснікаў у агратэхгурткі: за два тыдні ўлілося звыш 200 чал., і арганізавана было каля 15 новых гурткоў, а заняткі ўжо існуючых гурткоў сталі праходзіць больш нармальна, з большай актыўнасцю: дало сябе адчуваць ядро дэлегатаў канферэнцыі з атрыманай імі зарадкай. Заняткі гурткоў былі пераведзены на кожныя тры дні. Пачалася барацьба за здачу экзамена на «выдатна» і «добра».

Аб падрыхтоўцы і правядзенні агратэхэкзамена пытанне спецыяльна абгаварвалася на адзіным партыйна-комсамольскім дні. Быў распрацован арганізацыйны план агратэхэкзамена і абслугоўвання калгасаў агратэхперсаналам. Грамадскі агратэхэкзамен праводзіўся на агульных сходах, пад кіраўніцтвам агранома і спецыяльна вылучанай камісіі на чале са старшынёй калгаса. Праз экзамен прайшлі, пачынаючы з дэлегатаў канферэнцыі, брыгадзіры, члены праўленняў, інспектары якасці, комуністы, комсамольцы і ўсе ўдзельнікі гурткоў агразоатэхвучобы. Каб паказаць прыклад арганізацыі экзамен ў калгасах, пры палітаддзеле быў папярэдне праведзен экзамен старшынь калгасаў, партыйных і комсамольскіх арганізатараў.

Пры праходжанні экзамена, апрача агразоатэхпытанняў, правяралася і ўсваенне рашэнняў XVII з'езда, гатоўнасць к сяўбе і арганізацыя соцспаборніцтва на паспяховае правядзенне сяўбы.

Матэрыялы аб грамадскім агратэхэкзамене ў калгасах паказваюць, з якой цікавасцю сустрэлі калгаснікі гэта мерапрыемства і якое вялікае значэнне набывае экзамен у справе барацьбы калгасных мас за аўладанне тэхнікай, у справе барацьбы за высокі ўраджай.

Вось некалькі прыкладаў з экзамена: запытваюць старшыню калгаса **Старавойтава**—«Якая сувязь паміж сарнякамі і шкоднікамі?

Адказ: Шкоднікі адкладаюць яечкі ў сарняках, таму барацьба са шкоднікамі непасрэдна звязана са знішчэннем сарнякоў».

«Што патрабуе цялё для свайго арганізма»?

Адказ—«Мінеральных матэрый: солі, вапны, бярозавага вугалю, вядома, па ўстаноўленай норме».

Грамадскія агратэхэкзамены ў калгасах праходзілі пры вялікім зборы шырокіх мас калгаснікаў, пры іх вялікай актыўнасці і зацікаўленасці. Так у радзе калгасаў («Герой працы», «Сталіна», «Чырвоны артылерыст» і інш.) экзамен прадаўжаўся падрад два дні (па вечарах). Асаблівую актыўнасць праяўлялі жанчыны-калгасніцы, якія на пытанні аб асноўных момантах агратэхнікі часта адказвалі лепш за мужчын. Калгаснікі і калгасніцы ўсіх узростаў з вялікім жаданнем здавалі экзамен. Не было ні аднаго факту адмаўлення ад здачы экзамена або нежадання адказваць на заданыя пытанні. Наадварот, ёсць факты (калгас «Герой працы», «Чырвоны партызан» і інш.), калі здаўшых эк-

замен было больш, чым наведваючых гурткі. У калгасе «Першае мая» 76-гадовы старык Шэф не ўсядзеў і ў час ходу экзамена падняўся і сказаў: «Хоць я не вучыўся ў гуртках, але хачу ўсё-ж адказаць, я з практыкі».

Здаўшым на «выдатна» палітаддзел прысвойвае званне «майстроў высокага ўраджаю». Гэта—новая армія перадавых барацьбітоў за большэвіцкія калгасы, за заможных калгаснікаў.

* * *

Сапраўды практычны экзамен нашым калгасам прышлося трымаць у перыяд правядзення веснавой сяўбы. Даная намі зімняя зарадка паказала сябе на полі ў барацьбе за высокую якасць палявых работ. У рэзультаце мабілізаванасці калгасных мас вакол пытанняў высокай якасці ўраджаю і поўнага ўнядрэння агратэхправіл, з вялікай рэзкасцю і выпукласцю выявіліся працэсы класавай барацьбы, адбываўшайся ў калгасах. Як ніколі, сталі твар да твару чэсныя калгаснікі, ударнікі—барацьбіты за высокі ўраджай—са шкодніцкімі, гультайскімі, адсталымі элементамі, якія моцна трымаліся за старадзедаўскія традыцыі, коснасць і кансерватызм, асабліва моцна ўнядрыўшыхся ў спосабах і метадах апрацоўкі зямлі і вядзення сельскай гаспадаркі.

Застрэльшчыкамі ў справе ўнядрэння агратэхправіл былі ўдарнікі высокага ўраджаю—дэлегаты агратэхканферэнцыі і ўдзельнікі гурткоў аграvучобы.

Веснавую сяўбу гэтага года правялі больш дружна, арганізавана і, бясспрэчна, на больш высокім агратэхнічным і якасным узроўні супроць мінулага года, хоць у радзе выпадкаў і былі досыць буйныя недахопы.

Адстаўшых калгасаў па веснавой сяўбе, у параўнанні з мінулым годам (22—25), у гэту вясну было толькі 4—5. Сяўба праведзена ў раннія тэрміны, закончана на 23 дні раней мінулага года: авёс ў асноўным пасеян к 20 красавіка, вядучая культура—лён—у асноўным пасеян к 1 мая. У гэтым годзе амаль не прыходзілася паасобна запэўняць калгаснікаў аб неабходнасці сяўбы ў больш раннія тэрміны.

Усё насенне правяралася на ўсхожасць. Пасеяна насеннем сярэдняй і вышэй сярэдняй усхожасці, няма ні аднаго выпадку пасеву ніжэй 80 проц. усхожасці. Усе зернавыя пратручваліся. Па зябліву пасеялі ў тэтым годзе значна больш, чым у мінулым годзе, сеялі вядучыя культуры. Апрацоўка глебы лепшая, чым у мінулыя гады. У асноўным удалося зламаць супраціўленні і старыя прадрассудкі, што авёс і лён можна сеяць па аднаворыву. Пасеў ільну па аднаму веснаворыву стаў праследвацца ўсёй грамадскай думкай калгасаў, як справа, накіраваная на зніжэнне ўраджайнасці. Таксама вялася барацьба супроць дробнага, за глыбокае ўзорванне. Прадшэственнікі пад асноўныя культуры—лён, ячмень, авёс, бульбу—падбіраліся найлепшыя. Многа зроблена па ўгнаенню палёў: натуральнага ўгнаення—навозу—у гэтым годзе палажана значна больш, чым у мінулыя гады. Ячмень, бульбу рэдка дзе сеялі не па гною. Маючы мінеральнае ўгнаенне не ў дастатковай колькасці, нашы калгасы шырока разгарнулі збор попелу, падсяваўшы яго, галоўным чынам, пад лён і бульбу.

Лён, як вядучая культура, займаў вялікую ўвагу ў падборы прадшэственнікаў, якасці апрацоўкі і т. д. Па даных праведзенай праверкі па 15 калгасах стан пасеваў наступны: 99 проц. засеяна па добрых прадшэственніках (канюшыне, цаліне, каранеплодах і інш.), амаль

няма фактаў пасеву ільну па аўсу і ільну; каля 75 проц. пасеяна па зябліваму ворыву, амаль усё пасеяна па другому ворыву.

У рэзультаце такой сяўбы выяўлена: вялікая засмечанасць ільну складае 0,8 проц., патрабуючай трохразовай прапалкі; сярэдняя—33,3 проц., слабая—65,9 проц. Такім чынам, па ацэнцы аграправеркі, пасевы ільну складаюць: сярэдняга і вышэй сярэдняга стану 82,5 проц. Гэты малюнак характэрны і па іншых культурах для ўсёй зоны нашых калгасаў.

Побач з гэтым неабходна адзначыць, што ў барацьбе за агратэхніку нам яшчэ не ўдалося атрымаць поўнай перамогі на ўсіх участках, у прыватнасці ў галіне радавога пасеву. Прычынай гэтага з'яўляецца часткова нераспарадзіцельнасць, часткова тэхнічныя непаладкі і, галоўным чынам, недастатковы ўдар па кулацкаму супраціўленню. Кулацкім элементам удалося ў значнай ступені сарваць радавы пасеў па такіх культурах як авёс і лён. Цікава, што якраз у тых паасобных калгасах, дзе да гэтага часу палітычнае і гаспадарчае становішча слабое, і якія ў мінулым сільна былі паражаны кулацкай дзейнасцю, там у пытаннях абхода і ігнаравання агратэхправіл і якасці работы ўзялі верх старадзедаўскія традыцыі.

У калгасе «Чырвоны прудок» праверкай устаноўлена, што: «Лён пасеян з агрэхамі, прасевы ад 1 да 0,5 метра шырыні 2,5 га ільну, пасеянага па цаліне, на 80 проц. з-за глыбокага ворыва прапалі, пасевы рэдкія, сеялі ў сырую глебу, многа няўбраных кочак, пасеў аўсу праведзен па недастаткова падрыхтаванай глебе. Радавога пасеву няма».

У калгасе «Верны шлях» устаноўлена: «Пасля пасеву асталіся вялікія агрэхі, дрэнна апрацавана глеба, рэдкія пасевы, нядобраякасная задзелка. Стан пасеву дрэнны».

Такіх фактаў налічваецца многа, але яны з'яўляюцца выключэннем ў добраякаснай рабоце гэтага году.

Наступны этап барацьбы за высокі ўраджай—прапалка—праходзіць з няменшым уздымам і высокай якасцю, чым веснавая сяўба. Не прыходзіцца даказваць неабходнасці прапалкі не толькі ільну, але і зернавых культур. Калгаснікі зразумелі карысць прапалкі ўсіх сваіх пасеваў і нават арганізавалі аднаасобнікаў на прапалку іх пасеваў, раслапожаных побач з калгасным полем (калгас «Герой працы»).

Яркім пацверджаннем барацьбы калгаснікаў за ачыстку палёў ад сарнякоў і шкоднікаў можа служыць арганізаваны палітаддзелам масавы паход на барацьбу з іржаўчынай каласавых і ільну. У першы дзень паходу—27 мая—быў аб'яўлен масавы васкрэснік. Гэты дзень якраз саўпаў з рэлігійным святам—«тройцай». Але на заклік палітаддзела, выпушчаны спецыяльнай лістоўкай, адгукнуліся тысячы калгаснікаў і калгасніц. У калгасе «Чырвоныя дзеды» мужчыны і жанчыны выкарчавалі некалькі сот кустоў крушыны. У калгасе «Чырвоная зорка» пяць партый людзей выкарчавалі больш 1 000 кустоў. Барацьба з іржаўчынай у большасці калгасаў прадаўжаецца і зараз. Гэта яшчэ раз пацвярджае беззаветную адданасць калгасных мас у барацьбе за высокі ўраджай.

Вялікае значэнне ў справе барацьбы за высокі ўраджаў мае ўцягненне і арганізацыя калгаснай дзетвары на ахову ўраджаю. Праведзеная палітаддзелам работа, па ініцыятыве піонераў і комсамольцаў калгаса імя Сталіна, па арганізацыі дзяцей на ахову ўраджаю, ускалыхнула дзіцячую масу і зараз, па нашай толькі зоне, налічваецца армія

дазорнікаў звыш 2 000 чал. Яны будуюць вышкі, разбіваюцца на групы, кожная група прымацоўваецца да пэўнага участка. Справа аховы ўраджаю набывае характар вялікага палітычнага руху.

Усе рычагі, усе сродкі павінны быць накіраваны на барацьбу за высокі ўраджай. Калгаснікі зразумелі, што за высокі ўраджай трэба пачынаць змагацца з восені і зімы, што агравучоба тут іграе не апошнюю ролю. Аб гэтым ясна гаворыць старшыня калгаса імя Сталіна тав. **Дзерабін:** «Сеялі мы сёлета лепш, чым ва ўсе мінулыя гады. Тут трэба сказаць вялікае дзякуй зімняй агравучобе. Калгаснікі няўхільна выконвалі агратэхправілы і кожны сачыў як выконвае другі. Затое і ўсходы ў нас такія, што люба паглядзець».

* * *

Неабходна зрабіць некалькі вывадаў у справе перабудовы партыйна-масавай работы.

**Першы** і галоўны вывад—перабудаваць партыйна-масавую работу ў калгасах так, каб насыціць яе пытаннямі і задачамі барацьбы за высокі ўраджай, за аўладанне агратэхнікай, унядрэнне агра і зоаправіл ва ўсе галіны сельскай гаспадаркі.

**Другі**—павярнуць навуковыя сельска-гаспадарчыя інстытуты і іх спецыялістаў, аграномаў і спецыялістаў Наркамзема к актуальным пытанням, якія хвалююць зараз калгаснікаў. Даць папулярную кніжку, плакат, дыяграму, падручнік для агразоатэхгурткоў. Больш ведаць і вывучаць эканамічныя, глебавыя і іншыя асаблівасці паасобных раёнаў і МТС.

**Трэці** — узначаліць растучую, важную і вялікую новую справу—вопытніцтва. Даць вопытніку спецыяльнае кіраўніцтва, план, тэму, падручнік, папулярны часопіс. Дапамагаць своечасова аналізаваць рэзультаты яго вопытаў.

**Чацверты**—перабудаваць культурную і палітмасавую работу на сяле, у прыватнасці хаты-чытальні і дамы соцкультуры, пад вуглом вытворчых задач калгаснай вёскі, арганізаваць хаты-лабараторыі і гэтым самым ператварыць іх у сапраўдных памочнікаў партыі ў справе барацьбы за высокі ўраджай, у сапраўдных прапагандыстаў агранамічных ведаў.

# КАНСУЛЬТАЦЫІ

## РАШЭННІ XVII ПАРТЗ'ЕЗДА—У МАСЫ

*КУТОК ПРАПАГАНДЫСТА*

## Аб новым статуце ВКП(б)[1])

I

Наша партыя існуе больш 30 год. Яна ўзнікла ў выглядзе паасобных марксісцкіх гурткоў, паасобных арганізацый. Адзінага статуту партыі не было да 1903 г., да II з'езда партыі. На II з'ездзе партыі адным з важнейшых пытанняў, па якому большэвікі разышліся з другой часткай партыі—з меншавікамі—было пытанне імена аб статуце партыі, аб тым, як павінна будавацца партыя, хто павінен быць яе членам, якія мы прад'яўляем патрабаванні да кожнага члена партыі і да кожнай партыйнай арганізацыі. На працягу ўсёй гісторыі нашай партыі статут, прыняты на II з'ездзе, неаднокраць падвяргаўся змяненням. Ужо на III, чыста большэвіцкім з'ездзе, мы ўнеслі ў статут першы параграф аб членстве ў партыі ў той фармулёўцы, якую адстойваў Ленін на II з'ездзе.

На IV, так званым аб'яднаўчым, Стакгольмскім з'ездзе партыі, у 1906 г., калі абстаноўка ў значнай ступені змянілася, мы ўнеслі ў статут цэлы рад змяненняў па пытанню аб выбарчым пачатку, аб межах кааптацыі, г. зн. аб межах таго, наколькі дапушчальна ўключэнне ў склад кіруючых органаў неабраных членаў.

Потым, V з'езд партыі, летам 1907 г. у Лондане таксама прыняў некаторыя папраўкі да статута партыі і дапаўненні, у сувязі з тым, што мы, большэвікі, настойвалі на адмене выбарнасці цэнтральнага органа партыі. Мы лічылі, што цэнтральны орган друку партыі павінен прызначацца Цэнтральным Камітэтам партыі, што кіруючы цэнтр павінен быць адзін. Цэлы рад змяненняў быў прыняты у перыяд паміж V з'ездам—1907 г. і на Пражскай канферэнцыі і на іншых нашых нарадах—і VI з'ездам, які адбыўся праз 10 год у 1917 г.

Летам 1917 года, калі мы сабраліся на свой большэвіцкі з'езд, мы ўнеслі цэлы рад дапаўненняў, мы зацвердзілі, па-першае, ленінскую фармулёўку статута партыі, якую мы прынялі на III з'ездзе і пацвердзілі на Пражскай канферэнцыі, а затым уключылі ў статут рад арганізацыйных дапаўненняў—аб членскіх узносах, аб рэвізійных камісіях і т. д. Ленін тады-ж у 1917 г. прапанаваў змяніць назву партыі: гэту назву мы змянілі на VII з'ездзе партыі. Мы называліся ў 1917 г. РСДРП большэвікоў, а потым сталі называцца РКП(б).

Потым VIII з'езд партыі таксама даў цэлы рад указанняў па партыйнаму будаўніцтву для змянення статута партыі, і сабраўшаяся ўжо ў 1919 г. VII партканферэнцыя ўнесла гэтыя змяненні ў статут партыі.

1) Перапрацаваная радыёлекцыя.

Там упершыню з'яўляецца ў разгорнутым выглядзе палажэнне аб партыйных ячэйках і цэлы рад іншых пунктаў, якіх у нас у разгорнутым выглядзе не было ў статуце партыі да VIII з'езда.

На X з'ездзе партыі ішла барацьба з апазіцыямі, з рознымі фракцыйнымі групоўкамі. Ленін унёс рэзалюцыю аб адзінстве партыі, у якой маецца пункт аб праве ЦК і ЦКК на аб'яднаным паседжанні выключаць са свайго складу і нават з партыі членаў ЦК, парушаючых партыйную дысцыпліну і адзінства партыі.

Гэтыя дапаўненні, унесеныя Леніным, былі замацованы ў статуце партыі на XII з'ездзе. Потым XIV з'езд партыі таксама ўнёс змяненні, якія датычаць умоў прыёму рабочых у партыю, выхадцаў з іншых партый, а таксама змяненні ў сувязі са стварэннем па мыслі Леніна пасля XII з'езда партыі—ЦКК. XV з'езд партыі, улічваючы ўжо вопыт барацьбы з апазіцыяй, унёс змяненні, якія датычаць як дысцыпліны, затым тэрмінаў дыскусій і прызначэння рэдакцый буйнейшых партыйных органаў.

Мы паставілі зноў пытанне аб статуце партыі на XVII з'ездзе партыі ў сувязі з тым, што змянілася абстаноўка, значна змяніліся арганізацыйныя задачы, якія стаяць перад намі.

Чым была наша партыя з самага пачатку свайго існавання? Яна налічвала наўрад ці больш 1 000 чал. большэвікоў—членаў партыі ў 1903 г. Вось з гэтых некалькі соцень большэвікоў, стварыўшых касцяк нашай нелегальнай партыі, вырасла 3-мільённая партыя большэвікоў, якая не толькі пераможна правяла пролетарскую рэволюцыю, але адстаяла пролетарскую дыктатуру на працягу 16 год, выхавала больш чым 4-мільённую арганізацыю комсамола, стварыла масавыя арганізацыі рабочага класа, пабудавала ўпершыню ў гісторыі пролетарскую дзяржаву, пабудавала фундамент соцыялістычнай эканомікі і прыступіла к пабудове соцыялізма, пабудове бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

На чым-жа аснована сіла нашай партыі? Што дала ёй магчымасць вырасці з падпольных гурткоў, з нязначных маленькіх канспіратыўных арганізацый у масавую, наймацнейшую ў свеце, партыю, адзіную ў свеце баявую рэволюцыйную партыю рабочага класа, якая здолела пераможна ажыццявіць сваю праграму. Гэта сіла заключаецца перш за ўсё ў тым, што наша партыя з самага пачатку была, як Ленін гаворыць, **аснавана на гранітнай базе марксізма.**

Другая ўмова сілы нашай партыі заключаецца ў тым, што яна была з самага пачатку баявой партыяй, якая звязвала ўсіх сваіх членаў **жалезнай партыйнай дысцыплінай.** Трэцяй умовай яе перамогі было тое, што **яна заўсёды была звязана з самымі шырокімі масамі рабочых і сялян.** Чацвертай умовай яе сілы, росту і ўмацавання было тое, што **партыя заўсёды вяла барацьбу на два фронты з усімі відамі апартунізма** і адхілення ад правільнай ленінскай лініі. Гэтыя чатыры ўмовы забяспечылі яе велізарныя поспехі і перамогі.

**Чым-жа выклікана неабходнасць перагляду нашага статута на XVII з'ездзе?** Значныя змяненні і дапаўненні, якія ўнесены ў гэты статут, выкліканы перш за ўсё тым, што статут наш заўсёды замацоўваў, з аднаго боку, тыя змяненні, якія ўжо адбыліся ў арганізацыі за мінулы перыяд, а з другога боку, ён даваў нам арганізацыйныя рамкі для далейшага разгортвання нашай работы, для далейшага ўзмацнення і ўмацавання нашых радоў. Паміж XVI і XVII з'ездам адбылася агромная перабудова ў нашай партыйнай арганізацыі. Яна заключа-

лася ў тым, што прынцып пабудовы нашай партыі па тэрытарыяльнаму прызнаку, калі ў аснову арганізацыі прымаўся той ці іншы раён нашай работы, быў **дапоўнен прынцыпам пабудовы па вытворчаму прызнаку.** Партыя наша стала мацнейшай арганізацыяй, якая кіруе пабудовай усёй соцыялістычнай гаспадаркі. Калі ўзяць нашу новую пяцігодку, то ў аснове ўсіх нашых далейшых поспехаў—і ў галіне ўздыму матэрыяльнага добрабыту і ў галіне ўздыму культурнага жыцця, ляжыць разгортванне нашай гаспадарчай дзейнасці, рост нашай прамысловасці, рост нашай сельскай гаспадаркі. Вопыт паказаў, што трэба і партыйную арганізацыю ставіць бліжэй да вытворчасці і таму партыйную арганізацыю трэба будаваць так, каб яна магла **найбольш аператыўна кіраваць** растучай прамысловасцю, сельскай гаспадаркай, уваходзячы ў дэталі вытворчасці, авалодваючы тэхнікай справы. Мы за гэты перыяд стварылі цэлы рад новых арганізацый. **Палітаддзелы МТС і соўгасаў, палітаддзелы на транспарце**—гэта частка нашых мерапрыемстваў у перабудове партыйных арганізацый. Гэта перабудова выклікана таксама і агромным ростам нашых партыйных арганізацый.

Што значыць цяпер ячэйка? Ячэйка раней—гэта маленькая клетачка партыйнага арганізма. Але добрая «клетачка», як, напр., **клетачка**-ячэйка Пуцілаўскага завода, дзе прыкладна 5 000 членаў і кандыдатаў, гэта ўжо не клетачка, гэта агромная партыйная арганізацыя. Таму прыходзіцца самое паняцце ячэйкі расшырыць.

Апрача таго, партыя прад'яўляе цяпер значна больш высокія патрабаванні к ідэалагічнаму ўзроўню кожнага члена і кандыдата партыі. Партыя павінна ў сваім статуце замацаваць гэтыя патрабаванні.

У статуце, прынятым на XVII з'ездзе, новым з'яўляюцца ўводзіны. Гэтыя ўводзіны гавораць аб тым, што мы з'яўляемся секцыяй Комуністычнага Інтэрнацыянала, што мы з'яўляемся перадавым арганізаваным атрадам пролетарыята Саюза ССР, вышэйшай формай яго класавай арганізацыі. Статут кожнай фармулёўкай дае як-бы выжымкі з вучэння *Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна* аб партыі, аб прынцыпах яе пабудовы. Кожная фраза тут узята з якога-небудзь значнага партыйнага дакумента. У гэтых уводзінах гаворыцца, што партыя ажыццяўляе кіраўніцтва пролетарыятам, працоўным сялянствам і ўсімі працоўнымі масамі ў барацьбе за дыктатуру пролетарыята, за перамогу соцыялізма, што партыя наша не толькі кіруе ўсімі органамі пролетарскай дыктатуры, але што яна забяспечвае паспяховую пабудову соцыялістычнага грамадства. Гэтыя задачы ў больш разгорнутым выглядзе заключаюцца ў нашай праграме партыі. Але ў самым статуце раней былі пералічаны толькі арганізацыйныя асновы. Тут гэтыя арганізацыйныя асновы падняты на значна большую палітычную вышыню. Таму статут партыі, пачынаючы з уводзін, і кожны яго радок з'ўляецца больш адточанай зброяй палітычнага выхавання кожнага члена і кандыдата. «Партыя з'яўляецца адзінай баявой арганізацыяй, звязанай свядомай жалезнай партыйнай дысцыплінай», «партыя сільна сваёй згуртаванасцю, адзінствам волі і адзінствам дзеяння, несумяшчальнымі з адступленнямі ад праграмы, парушэннямі партыйнай дысцыпліны і з фракцыйнымі групоўкамі ўнутры партыі». Ленін неаднаразова гаварыў, што наша партыя, партыя новага тыпу ёсць баявая арганізацыя, яна створана не для мірнага парламенцкага жыцця, для якога стварыліся партыі II Інтэрнацыянала, яна з'яўляецца баявой ваеннай арганізацыяй. Таму Ленін не раз называў нашу пар-

тыю ваюючай партыяй. Уводзіны к статуту, як і ўвесь статут, і ёсць ізлажэнне асноў, на якіх будуецца наша, ваюючая за перамогу соцыялізма, партыя.

Наша партыя ёсць секцыя Комуністычнага Інтэрнацыянала. Таму ўжо ў самых уводзінах гаворыцца аб тым, што партыя наша патрабуе ад кожнага свайго члена актыўнай і самаадданай работы не толькі па ажыццяўленню праграмы і статута партыі, па выкананню рашэнняў партыі і яе органаў, па ўмацаванню адзінства партыі, але ў гэтых уводзінах гаворыцца аб тым, што партыя патрабуе ад кожнага ўмацавання брацкіх, інтэрнацыянальных адносін як паміж працоўнымі нацыянальнасцей СССР, так і з пролетарыямі ўсяго свету. На XVII з'ездзе партыі тав. Сталін, пералічваючы агромныя нашы поспехі, гаварыў аб тым, што мы і ў далейшым будзем перамагаць, калі мы будзем помніць аб трох рэчах: **1) мы не павінны зазнавацца, 2) мы павінны аставацца вернымі сцягу Маркса—Энгельса—Леніна, 3) мы павінны заўсёды помніць аб нашых інтэрнацыянальных абавязках у адносінах да пролетарыята іншых краін, у адносінах да брацкіх компартый.** Гэта адразу ўводзіць у круг абавязкаў у адносінах не толькі к пролетарыяту нашай краіны, але і ў адносінах к пролетарыяту ўсіх іншых краін.

У сувязі з новымі складанейшымі задачамі, якія стаяць перад партыяй у другой пяцігодцы, па другому фармулявана ў новым статуце разуменне аб члене партыі і яго абавязках. Новы статут партыі чотка пералічвае абавязкі членаў партыі і кандыдатаў. Якія-ж гэта абавязкі? Гэта перш за ўсё захаванне найстражэйшай партыйнай дысцыпліны. Вядома, няма патрэбы даказваць, што найстражэйшая партыйная дысцыпліна ёсць аснова нашай партыі. Калі Ленін праз два з паловінай гады пасля Окцябрскай рэволюцыі павінен быў у міжнародным маштабе ставіць пытанне аб тым, якімі шляхамі, якімі сіламі можна перамагчы буржуазію, то пытанне аб жалезнай партыйнай дысцыпліне было высунута ім на першае месца. У «Дзіцячай хваробе «левізны» ў комунізме» Ленін пісаў што: «цяпер кожны разумее, што мы не праіснавал-б не толькі $2^1/_2$ гады, а і $2^1/_2$ месяцаў без самай найстражэйшай жалезнай дысцыпліны ў нашай партыі». Пасля 15 год існавання дыктатуры пролетарыята мы павінны паўтарыць тое-ж самае і моцна гэта падкрэсліць. Статут патрабуе актыўнага ўдзелу ў палітычным жыцці краіны, каб кожны праводзіў на практыцы палітыку партыі і рашэнні партыйных органаў. Між тым, ёсць вельмі многа членаў і кандыдатаў партыі, якія думаюць, што раз яны праграму прызнаюць, раз яны якую-небудзь работу выконваюць у той ці іншай партыйнай арганізацыі, раз яны падпарадкоўваюцца пастановам партыі і ўплачваюць членскія ўзносы, то з іх партыя ўжо нічога запатрабаваць не можа. Аднак, партыя патрабуе **ад кожнага актыўнага ўдзелу ў палітычным жыцці краіны.** Партыя патрабуе ад кожнага комуніста, каб ён нястомна працаваў над павышэннем ідэйнай узброенасці, над усваеннем асноў марксізма-ленінізма, важнейшых палітычных і арганізацыйных рашэнняў партыі і раз'ясняў-бы іх беспартыйным масам.

Новы статут партыі прад'яўляе такія патрабаванні, каб кожны член партыі працаваў над сабою, каб партыя за яго магла адказваць. Затым статут патрабуе, каб член правячай партыі ў Совецкай дзяржаве быў-бы ўзорам захавання працоўнай і дзяржаўнай дысцыпліны, каб ён аўладаў тэхнікай сваёй справай, бесперапынна павышаючы

сваю вытворчую кваліфікацыю. У гэтых адносінах на нас, большэвікоў, ускладзена выключна вялікая задача. Калі т. Сталін высунуў палажэнне, што тэхніка ў перыяд рэканструкцыі вырашае ўсё, то гэта перш за ўсё адносіцца да большэвікоў. Большэвікі павінны аўладаць тэхнікай, бо без усваення гэтай сумы ведаў нельга нам, большэвікам, кіраваць гэтай работай. Таму кожны ў сваёй галіне павінен аўладаць не толькі тэхнікай, але павінен аўладаць сумай ведаў, якія накоплены да яго і накоплены ў нашай Совецкай дзяржаве.

III

Партыя стаіць на чале ўлады. Партыя перамагла. Партыя карыстаецца грамадным аўтарытэтам. Ахвотнікаў увайсці ў такую партыю вельмі многа. Літаральна дзесяткі мільёнаў напэўна падалі-б заявы аб уступленні ў партыю, калі-б мы знялі ўсе рагаткі. Владзімір Ільіч напярэдадні XII з'езда партыі вельмі трывожыўся па поваду таго, што ў нашу партыю могуць уцясацца людзі, якія нічога агульнага не маюць з рабочым класам. Чыстка нашай партыі паказала з асаблівай нагляднасцю, якую шкоду прыносіць недахоп праверкі і асобай увагі пры прыёме ў члены партыі. У паасобных арганізацыях прышлося вычысціць да 50 проц. і вышэй іменна таму, што партарганізацыя была засмечана. Нядзіўна, што ў партыю пранікалі зусім чужыя людзі таму, што прымалі ўрачыста, часам па спісу, без праверкі каго прымаюць. Гэта не сур'ёзны, гэта не большэвіцкі прыём у партыю, гэта шкодныя адносіны да прыему ў партыю. Таму новы статут партыі ў гэтых адносінах патрабуе значна большай удумчывасці, значна большай строгасці. Перш за ўсё ніякіх калектыўных прыёмаў у партыю не можа быць, **а трэба прымаць кожнага ў індывідуальным парадку.** Гэта вядома, не значыць, што не могуць падаць заявы на працягу аднаго вечара, скажам, сто чалавек, але прымаць трэба кожнага ў індывідуальным парадку. У члены партыі могуць быць прыняты толькі з ліку кандыдатаў, прайшоўшых устаноўлены кандыдацкі стаж, школу палітграматы і ўсвоіўшых праграму і статут партыі. Усё гэта абавязкова. Без гэтага нельга прымаць нікога. Затым пералічана, каго можна прымаць у рады партыі, прычым устанаўляецца 4 катэгорыі: **першая катэгорыя**—гэта прамысловыя рабочыя, прапрацаваўшыя на вытворчасці **не менш 5 год.** У адносінах да іх больш мяккія патрабаванні. Ад іх патрабуецца **3 рэкамендацыі членаў партыі з 5-гадовым стажам.** Затым **другая катэгорыя**—гэта прамысловыя рабочыя з вытворчым стажам **менш 5 год,** сельска-гаспадарчыя рабочыя, чырвонаармейцы з рабочых і калгаснікаў і інжынерна-тэхнічныя работнікі, працуючыя непасрэдна ў цэху ці на ўчастку. У адносінах да іх патрабуецца **5 рэкамендацый членаў партыі з 5-гадовым партыйным стажам. Трэцяя катэгорыя**—гэта калгаснікі, члены саматужна-прамысловых арцелей і настаўнікі пачатковых школ. Тут яшчэ больш сур'ёзныя патрабаванні: **5 рэкамендацый членаў партыі з 5-гадовым партыйным стажам і, апрача таго, рэкамендацыя прадстаўніка палітаддзела МТС ці райкома.** Нарэшце, **чацвертая катэгорыя**—гэта астатнія служачыя, для якіх патрабуецца **5 рэкамендацый членаў партыі з 10-гадовым партыйным стажам. Асобую строгасць мы прымяняем у адносінах да выхадцаў з іншых партый. Ад выхадцаў з іншых партый мы патрабуем не толькі 5 рэкамендацый членаў партыі, але трэба, каб дзве рэкамендацыі былі з дарэволюцыйным пар-**

**тыйным стажам. Потым яны могуць быць прыняты не інакш, як праз пярвічную арганізацыю, вытворчую абавязкова. Прыём іх зацвярджаецца толькі праз ЦК партыі.**

У новым статуце партыі дакладна пералічана, ад каго мы павінны вызваляцца ў час чысткі партыі. Гэтыя ўказанні тым больш неабходны ў статуце, што трэба больш дакладна фармуляваць, ад каго мы павінны вызваляцца ў нашай партыі, каго мы павінны выганяць з нашых радоў; пералічваючы, ад каго партыя ачышчаецца ў часе перыядычных сістэматычных чыстак, статут тым самым дае ўказанні і пярвічнай арганізацыі, каго яна павінна выключаць са сваіх радоў.

Асобы раздзел у новым статуце партыі прысвечан кандыдатам партыі. Тут гаворыцца аб тым, што кандыдат, раней чым ён будзе прынят у партыю, павінен грунтоўна азнаёміцца з праграмай і статутам, з тактыкай партыі, і партыя павінна праверыць яго асабістыя якасці. Кандыдацкі стаж мы скарыстоўваем для таго, каб за гэты час таварыш вырас, для таго, каб за гэты час ён сапраўды паказаў сябе на рабоце. Зараз статут партыі ў гэтых адносінах значна больш дакладна ставіць пытанне.

У новым статуце партыі ўведзена паняцце аб групах спачуваючых. У групы спачуваючых прымаюцца найбольш блізкія партыі беспартыйныя актывісты, паказаўшыя на справе, на вытворчасці сваю аддана сць партыі, але яшчэ не падрыхтаваныя к уступленню ў партыю, прычым яны—групы ствараюцца пры пярвічных партарганізацыях і гэтыя групы безумоўна падпарадкоўваюцца ўсім рашэнням партыйных органаў. Мы павінны будзем значна перабудаваць нашу работу са спачуваючымі. Статут партыі падкрэслівае, што неабходна прыём гэтых таварышоў праводзіць на агульных сходах, затым неабходна рэкамендацыя двух членаў партыі. Гэта абавязкова. Прынятыя таварышы абавязаны наведваць усе адкрытыя партыйныя сходы, на якіх яны карыстаюцца правам дарадчага голасу, актыўна змагацца за рашэнні партыі і ўрада, сістэматычна працаваць над павышэннем свайго ідэйна-палітычнага ўзроўню. Але калі мы прад'яўляем уваходзячаму ў групы спачуваючых такія патрабаванні, то мы павінны ўдзяліць ім дастаткова ўвагі, дапамагаючы ім быць сапраўднымі бальшэвікамі.

Задача перабудовы структуры партыйных арганізацый, метадаў і зместу яе работы выклікана тымі агромнымі зьмяненнямі, якія адбыліся ў нашай эканоміцы, тымі новымі задачамі, якія стаяць перад намі ў справе кіраўніцтва ўсімі ўчасткамі растучай соцыялістычнай гаспадаркі. Задача набліжэння партыйнага кіраўніцтва да непасрэднага працэсу вытворчасці ў прамысловасці, сельскай гаспадарцы і інш. іграе рашаючую ролю ў разуменні сутнасці перабудовы партыйнай работы. Мы маем вельмі буйныя арганізацыі—па 4—5 і нават па 6 тысяч чалавек на адным заводзе. Вядома, параўноўваць такія арганізацыі з ранейшай ячэйкай трудна. Мы ствараем партыйныя камітэты для кіраўніцтва такімі арганізацыямі. Бюро павінна быць не больш чым 11 чал. У нас бюро раней былі часам вельмі грамоздкімі, чалавек да 30. Людзі па-сапраўднаму не адказвалі за тую ці іншую галіну работы.

Зараз пералічваюцца дакладна задачы пярвічных партыйных арганізацый. Гэта перш за ўсё—звязваць рабоча-сялянскія масы кіруючымі органамі партыі і весці агітацыйную і арганізацыйную работу ў масах за партыйныя лозунгі і рашэнні, прыцягваць спачуваючых і новых членаў і іх палітычна выхоўваць; садзейнічаць райкому,

гаркому ці палітаддзелу ў яго штодзённай арганізацыйнай і агітацыйнай рабоце, мабілізуючы ўвагу мас на выкананне вытворчага плана, умацаванне працоўнай дысцыпліны і развіццё ўдарніцтва, аўладанне тэхнікай, на барацьбу з расхлябанасцю і безгаспадарчым вядзеннем справы на прадпрыемстве, у соўгасе, калгасе і ў штодзённай рабоце па палепшанню бытавых умоў рабочых і калгаснікаў. Затым задачай пярвічнай партыйнай арганізацыі з'яўляецца актыўны ўдзел ў эканамічным і палітычным жыцці краіны. На пярвічную арганізацыю зараз ускладаюцца агромныя абавязкі, прычым, каб правільна была пастаўлена работа ў цэхах, адказнасць за партыйную работу ў цэху ўскладаецца на партыйнага арганізатара. Тав. **Кагановіч** фармуляваў ролю партыйнага арганізатара так: «партыйны арганізатар павінен быць баявым прадстаўніком партыі ў цэху, ён павінен, не парушаючы адзінаначалля, выконваць задачы, якія ставіць статут перад партарганізацыяй, змагацца з расхлябанасцю, дабіцца на справе жалезнай пролетарскай дысцыпліны». На пярвічную арганізацыю ўскладаецца тым больш абавязкаў, што зараз ад кожнага члена і кандыдата партыі патрабуецца, каб ён больш сур'ёзна чым да гэтага часу працаваў над павышэннем свайго ідэалагічнага ўзроўню. Чыстка партыі выявіла, не гледзячы на тое, што большасць членаў нашай партыі аказалася ідэйна-палітычна значна вырасшымі, але мы маем у сваім складзе агромную колькасць членаў з вельмі нізкім ідэйным узроўнем. Агромны лік членаў і кандыдатаў партыі часам не ўмеў адказваць на самыя элементарныя пытанні. Мы павінны былі вельмі сур'ёзна паставіць пытанне аб прабываніі ў партыі таварышоў, якія самі па сабе з'яўляюцца вельмі добрымі пролетарыямі і вытворцамі, але зусім не ўсвоілі самых элементарных і звычайных ведаў аб партыі. На пярвічную арганізацыю зараз ускладаюцца вельмі вялікія абавязкі іменна ў гэтым напрамку. У нас ёсць усе сродкі для таго, каб узняць ідэйна-палітычны ўзровень усёй масы членаў і кандыдатаў. Не толькі школы, не толькі літаратура. Але ёсць і вядомыя рашэнні XVII з'езда, а рашэнні нашых з'ездаў для нас з'яўляюцца законам. Тав. **Сталін** указваў, што далейшае ўмацаванне нашай работы патрабуе павышэння ідэйнага ўзроўню партыйцаў. Перадаленне ўсякага роду памылак, хістанняў ляжыць у далейшым аўладанні марксісцка-ленінскай тэорыі, у далейшым павышэнні ідэйнага ўзроўню члена партыі.

Нарэшце, аб унутрыпартыйнай дэмакратыі і партыйнай дысцыпліне. У статуце гаворыцца аб тым, што свабоднае і дзелавое абгаварванне пытанняў партыйнай палітыкі ў паасобных арганізацыях або партыі ў цэлым з'яўляецца неад'емным правам кожнага члена партыі, якое выцякае з унутрыпартыйнай дэмакратыі. У гэтым раздзеле статута з асобай сілай падкрэсліваецца, што захаванне адзінства партыі, барацьба з малейшымі спробамі фракцыйнай барацьбы і найстражэйшая партыйная дысцыпліна з'яўляецца першачарговым абавязкам усіх членаў партыі і ўсіх партыйных арганізацый.

На X з'ездзе Ленін паставіў вельмі рэзка пытанне аб адзінстве партыі, аб тым, што трэба забараніць усякага роду фракцыі ў нашай партыі. Але і пасля X з'езда, на працягу ўсіх гэтых год, аж да XVI з'езда партыі і нават пасля XVI з'езда, нам прыйшлося змагацца супроць спроб паасобных груп прадаўжаць фракцыйную барацьбу, ствараць унутры нашай партыі групы, групачкі і будаваць новую партыю. Мы іх разграмілі, але ў нас няма ніякай гарантыі таго. што на якім-небудзь трудным этапе, напрыклад, у выпадку вайны, такія

групы не папрабуюць выкарыстаць нашы труднасці. Таму мы ў статуце партыі патрабуем ад кожнага члена партыі захавання адзінства партыі, бязлітаснай барацьбы з малейшымі спробамі фракцыйнасці і расколу, найстражэйшай партыйнай і совецкай дысцыпліны. Таму ў новым статуце партыі мы замацавалі тое палажэнне, якое было ўнесена Леніным на X з'ездзе, што і член ЦК і член Камісіі Партыйнага кантролю, хоць яны і абраны з'ездам, могуць быць выключаны не толькі са складу таго органа, куды яны абраны, але і з партыі, калі яны парушаць партыйную дысцыпліну, ці будуць весці сябе недастойна члену партыі.

У статуце сказана, што члены партыі, якія адмаўляюцца праўдзіва адказваць на пытанні органаў партыйнага кантролю, належаць тэрміноваму выключэнню з партыі. Гэта вельмі сур'ёзны пункт, у ім партыйны статут вельмі сурова папярэджвае кожнага партыйца, што тым, хто будзе гаварыць няпраўду ў вышэйшым органе партыі, прадстаіць выключэнне з яе радоў.

Статут сапраўды ўзнімае арганізацыйныя пытанні на вялікую ідэйную вышыню і тыя дапаўненні, якія ўнесены ў статут партыі, не толькі замацоўваюць ужо праведзеныя змяненні ў пабудове нашай партыі, але і даюць нам сур'ёзную, моцную зброю для далейшага росту, пашырэння і ўмацавання ўплыву нашай партыі, яны накладаюць на нас вельмі вялікія абавязкі. Па сутнасці справы гэта тыя абавязкі, на аснове якіх пабудавалася наша партыя з самага пачатку свайго афармлення, хоць не ўсе гэтыя абавязкі былі фармуляваны ў ранейшым статуце. Гэтыя абавязкі, калі іх сфармуляваць коратка, зводзяцца к таму, што, уступаючы ў нашу партыю, ты ўступаеш у адзін з баявых рэволюцыйных атрадаў Комуністычнага Інтэрнацыянала. Член партыі павінен для гэтага, перш за ўсё, аўладаць той гранітнай асновай рэволюцыйнага марксізма, на якой з самага пачатку будавалася наша партыя. Член партыі павінен аўладаць тэхнікай справы і павышаць сваю вытворчую кваліфікацыю, член партыі павінен помніць, што партыя расла і мацнела ў барацьбе з ўсякага роду ўхіламі ад правільнай лініі рэволюцыйнага марксізма, ленінізма. Член партыі павінен помніць, што яго абавязкам заўсёды з'яўляецца захаванне жалезнай партыйнай дысцыпліны, што яго абавязкам пастаянна з'яўляецца ўмацаванне сувязі партыі з шырокімі беспартыйнымі масамі. Член партыі павінен з чэсцю, горда, з поўным усведамленнем адказнасці несці сцяг Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна к новым перамогам, к новым рэволюцыйным берагам—к перамозе сусветнай рэволюцыі.

**Літаратура:**

1. **Сталін**—Даклад на XVII з'ездзе ВКП(б), раздзел III.
2 Статут ВКП(б) у старой і новай рэдакцыі.
3. **Кагановіч**—Даклад на XVII з'ездзе ВКП(б).
4. **Ленін**—прамова на X з'ездзе «Аб адзінстве партыі» і рэзалюцыя X з'езда па гэтаму-ж пытанню, том XXVI, стар. 265—276, 3-яе рус. выд.

## Дагляд за ўборачнымі машынамі

Практыка ўборачнай кампаніі мінулага года і кліматычныя (надворныя) умовы сёлетняга года (спрыяючыя таму, што азімыя і яравыя культуры паспяваюць амаль адначасова), патрабуюць ад нас у што-б там ні стала скараціць тэрміны правядзення ўборкі ўраджаю.

Механізацыя ўборкі ўраджаю мае велізарнейшае значэнне.

Механізацыя значна паскарае ўборку, амаль бязмежна павялічваючы прадукцыйнасць працы чалавека. Так, за адзін дзень адзін чалавек на сенакасілцы можа скасіць столькі, колькі ўручную (касой) яму прышлося-б касіць 12—15 дзён. Той-жа чалавек на жняярцы-самаскідцы за дзень сажне столькі, колькі яму пры найлепшых умовах прышлося-б жаць серпом дзён 20—25. На коннай снапавязалцы адзін чалавек за дзень сажне столькі, колькі ўручную сярпом яму трэба жаць 35 дзён. Прадукцыйнасць працы чалавека пры рабоце яго на трактарнай снапавязалцы павялічваецца, у параўнанні з ручным жнівом, разоў у 50—60. Работа на камбайне дае павелічэнне ў 130—150 разоў і т. д.

Аднак, пакуль што мы не можам і не павінны адмаўляцца і ад выкарыстання прасцейшых уборачных прылад і прыспасабленняў, у тым ліку і ад касы і сярпа.

У надыходзячую ўборачную кампанію мы павінны найбольш поўна выкарыстаць **усе** простыя, складаныя і поўскладаныя, маючыяся ў нашым распараджэнні, **прылады, механізмы і машыны.**

Ніжэй мы падаем некалькі парад, як найбольш верна забяспечыць выкарыстанне і як найбольш поўна і тэхнічна правільна выкарыстаць у часе ўборкі ўборачныя механізмы, маючыя ў нас, у БССР, найбольшае распаўсюджанне.

У гэтым артыкуле мы разгледзім правілы абыходжання з касілкамі, жняяркамі і снапавязалкамі і дагляду за імі ў прадстаячую ўборачную кампанію.

Паколькі ў гэтых трох машынах ёсць агульная частка—**рэжучы апарат**, які пабудаван амаль аднолькава (за малымі выключэннямі), то мы апішам выверку яго і абыходжанне з ім толькі ў главе аб касілцы.

### 1. Касілка

Касілка нескладаная машына, яна мае толькі адну рабочую частку—рэжучы апарат, нож якога прыводзіцца ў зваротна-паступальны рух крывашыпна-шатунным механізмам ад зубчатай перадачы.

У сярэднім, у конных касілках вал крывашыпа робіць за адзін абарот ходавага каляса машыны каля 25—28 абаротаў, а ў адну мінуту (пры скорасці руху коняй роўнай 4 клм. у адну гадзіну) каля

640 абаротаў. Нож-жа ў такіх умовах павінен зрабіць 1280 ходаў. Гэты разлік паказвае, што нож рэжучага апарата працуе ў цяжкіх умовах, якія значна пагаршаюцца яшчэ і ад таго, што нож працуе без змазкі (яе трудна падаць к нажу касілкі, дзе яна ўсё роўна быстра была-б сцёрта зрэзваемымі раслінамі).

Таму на праверку нажавога апарата трэба звярнуць асаблівую ўвагу і ні ў якім разе не шкадаваць часу на правядзенне яе. К разгляду спосабаў праверкі рэжучага апарата мы зараз і пяройдзем.

**Праверка рэжучага апарата**

Перш за ўсё трэба праверыць правільнасць палажэння пальцавага бруса, у якім рухаецца нож.

Калі паглядзець на машыну зверху, пры апушчаным пальцавым брусе, то шатун і нож павінны быць распалажаны на адной прамой лініі, г. зн. супадаць са шнурком, працягнутым ад галоўкі шатуна (тая частка шатуна, якой ён надзяецца на палец крывашыпа) да знадворнага канца нажа. Шнурок трэба працягнуць праз унутраны башмак пальцавага бруса.

У машынах, якія ўжо ўжываліся, а часам і ў новых, наглядаецца адхіленне знадворнага канца пальцавага бруса ў бок адваротны руху машыны, і паміж шатуном і нажом (калі на іх глядзець зверху) ствараецца тупы вугал з вяршынаю, накіраванай у бок руху машыны.

Такое палажэнне гэтых двух дэталей—нажа і шатуна—ні ў якім разе не можа быць дапускаема, бо яно выклікае лішняе трэнне і быстры знос шарніра, злучаючага шатун з нажом і, апрача чаго, без карысці павялічвае затрату сілы на рэзанне.

У касілках нашай вытворчасці прывядзенне пальцавага бруса ў нармальнае палажэнне робіцца наступным чынам: унутраны башмак бруса звязан з цялежкай машыны пры дапамозе > падобнай рамы, пярэдні канец якой прымацоўваецца да кажуха крывашыпа і састаіць з двух увінчваючыхся адна ў другую частак. Зняўшы раму з шыпа і ўкарачваючы пярэдні канец яе шляхам увінчвання адной яе часткі ў другую, можна дабіцца таго, што пальцавы брус прыдзе ў нармальнае палажэнне. Словам, пры адхіленні пальцавага бруса назад, пярэдні канец рамы павінен быць укарочан.

У жняярках і снопавязалках такая выверка пальцавага бруса будзе непатрэбнай, бо ў гэтых машынах брус наглуха прымацован да рамы машыны усімі сваімі кропкамі, а не толькі адным левым канцом яго.

Нацягваннем шнурка ўдоўж канцоў пальцаў правяраецца правільнасць іх плажэння, і калі акажацца, што канцы некаторых пальцаў распалагаюцца не па шнуру, то лёгкімі ўдарамі малатка па пальцах ім можна надаць належнае палажэнне. Пальцы зроблены з коўкага чыгуна, таму асабліва баяцца іх паломкі ад лёгкіх удараў малатком няма чаго.

Пасля праверкі пальцавага бруса трэба пераканацца ў правільнасці палажэння нажа ў брусе, для чаго, уставіўшы нож у рэжучы апарат і злучыўшы яго з шатуном, трэба паставіць крывашып (пры разамкнутым механізме машыны) у адно з крайніх (мёртвых) палажэнняў; пры гэтым нож зойме таксама крайняе палажэнне, а вяршыны клінкоў нажа (або сегментаў, як інакш называюцца клінкі), павінны быць поўнасцю схаваны ў прарэзе пальцаў і клінкі павінны аднолькава роўна выдавацца справа і злева пальцаў.

Калі-ж гэтага сіметрычнага палажэння не назіраецца, яго аднаўляюць, для чаго трэба змяніць даўжыню шатуна, укараціўшы яго або падоўжыўшы, гледзячы на тое, у які бок адыходзіць нож у пальцавым брусе.

Аглядаюцца ўсе пальцавыя пласцінкі. Яны павінны быць добра прымацаваны да пальцаў, іх рэжучыя крсмкі павінны быць вострымі і нявышчэрбленымі.

Таксама аглядаецца і сам нож: яго сегменты павінны быць надзейна і шчыльна прымацаваны да спінкі, востра, правільна і роўна адточаны або назублены.

Гэту праверку неабходна рабіць кожны дзень перад работай.

У новых машынах, або наогул у машынах з заводскім шатуном (драўляным), гэтага дэфекту амаль ніколі не бывае. У машынах-жа з замененым шатуном, ён часта здараецца. Таму, у новай машыне пры атрыманні яе, трэба змерыць даўжыню шатуна і дакладна па гэтай мерцы зрабіць некалькі шатуноў у запас на выпадак іх паломкі. Рабіць запасныя шатуны неабходна таму, што аднавіць дакладную даўжыню шатуна пасля яго паломкі, і, тым больш, пры адначасовым гублянні адламаўшыхся частак, нельга.

Трэба прагледзець усе шарніры і ўмацаванні, каб быць упэўненым, што пальцы шарніра, вакол якіх паварачваецца пальцавы брус, пры пад'ёме і апусканні надзейна замацаваны і што балты, умацоўваючыя пальцы на брусе, надзейна зацягнуты, а прымацаванні ў палазкоў (якія ставяцца пад кожным з башмакоў) дзейнічаюць спраўна, г. зн. лёгка адвінчваюцца і завінчваюцца.

Само сабою зразумела, што нож павінен быць востра наточан. Каб работа ішла бесперабойна, трэба мець у запасе другі адточаны нож, каб на выпадак паломкі ці затуплення першага (а гэта здараецца ў касілках пры нездавальняючым стане палёў—камені, груды зямлі, пні і інш.), можна было бесперапынна прадаўжаць работу.

У часе работы машыны, спінка нажа датыкаецца да так званых пласцінак трэння, якія ставяцца на брусе ў ліку 5—6 і якія папярэджваюць сціранне пальцавага бруса, бо без пласцінак трэння спінка нажа цёрлася-б непасрэдна аб пальцавы брус. Каб менш зношвалася сама спінка нажа, пласцінкі трэння робяцца з параўнальна мяккага, а таму і хутка зношваемага метала. Трэба праверыць, ці ляжаць пярэднія краі пласцінак трэння ў адной плоскасці (па шнурку), і калі гэтага няма, то трэба аслабіць гайкі балтоў, якімі замацоўваюцца на брусе гэтыя пласцінкі (і разам з імі два пальцы, бо гэтыя балты ўмацоўваюць у той-жа час і пальцы) і перасунуць пласцінкі ўперад па ходу машыны (а можа быць, некаторыя з іх і назад).

Трэба праверыць пастаноўку націскных лапак, якія таксама, у ліку 4—5 штук, замацоўваюцца на пальцавым брусе, зверху яго, над пласцінкамі трэння, і маюць прызначэнне ўтрымліваць клінкі нажа каля пальцавых пласцінак у часе работы, пальцавыя пласцінкі і клінкі (сегменты) нажа, якія дзейнічаюць падобна да нажніц. Для забяспечання лёгкасці рэзання і папярэджання забівання рэжучага апарата клінкі нажа (як і дзве палавінкі спраўных нажніц) павінны шчыльна прылягаць да пальцавых пласцінак і націскныя лапкі (прыжымы) і забяспечваюць такое прыляганне.

Прыжымы робяцца з коўкага чыгуна і таму могуць быць крыху адагнуты лёгкім ударам малатка па прыжыму (зверху) або па зубілу (знізу), уставіўшы зубіла паміж клінком і прыжымам.

Нож, устаўлены ў пальцавы брус, не павінен быць моцна заціснут, але і не павінен хістацца (хлябаць) ні ў вертыкальным (уверх—уніз) ні ў падоўжным (узад—уперад па руху касілкі) напрамку.

## Праверка перадачы і рычажных механізмаў

Перадача ў касілцы мае вельмі простую пабудову і ніякіх труднасцей у доглядзе за сабою не прадстаўляе. Трэба толькі праверыць дакладнасць дзеяння механізма ўключэння, які павінен надзейна ўключаць і выключаць рэжучы апарат.

Механізмы рычагоў—пад'ёмнага, больш доўгага і рычага нахілу, больш кароткага—павінны быць праверany і адрэгуляваны.

Механізм рычага пад'ёму павінен быць так адрэгуляван, каб была забяспечана дастатковая вышыня пад'ёму пальцавага бруса (пры сустрэчы з перашкодамі: кочкі, пні і інш.) пры дзеянні і на рычаг і на педаль (педаль дзейнічае на той-жа механізм пад'ёму). Гэта рэгуліроўка зводзіцца к таму, што адно звяно механізма, увінчваннем або вывінчваннем яго, можа быць укарочана або падоўжана, гэтым самым мяняецца і вышыня пад'ёму пальцавага бруса.

Такім-жа парадкам рэгулюецца і механізм рычага нахілу: у ім таксама ёсць змяняемае па даўжыні звяно. Гэта рэгуліроўка дае магчымасць паварачваць брус пальцамі ўверх (пры рабоце на ўзгорках, або на камяніста-качкаватых паверхнях), або ўніз (на схілах).

Трэба не забыць адрэгуляваць нацяжэнне пружыны, падцягваючай унутраны башмак бруса ўверх; гэта падцягванне робіцца з мэтай палегчыць пад'ём бруса і зменшыць яго ціск на глебу (зменшыць сілу трэння, а значыць і сціранне палазкоў).

## Трактарныя касілкі і сцэпка іх

Трактарныя касілкі адрозніваюцца ад конных толькі масіўнасцю, даўжынёй рэжучага апарата (ці, што тое-ж самае, шырынёй рабочага захвату) і тым, што дышла іх абсталявана асобым паваротным механізмам, які дае магчымасць распалагаць машыны, пры сцэпцы іх, ступенчата (у адносінах адна да другой).

Для гэтай мэты дышла касілак робіцца састаячым з двух шарнірназлучаных частак, вугал паміж якімі, калі глядзець на машыну зверху, можна мяняць, паварачваючы адзін канец дышла ў адносінах да другога. Апошняе дасягаецца пры дапамозе паваротнага, чарвячнага механізма, які прыводзіцца ў дзеянне ад ручкі рабочым, абслугоўваючым касілку.

Механізм гэты павінен даваць магчымасць: 1) распалагаць машыны змешчана адна ў адносінах да другой (зрух управа) і трымаць іх правільна па ходу; 2) «настройваць» кожную машыну, г. зн. змяшчаць яе ўправа ці ўлева, гледзячы па палажэнню граніцы пракосу, даваемага спераду ідучай машынай; 3) асаджваць машыну на 1—2 мтр. для ачысткі нажа пры забіванні; 4) ставіць іх гуськом у адну лінію, пры транспарце (халастых пераездах).

Звычайна ў сцэпку не ставяць больш 3 касілак. Хоць па цягавых уласцівасцях, нават да самых малых нашых трактароў, можна прычапляць па 4—5 касілак, але такі поезд з вялікай колькасцю машын атрымліваецца вельмі грамоздкім, на паваротах малярухомым і ў канцы канцоў мала прадукцыйным.

## Абыходжанне з касілкамі пры рабоце

Пры запражцы коняй у конныя касілкі пярэдні канец дышла паднімаюць на адзін метр ад зямлі і на гэтай вышыні ўмацоўваюць яго нашыльнікамі. Калі сядзенне перастаўное (на рэсоры), трэба выбалансіраваць машыну, гледзячы па вазе рабочага, так, каб на канец дышла прыпадаў найменшы ціск.

Перад пачаткам работы машыну добра змазваюць, асабліва валы крывашыпа і зубчатых калёс, а ў часе работы, калі гэтыя часткі разагрэюцца, іх зноў змазваюць; наогул касілку змазваюць праз кожныя $1/2$—1 гадзіну.

Уключаць рэжучы апарат трэба не тады, калі касілка ўехала ў траву, а раней, за $1^1/_2$—2 метра, каб нож яшчэ да пачатку работы набыў нармальную скорасць, інакш можа быць паломка і наогул забіванне рэжучага апарата. Калі ўсё-ж такі рэжучы апарат забіўся, трэба асадзіць машыну, выключыць рэжучы апарат з работы і асцярожна ачысціць яго ад травы. Трэба адзначыць, што забіванне рэжучага апарата залежыць галоўным чынам ад таго, што клінкі яго недастаткова вострыя; часта прычынай забівання рэжучага апарата з'яўляецца няшчыльнае пpыляганне клінкоў нажа да пальцавых пласцінак.

Здараецца, што ў часе работы клінкі нажа адрываюцца ад спінкі. Гэта бывае ад таго, што пальцы (або палец) пагнуліся. У такім выпадкуі адшукваюць адагнуты палец (яго знайсці не трудна, калі глядзець на канцы пальцаў удоўж пальцавага бруса) і выпрамляюць яго асцярожным ударам малатка.

У часе астановак, пры змазцы машыны, трэба апрабаваць ключом усе гайкі, звярнуўшы асаблівую ўвагу на гайку пальца крывашыпа. Вядома, гайкі трэба прыцягваць не надта туга, каб унікнуць лішняга трэння ў падшыпніках, але нельга дапускаць у той-жа час і ігры валоў.

Пры касьбе на мокрых або качкаватых сенажацях. трэба прыпадняць нож на некаторую вышыню, для чаго апускаюцца палазкі ўнутранага і знешняга башмакоў.

Пры выкашванні ўчасткаў, маючых вастрыя або прамыя вуглы, гэтыя апошнія папярэдне неабходна абкашваць касою.

У тым выпадку, калі краі ўчастка абмежаваны канавамі або маюць якія-небудзь іншыя перашкоды для першага праходу машыны, а абкашванне ўчастка ўручную па яго перыметру чаму-небудзь немагчыма—робяць наступнае: выкашваюць касілкай участак па яго краях, накіроўваючы коняй прама ў траву (ведучы, значыцца, машыну супроць гадзіннай стрэлкі). Пасля праходу па ўсёй мяжы ўчастка касілку паварачваюць назад, ставячы коняй на ўжо скошаную паласу, і выкашваюць траву, прымятую коньмі пры папярэднім праходзе. З той прычыны, што прымятая трава нахілена к машыне (ход супроць шэрсці), яна скошваецца даволі добра. Пры трэцім кругу работа ўжо працякае ў звычайных умовах.

Само сабою зразумела, што трактарныя касілкі, і тым больш сцэпкі іх, могуць працаваць толькі па непарыўнай спіралі, прычым радыус закруглення павінен быць 8—10 метраў. Магчыма, вядома, работа і на малых участках і за малымі, значыць, радыусамі павароту (напр., на $1/2$—$1/3$ га), але кіраванне машынамі («настройванне»)

у гэтым выпадку вельмі затрудняецца (рабочаму трудна паспяваць вярцець рукаятку паваротнага механізму) і работа атрымліваецца часта з агрэхамі.

## 2. Жняярка-самаскідка

Жняяркі-самаскідкі выконваюць тры працэсы: 1) нахіляюць убіраемыя расліны да рэжучага апарата і ачышчаюць яго ад кладучыхся на яго раслін; 2) зразаюць расліны і 3) перыядычна скідваюць з платформы зрэзаныя расліны. Таму што першы і трэці працэсы выконваюцца адным і тым-жа грабельным апаратам, то мы адрозніваем у жняярках-самаскідках толькі дзве рабочыя часткі: 1) **рэжучы апарат** і 2) **грабельны апарат.** Як сказана вышэй, рэжучыя апараты ўсіх трава-і хлебаўбсрачных машын маюць амаль аднолькавую пабудову, таму аб рэжучым апараце жняярак мы гаварыць нічога не будзем, а скажам толькі аб грабельным апараце.

### Праверка і рэгуліроўка грабельнага апарата

Як вядома, у жняярках-самаскідках грабельны апарат састаіць з 4 грабель, якія верцяцца ўсе разам вакол вертыкальнай восі (разам з грабельнай каронкай—крэставінай).

Дзякуючы кругавой наводзячай дарожцы, па якой коцяцца ролікі бракераў, граблі пры сваім руху—вярчэнні вакол вертыкальнай восі могуць адначасова перамяшчацца ўверх і ўніз і займаць то **павышанае палажэнне**, праходзячы каля рабочага, **то найбольш нізкае**—пры скідванні раслін з платформы, **то нейкае сярэдняе** палажэнне—калі граблі толькі нахіляюць расліны і ачышчаюць ад іх рэжучы апарат (не скідваючы раслін з платформы).

Як вядома, ва ўсіх жняярках-самаскідках частату скідвання можна рэгуляваць пры дапамозе так званага лічыльніка—аўтамата.

Калі лічыльнік не разбіраўся і машына не надта зношана, то ён звычайна ні ў якой праверцы патрэбы не мае. У машынах-жа зношаных трэба праверыць, ці даволі надзейна замацоўваюцца часткі лічыльніка (пераводны язык, які адкрывае шлях роліку бракера, зашчолка, пружыны і інш.). Пры аслабленні пружын і пры зносе счапляючыхся паверхняй здараецца, што зашчолка дрэнна ўтрымлівае пераводны язык і ён несвоечасова расшчапляецца з зашчолкай. Зношаныя часткі трэба замяніць новымі.

Трэба таксама праверыць дзейнасць лічыльніка ад педалі, якая затрымлівае скідванне, бо, часамі пры няверным умацаванні цяг ад яе, яна дрэнна, або зусім не дзейнічае.

Пры праверцы грабельнага апарата неабходна дабівацца, каб граблі ў часе руху не задзявалі зубамі насцілу платформы, а бакавымі краямі—бартоў платформы. Апрача таго, яны павінны своечасова апускацца да рэжучага апарата і паднімацца ад яго або ад задняга абрэзу платформы (скідваючая грабля).

Кожная грабля павінна знаходзіцца ў самым нізкім палажэнні, у той момант, калі яе сярэдзіна знаходзіцца над лініяй рэжучага апарата, правы і левы бок яе ў той-жа час павінны знаходзіцца на аднолькавай вышыні (1—2 см.) ад насцілу платформы. Грабліна, якая не скідвае снопа, павінна паднімацца ў см. 10—20 за лініяй рэжучага апарата. Скідваючая-ж грабля павінна ісці на аднолькавай

вышыні (1—2 см.) ад платформы ва ўвесь час свайго руху над апошняй. Паднімацца скідваючая грабля павінна рэзка і ў той момант, калі сярэдзіна яе знаходзіцца над лініяй задняга абрэзу платформы.

Праверка і рэгуліроўка ўстаноўкі грабель магчыма дзякуючы таму, што ручкі іх могуць быць умацаваны вышэй і ніжэй у чыгунных бракерах, а самыя граблі могуць павараочвацца (нахіляцца) вакол балта, якім яны прымацаваны да ручак. Пры такой змене нахілу грабель трэба перастаўляць і балты (якія прымацоўваюць да граблі рамку з тонкіх драўляных брускоў), у другія адтуліны.

### Праверка механізмаў перадач і рычагоў

З прычыны агульнасці пабудовы механізмаў перадач, уключэння і рычагоў—з такімі-ж у касілках, многага да сказанага дадаць не прыдзецца. Адзначым толькі, што механізм уключэння ў жняярках распалажан не ў зубчатай перадачы, як у касілках, а ў ступіцы ходавага каляса і таму менш даступны для агляду. Але ён звычайна ніякому (або амаль ніякому) зносу і не падвяргаецца. Трэба толькі праверыць, ці лёгка жняярка пераводзіцца ў транспартнае палажэнне і назад, бо часам (у выпадку сагнутасці дэталей) пры перастаноўцы здараюцца затрудненні. Наогул усе непаладкі (звычайна тут невялікія) павінны быць загадзя знішчаны.

### Абыходжанне са жняяркай-самаскідкай у часе работы

Пры запражцы трэба звярнуць увагу на тое, каб нашыльнікі туга падцягвалі дышла, інакш пры яго раскачванні (асабліва ў машынах без перадка) коні будуць быстра стамляцца.

У пачатку работы рэгулятар лічыльніка ўстанаўляюць так, каб скідвала чацвертая грабля. Калі прыходзіцца ўбіраць высокі хлеб, то платформу паднімаюць, каб папярэдзіць заматванне хлеба вакол грабель, пры нізкім-жа хлебе ўстаноўку платформы робяць з такім разлікам, каб удар граблі не прыходзіўся на каласы. Пры ўборцы палёгшага хлеба платформу некалькі нахіляюць пальцавым брусам уніз, а граблю некалькі апускаюць у прарэзах бракераў. Жняяркамі ўдаецца здавальняюча ўбіраць хлеб, нахілены толькі да машыны, хлеб-жа, палёгшы ў напрамку руху машыны, дрэнна падаецца на платформу; у гэтым выпадку працуюць жняяркай едучы толькі з трох бакоў, па чацвертаму боку (па шэрсці) едуць ухаластую. Пры ўборцы хлеба, палёгшага ў бок (у напрамку к дышлу машыны), жнуць поўнай шырынёй нажа.

Праехаўшы некаторую адлегласць, правяраюць устаноўку рэгулятара лічыльніка і ў выпадку патрэбы ставяць яго на іншую велічыню скідваемай жменькі.

Калі акажацца патрэбным прапусціць 1—2 скідванні (напр., на ўчастку з вельмі рэдкім хлебам, то паволына націскаюць на педаль, злучаную цягамі з лічыльнікам і прытрымліваюць яе да тых пор, пакуль на платформе не набярэцца дастаткова хлеба.

Педаллю, пры аб'ездзе вуглоў, трэба карыстацца так: не даязджаючы каля 4 метраў да вугла, націскаюць нагою на педаль, прытрымліваюць яе ва ўвесь час павароту машыны і апускаюць толькі тады, калі машына праедзе таксама каля 4 метраў па другому боку вугла.

У часе астановак машыны трэба агледзець замацаванне грабель у бракерах, бо пры аслабленні іх можа быць паломка.

Сказанае аб змазцы касілак—цалкам адносіцца і да жняярак.

## 3. Снопавязалкі

Снопавязалкі—даволі складаныя машыны, таму ў кароткім часопісным артыкуле нельга вычарпальна ахваціць усіх пытанняў праверкі іх механізмаў і абыходжання з імі ў часе работы. Скажам, галоўным чынам, аб найбольш складанай частцы снопавязалкі—**вязальным апараце** бо непаладкі, якія здараюцца ў рабоце яго, трудней распазнаюцца і не так лёгка знішчаюцца.

### Рэгуліроўка вязальнага апарата і яго праверка

Вазальны стол мае толькі адну рэгуліроўку: **аб'ёму і тугасці снапоў.** Першае робіцца перастаноўкай так. званага адвальнага рычага, які ў той-жа час звязан і з механізмам уключэння вязальнага апарата. Другое—рэгуліроўкай (націсканнем або аслабленнем) пружыны ўключацеля.

Адвальны рычаг (у яго ўпіраецца сноп, калі ён фармуецца на вязальным стале) перастаўляецца бліжэй к выходнаму канцу стала або далей ад яго і сноп звязваецца то меншы, то большы. Канчатковая ўстаноўка рычага можа быць зроблена толькі ў полі, калі дакладна вызначыцца размер снапоў.

Пры зацягванні шпагату нітку трэба браць знутры клубка і з таго яго боку, з якога на нітцы, калі яе адпусціць, ствараецца менш пстляў і закручванняў.

Шпагат трэба працягнуць праз адпаведныя зажымы вушкі (у кожнай машыны яны распалажаны па-рознаму), іголку і замацаваць у зажыме апарата. Для гэтага трэба, прывязаўшы канец шпагату, які выходзіць з іголкі к адвальнаму рычагу, або трымаючы яго ў руцэ на ўзроўні адвальнага рычага, пакруціць вязальны апарат. Пры вярчэнні вязальнага апарата шпагат і ўмацоўваецца ў зажыме (цісках).

Калі вязальны апарат не падвяргаўся разборцы, то ўся яго рэгуліроўка заключаецца ў падточцы нажа (або нажоў), абразаючага шпагат і ў рэгуліроўцы двух пружын, дзейнічаючых на: 1) **падвойны палец** і 2) **зажым.** Калі гэтыя пружыны будуць мала зацягнуты гайкамі, то падвойны палец не будзе ствараць вузла, а зажымы заціскаць шпагат. А калі зацяжка іх будзе лішняй, то можа здарыцца абрыў шпагата пры выкідванні снапа і пераціранне шпагату ў зажыме. Рэгуліроўку пружын трэба рабіць асцярожна і ўмела, паварачваючы кожны раз гайку толькі на чверць абароту ў той або іншы бок.

У новых машынах трэба змазаць усе часткі машыны, якія труцца, карасінай і даць машыне прайсці ўхаластую, пакуль не сатрэцца ўся фарба.

Пры праверцы работы вязальнага апарата, каб паглядзець на яе у блізкіх, да нармальных, умоў, на вязальны стол трэба закладваць пучкі саломы (а то і круглае палена), праверка-ж апарата ўхаластую, ды яшчэ пры няўмелых адносінах да яго, часам не дае патрэбных рэзультатаў.

## Догляд за снопавязалкай у рабоце

Перад пачаткам работы снопавязалку неабходна вельмі дакладна аглядзець і ўпэўніцца ў правільнай пастаноўцы зубчатых калёс і цапкоў і іх звяздчатак, праз якія перадаецца рух іголцы і вузлавязацелю, бо пры няправільнай пастаноўцы іх вязка будзе немагчымай. Потым трэба аглядзець усе гайкі і шплінты, папрабаваць ці правільна дзейнічае вязальны апарат, ці добра наточан нож, змазаць усе валы, асабліва тыя, якія з іх быстра верцяцца, як, напр.: нагнятацеляў, ураўняльнай дошкі, крывашыпа, элеватарных і платформенных валікаў, галоўкі нажа і інш. Не трэба змазваць тых частак вузлавязацеля (зажыма і пальца), з якімі сукранаецца шпагат, бо пры змазванні іх памяншаецца трэнне, дзякуючы чаму шпагат не трымаецца ў зажыме і пятля дачасна спаўзае з пальца.

Унутраныя каналы іголкі і вушкі старанна ачышчаюць ад іржаўчыны, інакш ад трэння шпагат можа абарвацца. Трэба праверыць, ці правільна на звяздчатцы надзеты цапкі, у адваротным выпадку яны быстра зрабатваюцца. Цапкі павінны быць надзеты так, каб адкрытыя часткі шарнірных звенняў былі накіраваны напсверх і каб уперад ішла частка звяна з кручком, а не наадварот.

Палотны павінны быць нацягнуты роўнамерна, інакш яны могуць перакасіцца, набітыя на іх пласцінкі паломяцца, і самыя палотны парвуцца.

Затым у скрынку кладуць шпагат, канец якога прапускаюць праз нацягвацель, які звычайна ўмацоўваецца пад сталом (або на скрынцы), розныя вушкі, іголку і замацоўваюць яго так, як гэта ўжо было сказана вышэй.

Выехаўшы ў поле, платформу і матавіла ўстанаўляюць прыблізна адпаведна вышыні і стаянню хлеба, а потым ужо, мяркуючы па рабоце, даюць ім больш дакладную ўстаноўку.

Пры высокім і непалёгшым хлебе платформу падымаюць, матавіла ставяць вышэй і высоўваюць некалькі ўперад. Вязальны стол, разам з плоскасцю хістання іголкі, перасоўваюць к заду машыны, ураўняльную дошку адхіляюць уперад. Пры нізкім, але стаячым хлебе, платформу апускаюць (калі патрэбна, то нават і нахіляюць пальцамі ўніз), матавіла таксама апускаюць і набліжаюць да пальцавага бруса, вязальны стол перасоўваюць к пераду машыны, а ўраўняльную дошку—назад. Пры ўборцы палёгшага і блытанага хлеба матавіла высоўваюць як мага больш уперад і апускаюць вельмі нізка, платформу нахіляюць пальцамі да зямлі і апускаюць як мага ніжэй.

Калі ўсё гэта выканана, наглядаюць за шчыльнасцю вязання. Пры жаданні мець снапы меншымі і больш тугімі, перастаўляюць адвальны рычаг к вузлавязацелю і сціскаюць пружыну ўключацеля. Вуглы поля спачатку неабходна абкасіць або абжаць, каб машына магла без астановак рухацца па краях участка з закругленымі вугламі. Раз'ёмныя барозны і наогул рытвіны карысна так запоўніць абмалочанай саломай, каб хоць ходавае калясо прайшло па ёй, ад чаго значна змяншаюцца штуршкі. Хлеб, змочаны дажджом або расой, убіраць не трэба, бо элеватар і платформеннае палатно, намокшы, працуюць цяжка і няправільна.

Калі прыходзіцца карыстацца нявыцягнуўшыміся новымі палотнамі, то час-ад-часу іх трэба падцягваць, каб папярэдзіць слізганне па валіках.

Пры перавозцы снопавязалкі па вузкіх дарогах яе ўстанаўляюць на двухкалёснай цялежцы (два паасобных калёсы на каленчатых павозках), якую ўмацоўваюць унізе рамы каля ходавага каляса папярок машыны пад элеватарам; дышла-ж прымацоўваецца да рамы з боку палявога каляса. Знадворны і ўнутраны раздзяляцелі паварачваюцца ўверх або ўбок. Усё гэта робіцца з мэтай зменшыць папярочныя (у транспарце) размеры машыны.

Работа на трактарных снопавязалках нічым не адрозніваецца ад работы на конях; важна толькі тое, каб радыусы закругленняў, тым больш пры многамашыннай сцэпцы, былі як мага большыя. Патрабаванні, прад'яўляемыя да сцэпак снопавязалак, тыя-ж, што і ў адносінах да сцэпак касілак.

## 4. Зернеўлавіцелі

Пры правядзенні работ сёлетняй ўбсрачнай кампаніі ў цэнтры ўвагі бясспрэчна павінна стаяць якасць іх. Атрымаць добрую якасць уборачных работ, без правядзення самай рашучай, самай бязлітаснай барацьбы са стратамі, немагчыма.

Адгэтуль:

неабходнасць скарачэння тэрмінаў уборкі;

неабходнасць забяспечання ўсіх машын зернеўлавіцелямі;

неабходнасць абжынаць (абкашваць) уручную берагі поля і іх вуглы на заваротах машын;

адгэтуль і неабходнасць зграбання і збірання каласоў і інш.

Пленум ЦК КП(б)Б указаў, што

«Да ўборачных машын павінны быць абавязкова прыстасаваны зернеўлавіцелі, а таксама шырока практыкавацца зграбанне і збор каласоў».

У мэтах барацьбы са стратамі—жняяркі-самаскідкі і снопавязалкі павінны быць забяспечаны зернеўлавіцелямі.

Найвялікшыя страты каласоў і зярна адбываюцца ў жняярцы-самаскідцы ў часе падання каласоў на платформу і праходжэння па ёй. Таму ў жняярцы зернеўлавіцель умацоўваецца ў задняга абрэзу платформы (пад ёю).

У снопавязалцы ставяць тры зернеўлавіцелі: адзін—у месца пераходу платформы ў нахільны элеватар, другі—пад прасветам паміж элеватарам і вязальным сталом і трэці—на краі вязальнага стала—над снопаносам.

Перыядычна, пры кожнай астаноўцы, зернеўлавіцелі трэба ачышчаць.

У тых-жа мэтах барацьбы са стратамі неабходна забяспечыць кожную снопавязалку спраўным снопаносам. Работу снопавязалкі без снопаноса трэба забараняць.

## 5. Папярочныя граблі

Папярочныя граблі з'яўляюцца вельмі простай і ў той-жа час вельмі карыснай (павялічваючай разоў у 20 прадукцыйнасць працы чалавека) прыладай. Яны могуць прымяняцца як для зграбання сена, так і падграбання каласоў пасля ўборкі і нават (у некаторых выпадках) для рыхлення (ламання скарынкі ў момант ўсходу) і праполкі (пры радковай сяўбе) яравых пасеваў.

Пабудова папярочных грабель вельмі простая: яны складаюцца з невялікай рамы з сядзеннем для рабочага і зубамі спецыяльна выгнутай формы, якая пастаўлена на вось, з двума высокімі жалезнымі каляёсамі веласіпеднага тыпу (касыя спіцы) і да якой прымацаваны дзве аглоблі для запрагання каня.

Пры скідванні сабраных у валок сена ці каласоў, зубы грабель паднімаюцца. Гэты пад'ём можна выклікаць або рычагом ад рукі, або націсканем нагі на педаль, злучаную са спецыяльным аўтаматычным прыстасаваннем (храпавым механізмам).

Для праверкі гатоўнасці і падрыхтоўкі грабель да ўборачнай кампаніі можна даць наступныя парады:

1) зубы грабель павінны дапускаць выпрамленне без паломкі, пасля чаго яны павінны прымаць папярэднюю форму;

2) адлегласць паміж зубамі павінна быць усюды роўнай і не больш чым 5 см.;

3) храпавы механізм, які паднімае зубы, павінен быць спраўным і дзейнічаць лёгка і безадказна;

4) утулкі ходавых калёс павінны сядзець шчыльна на восі і быць змазанымі;

5) неабходна мець на выпадак паломкі некалькі штук запасных зубоў.

У часе работы на папярочных граблях неабходна:

1) сачыць за чыстатой заграбання (не рабіць агрэхаў), г. зн. накіроўваць правае ці левае каляса дакладна па папярэдняму следу;

2) пакідаць валкі на адной лініі па шнуру, а не раскідаць іх у беспарадку па ўсяму полю. Для гэтага трэба старацца націскаць нагой на педаль якраз у той момант, калі каляса грабель параўняецца (насдзе) на папярэдні пакінуты валок;

3) ездзіць толькі папярок тых ходаў, якія былі зроблены ўборачнай машынай;

4) не радзей двух разоў у дзень падмазваць восі (утулкі) ходавых калёс.

**Вейс.**

# Падрыхтоўка зернахавальняў к новаму ўраджаю

Задача правільнай падрыхтоўкі к уборцы ўраджаю і яго рэалізацыі не павінна абмяжоўвацца толькі тым, каб своечасова і без страт зняць ураджай з поля і своечасова наладзіць малацьбу.

Трэба правесці такія мерапрыемствы, каб складская гаспадарка ў калгасах, соўгасах і аднаасобнікаў была належным чынам падрыхтавана к прыёму новага ўраджаю і каб хлеб, які падлягае к здачы дзяржаве, мог быць даведзен да добрых кандыцый і галоўнае, каб ён быў не засмечан і не заражан свірнавымі шкоднікамі.

Між тым, на гэты бок справы да гэтага часу вельмі мала звярталі ўвагі не толькі ў гаспадарках калгаснікаў і аднаасобнікаў, але нават у саміх калгасах і соўгасах.

У рэзультаце атрымліваецца, што толькі-што змалочанае новае зярно, паложанае ў непадрыхтаваныя да прыёму зярна склады зараз-жа заражаецца свірнавымі шкоднікамі, якія жывуць у неаздароўленых, перад прыёмам новага зярна, складах.

Заражанае зярно здаецца потым на склады дзяржаве, якія, будучы перад новым ураджаем аздароўлены, зноў заражаюцца і такім чынам псуюць добры хлеб, што вядзе да грамадных страт ва ўсёй народнай гаспадарцы.

Гэтыя страты выражаюцца не толькі ў тым, што свірнавыя шкоднікі паядаюць значную частку ўраджаю, але яшчэ і тым, што сваімі трупамі шкоднікі псуюць астаўшыяся запасы. З мукі, атрыманай ад заражанага зярна, нельга спячы добры хлеб.

Пасеўнае заражанае зярно пры хаванні траціць у значнай ступені сваю ўсхожасць, бо шкоднікі перш за ўсё псуюць зародкі.

Нарэшце, свірнавыя шкоднікі ў працэсе сваёй дзейнасці выклікаюць самасаграванне і псуццё хлебных запасаў.

Калгаснікі і аднаасобнікі не ведаюць добра свайго ворага, не могуць яго распазнаваць і таму не прымаюць мер для барацьбы з ім.

Таму мы расскажам тут аб некаторых, часцей за ўсё сустракаючыхся, шкодніках.

### Свірнавы клешч

Гэты шкоднік з'яўляецца вельмі дробным, яго трудна заўважыць у зярне простым вокам. Калі заражанае зярно прасеяць праз звычайнае сіта, ужываемае гаспадынямі для прасявання мукі, то ў адсеве можна заўважыць кляшча ў выглядзе белых кропак, якія варушацца. Адсеяны серы пыл будзе састаяць з выпаражненняў і трупаў кляшча. Кляшчы псуюць усякае зярно, муку і крупы. Размнажаюцца яны надзвычай быстра і асабліва тады, калі жывуць у вільготных прадук-

тах і пры павышанай тэмпературы. На вільготнае і сільна засмечанае мінеральнай і іншай сумессю зярно клешч нападае быстрэй за ўсё і пачынае быстра размнажацца. Для ўсіх стадый развіцця кляшча, пачынаючы ад яечка, патрэбна ўсяго 17—20 дзён.

Клешч у полі не развіваецца і зярно новага ўраджаю ўпаўне свабодна ад яго, а заражаецца таму, што ссыпаецца звычайна ў заражаныя склады і перавозіцца на гэтыя склады ў заражанай тары або складаецца разам са старым зярном, якое бывае ўжо заражаным.

## Свірнавы доўганосік

Гэты шкоднік з'яўляецца па велічыні больш буйным, чым клешч. Яго свабодна можна заўважыць простым вокам. Гэта жучок каля 3 мм. даўжыні, адрозніць ад іншых казявак можна лёгка па доўгаму хабатку падобна хобату сланя, колер ад светла-бурага да чорнага, не лётае.

Перад закладкай яец самка прагрызае ў зярне дырку і кладзе ўнутры зярна адно яйцо, а дырку задзелвае пробачкай з частак зярна і слізі.

З яечка выходзіць вусень—маленькі белы чарвячок, які ў зярне жыве да поўнага развіцця і выядае ўсю унутранасць яго, пакідаючы адну абалонку.

Доўганосік баіцца свету і хаваецца ў шчылінах і вуглах.

## Меры барацьбы са свірнавымі шкоднікамі

Гэтыя меры трэба прымяняць да паступлення хлеба новага ўраджаю ў зернахавальні.

Спачатку трэба аздаравіць гэтыя хавальні, а таксама сельскія млыны і тару, у якой перавозіцца хлеб. Старое зярно трэба ізаляваць і зусім не змешваць з новым зярном.

Звычайна старое зярно бывае заражана свірнавым і іншымі відамі кляшчом. Праверыўшы старое зярно прасейваннем праз сіта або праз павелічальнае шкло і выявіўшы шкоднікаў, яго трэба яшчэ падвергнуць сонечнай сушцы—рассыпаўшы на дварэ тонкім слоем у 10—15 см. і пры гэтым часцей яго перамешваць.

Перад і пасля сушкі зярно трэба прапусціць праз веялку але на дварэ і нягодныя адходы зараз-жа закапаць у зямлю, а годнымі карміць жывёлу, перад гэтым абліўшы іх варам.

Сонца сваімі праменнямі добра забівае свірнавых шкоднікаў. Як паказаў вопыт, правільна праведзеная сонечная сушка дае добрыя рэзультаты.

Гэту ўласцівасць сонечных праменняў трэба скарыстаць пры аздараўленні тары. Мяшкі трэба вывернуць, добра выбіць ад пылу і бруду і, развесіўшы іх на заборы або на вяроўцы, добра прагрэць на сонцапёку, а потым зноў выбіць.

Адначасова з гэтым трэба добра абясшкодзіць самыя хавальні.

Кляшчы і іншыя шкоднікі звычайна жывуць у пустых памяшканнях, у зацішных месцах, дзе накапіўся пыл—на сценах, у шчылінах, пад падлогай і іншых скрытых месцах.

Падрыхтоўку хавальняў трэба пачынаць са стараннага агляду іх як знутры, так і знадворку. Першым доўгам трэба пачыніць страху і сцены, каб у хавальні не пападала вада і сырасць.

Малейшая сырасць у складзе з'яўляецца адной з прычын размнажэння шкоднікаў. Вакол склада трэба зрабіць канаўку для адводу

дажджавых і снегавых вод, з такім разлікам, каб вада не пападала ў склад або пад склад.

Месца пад падлогай трэба добра ачысціць ад прасыпкі зярна і смецця і потым заліць варам або гарачым шчолакам. Шчыліны ў падлозе задзелаць. Пасля гэтага склад павінен быць добра абмецен і ачышчан зверху да нізу ад павуціны, бруду, пылу і прасыпкі зярна. Усё нягоднае смецце павінна быць вынесена далей ад склада і зарыта ў зямлю. Трэба помніць, што толькі старанна праведзеная падрыхтоўка можа даць поўны рэзультат пры дэзінфекцыі склада.

Гэту дэзінфекцыю склада трэба праводзіць такім чынам: сцены, засекі, паталкі, а калі іх няма, то ўнутраны бок страхі добра прамыць варам або шчолакам пры дапамозе садовых апырскваценяў або пажарных насосаў. Шчолак трэба прыгатаваць шляхам кіпячэння попелу, пасля чаго вадкасць павінна адстаяцца. Калі дэзінфекцыю праводзяць вапнава-карасінавай вадкасцю, то яе трэба прыгатаваць такім чынам: 3 кг. вапны гасіцца з невялікай колькасцю вады і дабаўляецца яшчэ столькі вады, каб атрымаць у выглядзе малака 1 вядро раствору. У такі гарачы раствор дабаўляецца 1 літр карасіны, пасля чаго раствор сільна ўзбоўтваецца і гэтай сумессю пры дапамозе апырскваценяў абрызгваюцца сцены.

Пасля таго як будзе праведзена гэта работа трэба замазаць усе шчыліны ў сценках і засеках глінай або вапнай, а падлогу добра вымыць шчолакам.

У далейшым усе склады і кладоўкі трэба трымаць у чыстаце, для чаго неабходна:

1. Перыядычна абмятаць не радзей аднаго разу ў 2 тыдні ўсе сцены, выступы ад асеўшага пылу і павуціны і змёткі зараз-жа выносіць са складу.

2. Штодзённа падмятаць хавальні і ўбіраць змёткі зярна, мукі і круп і годныя для корму заварваць варам і утылізаваць.

3. У сухія халодныя дні рабіць праветрыванне складаў, ствараючы скразнякі. Праветрыванне нельга рабіць у сырую пагоду і тады, калі тэмпература наружнага паветра вышэй тэмпературы ўнутры хавальняў.

4. Нельга ў хавальнях, разам з хлебнымі прадуктамі хаваць мяшкі, рагожы і іншыя прадметы.

Веяць зярно трэба толькі на двары.

## Аб падрыхтоўцы зярна да здачы дзяржаве

Згодна закону аб хлебапастаўках, зярно будзе прымацца выключна здаровае, не заражанае свірнавым шкоднікам, не засмечанае звыш нормы і не вільготнае і сырое.

Каб падрыхтаваць зярно, адпавядаючае гэтым умовам, неабходна асабліва старанна падрыхтаваць к прыёму новага зярна зернахавальні і не забыць аздаравіць тару.

Трэба яшчэ падрыхтаваць зернеачышчальныя машыны.

Трэба помніць, што добра адвеянае зярно не толькі робіцца больш чыстым, але значна змяншаецца яго вільготнасць, яно робіцца амаль свабодным ад свірнавых шкоднікаў і натуральная вага яго павышаецца. Таму работа па ачыстцы зярна ў многа раз акупаецца і зярно, прызначаемае для здачы дзяржаве, абавязкова трэба прапусціць адзін або два разы праз зернеачышчальныя машыны.

Каб выканаць вышэйуказаную падрыхтоўчую работу ў кожным соўгасе і калгасе павінен быць складзен вытворчы план. Да гэтай

работы трэба прыцягнуць усіх спецыялістаў і бліжэйшую ячэйку Асоавіяхіма.

Пасля скончэння работы свая **інспекцыя па якасці** павінна агледзець кожную хавальню і тару і ўвесь зернеачышчальны інвентар. Калі акажацца, што работа прароблена няправільна, то трэба яе перарабіць і ні ў якім выпадку **не дапускаць**, каб новае зярно было засыпана ў заражаныя склады і тару.

На выкананне гэтых задач неабходна мабілізаваць шырокія масы калгаснікаў, бо толькі пры той умове, калі мы ўцягнем найшырэйшыя масы калгаснікаў, тады толькі мы па-сапраўднаму падрыхтуемся і правядзем уборачную кампанію, здолеем прывесці ва ўзорны стан нашы зернехавальні і датэрмінова выканаць свае абавязацельствы перад пралетарскай дзяржавай добраякасным і не заражаным зярном.

**Малашонак**
**Шырокаў**

# КРЫТЫКА І БІБЛІЯГРАФІЯ

## Супроць палітычнай безадказнасці ў перакладных работах аб класіках марксізма

**Эканамічная бібліятэка Інстытута эканомікі БелАН пад рэдакцыяй акадэміка Т. Домбаля, серыя № 1.**

**1. Л. Перчык—Карл Маркс (Да 50-годдзя з дня смерці). Менск, 1933 г.**

**2. В. Лібкнехт—„Жыццё і дзейнасць Маркса". Менск, 1933 г.**

**3. Поль Лафарг—„Успаміны аб Карле Марксе". Менск, 1933 г.**

Інстытут эканомікі Беларускай акадэміі навук па плану Акадэміі на 1933 год пачаў выдаваць „Эканамічную бібліятэку", якая павінна была складацца з 5 серый, у лік якіх уключаны пераклады на беларускую мову работ Маркса—Энгельса—Леніна—Сталіна (1-серыя), эканамічныя школы (2 серыя), арыгінальныя работы інстытута эканомікі і т. д.

Выданне бібліятэкі было разлічана на 3 гады і павінна было заключаць у сабе каля 1000 аркушоў.

Рэдакцыя „Эканамічнай бібліятэкі" аб'явіла, што ўжо „зданы ў друк" і „ў хуткім часе паступяць у продаж" I том „Капітала" К. Маркса (пераклад з нямецкага арыгіналу) і „Марксісцка-ленінская эканамічная тэрміналогія" на трох мовах і ў трох выданнях. Рэдакцыя ўказвала, што, выдаючы гэтыя работы „мы да 50-ай гадавіны смерці Маркса запаўняем той прабел, які, на вялікі жаль, існаваў аж да апошняга часу". Як вядома, ужо прайшла 51-ая гадавіна смерці Маркса, а „той прабел, які — выражаючыся словамі рэдакцыі — на вялікі жаль, існаваў аж да апошняга часу" прадаўжае існаваць і зараз, у тым-жа самым аб'ёме.

Пакуль замест усіх абяцанняў з 1-ай серыі вышлі памянёныя ў загалоўку тры работы.

Пры самым беглым знаёмстве з гэтымі работамі кідаецца ў вочы тое, што рэдакцыя недапушчальна неахайна падышла да перакладаў. Зусім адсутнічаюць указанні аб тым, з якой мовы і з якога выдання гэтыя работы перакладзены, выкінуты ўсе заўвагі рэдакцыі Інстытута Маркса — Энгельса — Леніна пры ЦК ВКП(б) біяграфічнага характару, ва ўсіх работах выпушчана нумерацыя раздзелаў.

У рабоце тав. Перчыка выкінут падзагаловак кнігі „Папулярная біяграфія" і спіс цытуемай аўтарам літаратуры.

Зусім зразумела, што навукова-папулярная каштоўнасць указаных выданняў гэтым значна зніжана.

Для чаго патрэбны былі рэдакцыі гэтыя „спрашчэнні“ ў параўнанні з выданнямі Партвыдавецтва ЦК ВКП(б)—невядома? Мабыць рэдакцыя гэтым хацела надаць работам „арыгінальны“ выгляд?

Але галоўнае не ў гэтым. Рэдакцыя паставіла перад сабой задачу аблегчыць чытачу разуменне перакладаемых работ шляхам рэдакцыйных прадмоў. Задачу гэту трэба вітаць.

Але прадмова можа выканаць гэту задачу толькі тады, калі яна дасць правільнае ўяўленне чытачу аб сутнасці друкуемай работы. Асабліва вялікія патрабаванні трэба прад'явіць да прадмоў работ аб класіках марксізма.

Прадмова-ж рэдакцыі „Эканамічнай бібліятэкі“ БелАН да работы Л. Перчыка „Карл Маркс“ з гэтай задачай спраўляецца зусім нездавальняюча.

Апрача наяўнасці там грубых памылак, прадмова аднабакова, а таму і няверна ізлагае сутнасць марксізма—галоўнае ў марксізме.

У прадмове прыведзен рад цытат Маркса і Энгельса але ўсе яны гавораць аб Марксе выключна як аб тэарэтыку, аб яго метадзе і т. д. Чытач ніяк не пазнае з прадмовы аб тым, што „Маркс — быў перш за ўсё рэволюцыянер“. Не пазнае чытач, што „ў сапраўднасці яго жыццёвым прызваннем“ было „прымаць тым ці іншым спосабам удзел у разбурэнні капіталістычнага грамадства і створаных ім дзяржаўных устаноў, удзельнічаць у справе вызвалення сучаснага пролетарыята, якому ён упершыню даў сазнанне яго ўласнага становішча і яго патрэбнасцей, сазнанне умоў яго вызвалення“ (**Энгельс**).

Аб тым, што „галоўнае ў вучэнні Маркса гэта—выясненне сусветнагістарычнай ролі пролетарыята, як будаўніка соцыялістычнага грамадства“ (**Ленін**), гэта—вучэнне аб дыктатуры пролетарыята—у прадмове мы не знойдзем. Прадмова рысуе Маркса толькі як вучонага, філасофа, эканаміста, зусім абыходзячы **асноўнае** ў марксізме, і такім чынам рысуе вялікага пролетарскага рэволюцыянера як габінетнага вучонага, а не як тэарэтыка і рэволюцыйнага барацьбіта за справу пролетарыята.

У канцы прадмовы гаворыцца, што рэдакцыя шляхам перакладаў класікаў марксізма забяспечыць работу па „**прысваенню**“[1] беларускай соцыялістычнай культуры геніяльных эканамічных твораў Маркса“[2])...

Аказваецца, беларуская **соцыялістычная** культура да гэтага часу не будавалася на марксізме-ленінізме і толькі цяпер, пасля выдання Акадэміяй гэтых работ, соцыялістычная культура знойдзе моцны фундамент марксізма.

Ці могуць быць больш неахайныя і безадказныя адносіны да састаўлення рэдакцыйных прадмоў?

У астатніх брашурах рэдакцыйныя прадмовы адсутнічаюць, але рэдакцыйная работа дае сябе адчуваць.

Стыль прадмовы не лепш чым стыль перакладу. Вось, напр., такі перл: „аўтар самым цесным чынам звязвае вучэнне Маркса і Леніна, даводзячы (? !—**В. З.**) гэтым на справе, што „ленінізм—гэта марксізм эпохі імперыялізма і пролетарскіх рэволюцый“ (Сталін)“[3]).

---

[1]) Падкрэслена мною.—**В. З.**
[2]) **Л. Перчык**—„Карл Маркс“, стар. 10, бел. выд.
[3]) **Л. Перчык**—„Карл Маркс“, стар. 9, бел. выд.

У трох памянёных брашурах адсутнічае пераклад сямі абзацаў, маючыхся ў арыгіналах, затое зроблена ў якасці кампенсацыі два дабаўленні. Усе гэтыя маніпуляцыі з перакладам прароблены без якіх-бы там ні было заўваг рэдакцыі.

Характэрна, што выкінуты, напр., такія месцы:

I. У кнізе **Л. Перчык —„Карл Маркс“:**

1) На стар. 33—пасля слова аб тым, што „палітычная праграма „Новай Рэйнскай газеты“ складалася з двух галоўных пунктаў: адзіная непадзельная дэмакратычная Германская рэспубліка і вайна з Расіяй, якая павінна была прынесці аднаўленне Польшчы“— **прапушчана: „Россия, как известно, тогда играла роль международного жандарма в Европе“** (гл. стар. 29, рус. выд.).

2) На стар. 18—пасля слоў аб тым, што Маркс „змагаўся супроць дробна-буржуазнага балота—**прапушчана: „независимо от того, с какой стороны—с правой или с левой это болото находилось“** (гл. стар. 12, рус. выд.)

3) На стар. 62—пасля характарыстыкі сусветнага эканамічнага крызіса, які „пранёсся з аднаго канца капіталістычнага свету ў другі і растрос яго нашчэнт“ —**прапушчана: „Этот шквал, бушующий вот уже 4 года “...** (гл. стар. 61, рус. выд.).

II. У кнізе **Лібкнехта Б.—„Жыццё і дзейнасць К. Маркса“**, на стар. 8, дзе гаворыцца аб рабоце Маркса „Нішчата філасофіі“, **прапушчаны** словы: **„направленная против прудоновской „Философии нищеты“** (гл. стар. 78, I том выбраных твораў Маркса).

А цяпер паглядзім на адно з дабаўленняў, зробленае рэдакцыяй:

На стар. 45, у кнізе **Л. Перчык „Карл Маркс“**, гаворачы аб „Крытыцы Гоцкай праграмы“, пасля слоў: „яна ні разу не была выдана германскай соцыял-дэмакратыяй за 40 год, якія прайшлі з часу яе з'яўлення ў 1891 г.“, **дабаўлена: „па рашучаму наляганню Энгельса“** (пар. стар. 43 рус. выд.).

Аказваецца, „Крытыка Гоцкай праграмы“ не была выдана германскай соцыял-дэмакратыяй **„па рашучаму наляганню Энгельса“!**

Апрача ўсяго паданага, трэба сказаць, што зусім немагчыма падлічыць колькасць рознастайных памылак пераклада—тут і пераклад слоў, які скажае і апашляе абліччa Маркса, тут і наццэмаўскія тэрміны і вульгарызмы і проста скажэнні паасобных слоў і выражэнняў.

Прывядзем спачатку скажэнні ў перакладзе слоў, характарызуючых—Маркса. Возьмем пераклад кнігі **Лібкнехта В. — „Жыццё і дзейнасць К. Маркса“.**

| РУСКІ ТЭКСТ | ПЕРАКЛАДЗЕНА НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ |
|---|---|
| 1. Стр. 80[1])—Маркс был **строгим**[2]) учителем... | Стар. 10—Маркс быў **сярдзітым** вучыцелем... |
| 2. Стр. 79—Он был очень **требователен.** | Стар. 9—Ён быў надзвычайна **вымагальным.** |
| 3. Стр. 81—82—В отношении чистоты и правильности языка он был **щепетильно** добросовестен. | Стар. 12—У адносінах да чыстаты і правільнасці мовы ён быў **далікатны,** сумленны. |
| 4. Стр. 78—Во всяком случае он обладал всеми данными **превосходного** преподавателя. | Стар. 9—Ва ўсякім разе ён уладаў усімі данымі **надзвычайнага** выкладчыка. |

---

1) I том выбраных твораў Маркса.
2) Падкрэслена ўсюды мною—**В. З.**

Вось некалькі прыкладаў наццэмаўскіх тэрмінаў і вульгарызмаў: У кнізе Л. **Перчыка — „Карл Маркс“**:

| | |
|---|---|
| 1. Стр. 19—С другой стороны, было много мечтателей, подчас гениальных... | Стар. 24—З другога боку, было многа маральнікаў, часамі геніяльных... |
| 2. Стр. 28—Вместо подобного якобы революционного вспышкопускательства... | Стар. 33—Замест падобнага, нібы рэвалюцыйнага падбухторвання... |

У кнізе **Поль Лафарг—„Успаміны аб К. Марксе“.**

| | |
|---|---|
| 1. Стр. 68 [1])—Жена Маркса скончалась, немного опередив мужа. | Стар. 15 — Жонка Маркса памёрла, трошкі выперадзіўшы мужа. |
| 2. Стр. 72—Интернационал рос і слава его дел наполнила весь мир. | Стар. 19—Інтэрнацыянал рос і слава яго чынаў напаўняла ўвесь свет. |

Вось некалькі прыкладаў скажэнняў у перакладзе паасобных слоў:

| | |
|---|---|
| 1. Стр. 11 [2])—половинчатость мелкой буржуазии. | Стар. 18 [2])—няпоўнасць дробнай буржуазіі. |
| 2. Стр. 20 [2])— подвергать критике. | Стар. 25 [2])—падпарадкаваць крытыцы. |
| 3. Стр. 87 [3])—порывистый характер. | Стар. 18 [4])—імпэтны характар. |

Нават такія тэрміны, як „палітычная эканомія“ напісаны ў перакладных выданнях „**Эканамічнай** бібліятэкі“ з памылкамі (гл. стар. 8 і 13 у кніжцы Лібкнехта).

Але лепш за ўсё тут жывецца знакам прыпынку—кропкі, коскі, двукоссі, клічнікі і інш. не адчуваюць ніякай дысцыпліны і ўпадаюць у вялікую „разбэшчанасць“.

Што-ж астаецца пасля гэтага дадаць? Астаецца толькі пашкадаваць чытача, якому Акадэмія, „жадаючы“ пазнаёміць яго з Марксам, прыпаднесла жудаснае блюда, прадстаўляючае сумесь палітычных памылак, скажэнняў поглядаў Маркса, яго аблічча, прыаздобіўшы ўсё гэта вульгарызмамі, наццэмаўскімі тэрмінамі і бязмежнай тэхнічнай непісьменнасцю.

Як гэта магчыма, што пераклады работ аб Марксе такой сур'ёзнай навуковай установай, як Акадэмія навук, выданы злачынна неахайна, непісьменна.

Такая „апрацоўка“ работ аб Марксе з'яўляецца здзекваннем над чытачом і можа служыць прыкладам безадказных адносін да выдання перакладных работ.

Усе тры ўказаныя работы ў такім перакладзе трэба прызнаць палітычна шкоднымі, а Акадэміі навук трэба вынесці з гэтага адпаведныя ўрокі.

У заключэнне пытанне рэдактару—тав. Домбалю:

Ці чыталі Вы, асабіста, рэдагуемыя работы?

*В. Задзернюк*

---

[1]) Гл. I том выбраных твораў Маркса.
[2]) Перчык—Карл Маркс (гл. рус. і бел. выданні).
[3]) I том выбраных твораў Маркса.
[4]) В. Лібкнехт—Жыццё і дзейнасць Маркса (беларускае выданне).

## Кніжная паліца

**МАРКС К. Крытыка Гоцкай праграмы.** Пераклад з выдання Інстытута Маркса—Энгельса—Леніна пры ЦК ВКП(б).

Менск, Партвыдавецтва, 1933 г., стар. 124, ц. 80 к.

Маркс выступіў у маі 1875 г. са сваёй „Крытыкай Гоцкай праграмы" супроць грубых апартуністычных памылак, дапушчаных у прынцыповых праграмных пытаннях правадырамі германскай соцыял-дэмакратыі, супроць апартунізма і беспрынцыпнасці, з якою правадыры эйзенахскай партыі змайстравалі праграму, прадстаўляўшую сабою сумесь ласальянскіх дагматаў, вульгарна-дэмакратычных патрабаванняў і зусім скажоных комуністычных тэзісаў.

Цэнтральнае месца ў „Крытыцы Гоцкай праграмы" займае пытанне аб рэволюцыйнай дыктатуры пролетарыята і развіцці комуністычнага грамадства. Велізарнае прынцыповае і практычнае значэнне гэтай часткі „Крытыкі" з асаблівай сілай падкрэсліў Ленін у 1917 г. у кнізе „Дзяржава і рэволюцыя", дзе ім шырока развіта высунутая Марксам ідэя дыктатуры пролетарыята.

У цяперашні час для нас гэты твор Маркса асабліва важны. Якраз цяпер, калі пры дыктатуры пролетарыята у СССР ажыццяўляецца на справе пераход ад капіталізма к комунізму, навуковыя прадбачанні Маркса атрымліваюць асаблівае значэнне, набываюць характар практычных дырэктыў, якія непасрэдна праводзяцца ў жыццё.

Пасля „Крытыкі" у кнізе змешчан у храналагічным парадку рад пісем Маркса і Энгельса, напісаных у сувязі з гоцкай праграмай. Яны дапаўняюць „Крытыку", а таксама асвятляюць гісторыю яе напісання.

**ЭНГЕЛЬС ФРЫДРЫХ. Канспект першага тома „Капітала" Маркса.**

Менск, Партвыдавецтва, 1933 г. стар. 68, ц. 45 к.

„Канспект першага тома „Капітала" Маркса выдан на рускай мове Інстытутам Маркса—Энгельса—Леніна пры ЦК ВПК(б) у 1932 годзе.

Канспект з'яўляецца сістэматычнай прапрацоўкай першага тома „Капітала". Даючы сціслае ізлажэнне пытанняў, асвятляемых у I томе „Капітала", канспект асабліва дапамагае разуменню найбольш труднай часткі „Капітала"—тэорыі вартасці і дадатковай вартасці.

**ЛЕНІН В. І. Дзве-тактыкі соцыял-дэмакратыі ў дэмакратычнай рэволюцыі.**

Менск, Партвыдавецтва, 1934 г., стар. 90, ц. 60 к.

У гэтай брашуры, якая вышла ў 1905 г., сістэматычна ізлагаюцца асноўныя тактычныя разыходжанні паміж большэвікамі і меншавікамі.

Ленін у „Двух тактыках" абгрунтоўвае галоўны, цэнтральны лозунг большэвікоў: неабходнасць у прадстаячай буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі гегемоніі пролетарыята, заваявання рэволюцыйна-дэмакратычнай дыктатуры пролетарыята і сялянства і неадкладнага перарастання буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў соцыялістычную.

Разбіраючы рашэнні Жэнеўскай канфэрэнцыі меншавікоў, В. І. Ленін ускрывае іх палавінчатасць, ухіленне ад прынцыпаў марксізма, імкненне замяніць самастойную пролетарскую палітыку палітыкай падпарадкавання пролетарыята буржуазнаму лібералізму.

Пераклад зроблен з VIII т. Твораў 3-га рус. выд.

**ЛЕНИН В. И. Из эпохи гражданской войны.** Письма, документы, распоряжения.

Москва, Партиздат, Институт Маркса—Энгельса—Ленина. 1934 г., стр. 87, ц. 85 к.

Зборнік прадстаўляе сабой вялікую вартасць і цікавасць з пункту гледжання асвятлення ролі Леніна ў грамадзянскай вайне. У зборнік уключаны тыя тэлеграмы, распараджэнні і пісьмы Леніна па пытаннях абароны, якія ўжо былі апублікаваны ў розных выданнях. Апрача дакументаў, маючых непасрэдныя адносіны да грамадзянскай вайны 1918—1920 гг., у зборнік уключаны таксама некаторыя пісьмы Леніна, змяшчаючыя яго ўказанні па падрыхтоўцы Окцябрскага пераварота.

**Два месяца работы В. И. Ленина.** Из хроники жизни и деятельности. Январь—февраль 1921 г.

Москва, Партиздат, Институт Маркса—Энгельса—Ленина. 1934 г., стр. 107, ц. 1 р. 05 к.

Апублікаваныя тут „Два месяца работы В. И. Ленина“ састаўлены выключна па дакументах і запісах, якія захоўваюцца ў Інстытуце Маркса—Энгельса—Леніна і таму не могуць прэтэндаваць на вычарпальную паўнату.

Але не гледзячы на гэта, „каляндар“ прадстаўляе сабою надзвычай каштоўны і цікавы матэрыял, ён уводзіць нас у самую лабараторыю ленінскай работы і наглядна паказвае надзвычайную інтэнсіўнасць і метады работы Владзіміра Ільіча, яго каласальную працаздольнасць і ўменне яднаць шырачэйшы размах работы з давядзеннем яе да самага канца, да самых малейшых дэталей.

„Два месяца работы В. И. Ленина“ з выключнай яркасцю і нагляднасцю паказваюць стыль работы Ільіча, яго выключнае ўменне спалучаць рэволюцыйны рускі размах з амерыканскай дзелавітасцю.

**ЛЕНІН В. І. Расказ аб II з‘ездзе РСДРП.**

Менск, Партвыдавецтва, 1934 г., стар. 16, ц. 10 к.

„Расказ аб II з‘ездзе“ напісан у верасні 1903 г. для азнаямлення староннікаў „большасці“ з асяроддзя загранічнага партыйнага актыва з акалічнасцямі, выклікаўшымі на з‘ездзе раскол. Рукапіс перапісваўся, з яго здымалі копіі і таму „Расказ“ набыў даволі шырокае распаўсюджанне ў эмігранцкіх социялістычных кругах.

Владзімір Ільіч рысуе склад з‘езда, палітычны твар яго дэлегатаў, прычыны ўходу бундаўцаў і „рабочадзельцаў“ са з‘езда і разнагалоссі, абумовіўшыя падзел іскраўцаў на большэвікоў і меншавікоў.

Пераклад зроблен з VI т. Твораў 3-га рус. выд.

**СТАЛІН І. В. Аб социял-дэмакратычным ухіле ў нашай партыі.**

Менск, Партвыдавецтва, 1934 г., стар. 185, ц. 1 р.

Кніга змяшчае даклады і заключныя словы т. Сталіна на XV партканферэнцыі і VII расшыраным пленуме ІККІ аб унутрыпартыйным

становішчы і апазіцыйным блоку ў ВКП(б), а таксама рэзалюцыі канферэнцыі і пленума па гэтых пытаннях.

У сваім дакладзе на XV партканферэнцыі т. Сталін аналізуе ўзнікненне, этапы развіцця і працэс разлажэння апазіцыйнага блока, які кваліфікуецца як соцыял-дэмакратычны ўхіл унутры партыі. Тав. Сталін ярка паказвае, што палітычная і арганізацыйная памылка апазіцыі з'яўляюцца адлюстраваннем напора непралетарскіх элементаў на генеральную лінію партыі і дыктатуру пролетарыята.

Тут тав. Сталін ва ўсю шырыню ставіць пытанне аб тым, што праблема пабудавання соцыялізма ў адной краіне, або, што тое-ж самае, якоў характар і якавы перспектывы нашай рэволюцыі, ёсць асноўнае пытанне, якое раздзяляе партыю з апартуністычным блокам.

У дакладзе на VII расшыраным пленуме ІККІ—„Яшчэ раз аб соцыял-дэмакратычным ухіле ў нашай партыі"—т. Сталін ускрывае крыніцы ўнутрыпартыйных разнагалоссяў у ВКП(б), падрабязна спыняецца на асаблівасцях данай апазіцыі і яе разыходжаннях з партыяй. Паказаўшы, што раскольніцкая дзейнасць апазіцыйнага блока, рэвізуючага асновы ленінізма, накіравана на падрыў партыйнага адзінства і сустракае адкрытае адабрэнне меншавікоў і буржуазіі, т. Сталін прыходзіць к вываду, што фронт апазіцыі зліўся з фронтам праціўнікаў і ворагаў дыктатуры пролетарыята. Тав. Сталін адзначае, што „спробы падарваць партыйнае адзінства і стварыць новую партыю павінны быць зніштожаны ў корані, калі мы хочам захаваць дыктатуру пролетарыята і будаваць соцыялізм".

**XIII пленум ИККИ. Стенографический отчет.**

Москва, Партиздат., 1934 г., стр. 597, ц. 10 р..

Стэнаграфічны адчот XIII пленума Выканкома Комінтэрна, які адбыўся ў снежні 1933 г. у Маскве, уключае ўсе даклады, прамовы, рэзалюцыі і пастановы пленума.

Стэнаграфічны адчот змяшчае ў сабе: даклад т. **Куусінена**—Аб фашызме, ваеннай небяспецы і задачах комуністычных партый, т. **Піка**—Аб дзейнасці комуністычнай партыі Германіі і т. **Політа**—Аб тактыцы адзінага фронта ў Англіі, спрэчкі па гэтых дакладах, заключныя словы дакладчыкаў, рэзалюцыі і пастановы, прынятыя пленумам.

Не гледзячы на некаторыя скарачэнні, стэнаграфічны адчот пленума дае вычарпальны матэрыял аб рашэннях XIII пленума ІККІ.

Брыгада Бібліяграфічнага інстытута БССР
імя Леніна

---

# ПАСТАНОВЫ ПЛЕНУМА ЦК КП(б)Б

## Аб рабоце прамысловасці за чатыры месяцы 1934 года

1

У сваім дакладзе на XVII з'ездзе ВКП(б) тав. Сталін паставіў перад партыяй у галіне прамысловасці наступныя задачы:

«Разгарнуць вытворчасць тавараў шырокага спажывання па ўсіх гаспадарчых наркаматах.

Развязаць мясцовую совецкую прамысловасць, даць ей магчымасць праявіць ініцыятыву ў справе выторчасці тавараў шырспажыву і аказаць ёй магчымую дапамогу сыравінай і сродкамі.

Палепшыць якасць выпускаемых тавараў, спыніць выпуск некамплектнай прадукцыі і караць усіх тых таварышоў, не глядзячы на асобы, якія парушаюць або абыходзяць законы совецкай улады аб якасці і камплектнасці прадукцыі.

Дабіцца сістэматычнага росту прадукцыйнасці працы, зніжэння сабекошту і ўкаранення гаспадарчага разліку.

Дабіць абязлічку ў рабоце і ўраўнілаўку ў сістэме зарплаты.

Ліквідаваць канцылярска-бюракратычны метад кіраўніцтва ва ўсіх звеннях гаспадарчых наркаматаў, сістэматычна правяраючы выкананне рашэнняў і ўказанняў кіруючых органаў ніжэйстаячымі органамі».

2

Канстатуючы, што за прайшоўшыя 4 месяцы, не гледзячы на наяўнасць на паасобных прадпрыемствах прамысловасці БССР некаторых зрухаў (побач з такімі прадпрыемствамі, як Магвалакно, фабрыка імя Клары Цэткін, завод «Большэвік», узяўшая ўсесаюзнае пяршынства запалкавая фабрыка «Х Окцябр», акулярная фабрыка, якія выконваюць план—пачалі выконваць план у колькасным выражэнні такія фабрыкі, як «КІМ», шчацінна-шчотачны камбінат—Віцебск, «Сцяг індустрыялізацыі», барысаўская фабрыка «Пролетарская перамога», абутковыя фабрыкі Гомеля, Віцебска і Менска, намеціўся некаторы ўздым у рабоце паасобных прадпрыемстваў харчовай прамысловасці БССР), пленум ЦК КП(б)Б разам з тым лічыць, што прамысловасцю БССР зроблены толькі першыя крокі ў справе барацьбы за ажыццяўленне гістарычных указанняў таварыша Сталіна, рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б.

Выходзячы з усяго гэтага, пленум лічыць работу прамысловасці БССР у цэлым як па якасці, так і па колькаснаму выкананню плана, у асаблівасці рэспубліканскай прамысловасці НКЦяжпрома, НКСнаба,

Наркамлегпрома, а таксама прамысловасці Ўпаўнаркомлеса і Промкааперацыі за 4 месяцы 1934 г. **зусім нездавальняючай.**

3

Прамысловасць Беларусі па чатырох наркаматах (Наркамлегпром, Наркамцяжпром, Наркамлес, Наркамснаб) выканала свой промфінплан у першым квартале толькі на 90,2 проц. і за красавік месяц—на 93,4 проц. (саюзная—95,1 проц., рэспубліканская—92,3 проц.).

Па наркаматах:

Упаўнаркамцяжпром выканаў план у першым квартале на 93,1 проц. (саюзная—101,1 проц., рэспубліканская—87,0 проц.); у красавіку па саюзнай—100,6 проц., па рэспубліканскай—87,9 проц.

Наркамлегпром выканаў план у першым квартале на 95,1 проц. (саюзная—101,7 проц., рэспубліканская—94,9 проц.); у красавіку па саюзнай—103,5 і рэспубліканскай—97,2 проц.

Наркамснаб выканаў у першым квартале на 84,3 проц. (саюзная—88,8, рэспубліканская—80,2 проц.); у красавіку месяцы па саюзнай—93,6 проц.

Па Ўпаўнаркамлесу план у першым квартале выканан на 87,7 проц. (саюзная—87,8 проц.; рэспубліканская—83,6 проц.); у красавіку па саюзнай—90 проц. (без Лесбела), рэспубліканскай—66,7 проц.

Заводы Ўпаўнаркамцяжпрома за 4 месяцы недадалі прадметаў шырспажыву на 1 100 тыс. руб.; Упаўнаркамлес—на 634 тыс. руб.

Сампромкааперацыя выканала план першага квартала па Белкаапромсовету толькі на 86,34 проц. і па Белкааплессаюзу—на 96,4 проц.

4

Побач з невыкананнем плана па колькасных паказчыках мае месца вялікае недавыкананне па якасных паказчыках, барацьба за выкананне якіх з'яўляецца цэнтральнай задачай у выкананні плана 1934 года. Вынікі першага квартала сведчаць аб тым, што к гэтаму важнейшаму ўчастку няма належнай увагі з боку гаспадарчых і партыйных арганізацый Беларусі. Не гледзячы на тое, што ў апошні час праведзена некалькі працэсаў супроць бракаробаў (кіраўніцтва Менскай лямцавай фабрыкі і інш.), закон аб адказнасці за якасць праводзіцца нездавальняюча. Наркаматы не змагаюцца яшчэ як след за яго ажыццяўленне. Ёсць паасобныя скажэнні закона (прыцягненне к адказнасці другарадных асоб). У рэзультаце гэтага за першы квартал прамысловасць БССР мае павелічэнне сабекошту: па прамысловасці Наркамснаба замест зніжэння на 0,8 проц.—павелічэнне на 1,4 проц., па прамысловасці Наркамлегпрома замест зніжэння на 1,25 проц.—павелічэнне на 0,3 проц., па прамысловасці Наркамлеса замест зніжэння на 2 млн.—павелічэнне на 400 тыс. руб.

Таксама мае месца адвольнае павелічэнне і перарасход фондаў заработнай платы. Гэтыя сурёзныя недахопы з'яўляюцца рэзультатам таго, што кіраўніцтва раду трэстаў і прадпрыемстваў ігнаравала рашэнне ЦК па пытаннях перабудовы, ліквідацыі функцыяналкі, аддавала недастатковую ўвагу барацьбе за прадукцыйнасць працы, унядрэнне гаспадарчага разрахунку, ліквідацыю абязлічкі і ўраўнілаўкі ў зарплаце.

Пленум асоба падкрэслівае выключна дрэнную работу прамысловасці будматэрыялаў (многія цагельныя, вапняныя заводы, Крычаўскі цэментны завод і т. д.).

5

Адказнасць за прарыў, які стварыўся за прайшоўшыя чатыры месяцы (усяго недадана за чатыры месяцы прадукцыі на 24 млн. руб.; з іх на 12 млн. руб. па рэспубліканскай прамысловасці), нясуць у першую чаргу кіраўнікі тых прадпрыемстваў, якія, не выконваючы план, зрываюць работу ўсёй прамысловасці БССР, трэсты і наркаматы, у склад якіх уваходзяць гэтыя прадпрыемствы, гаркомы і райкомы, на тэрыторыі якіх яны знаходзяцца.

6

Пленум адзначае, што пры зусім нездавальняючай рабоце ўсёй прамысловасці, асабліва вялікую долю віны за прарыў нясуць наступныя 37 прадпрыемстваў і леспрамгасаў (спіс прыкладаецца).

Пленум адзначае нездавальняючую работу трэста Лесбел.

Пленум канстатуе, што кіраўнікі Белметалтрэста тав. **Левін** незабяспечыў канкрэтнага, аператыўнага кіраўніцтва заводамі, уваходзячымі ў трэст, а з боку Ўпаўнаркамцяжпрома тав. **Сакаленка** не было дастатковай увагі барацьбе за выкананне промфінплана прарыўнымі заводамі (у асаблівасці Крычаўскім цэментным і заводам «Комунар», на якія падае 25 проц. усяго прарыву па Белметалтрэсту).

З трэстаў Наркамлегпрома пленум ЦК лічыць асабліва нездавальняючай работу скуртрэста ў адносінах абутковых фабрык (тт. **Левін, Трэгубаў)** і Шклотрэста (тав. **Кроль).**

З усёй недадачы па рэспубліканскай харчовай прамысловасці—1746 тыс. руб. недадалі прадпрыемствы трэста Белкмо (дырэктар т. **Трыфсік)** і 3 млн. руб. гомельскія харчовыя прадпрыемствы.

Дырэктар Белпапертрэста тав. **Сычэў** зусім нездавальняюча кіраваў прадпрыемствамі, уваходзячымі ў трэст, а Ўпаўнаркамлес (т. **Розін),** у якога сур'ёзная частка прарыву падала на паперу, не аддаваў у сваёй штодзённай рабоце неабходнай увагі папяровым фабрыкам.

Пленум ЦК абавязвае кіраўнікоў наркаматаў, трэстаў і прадпрыемстваў, допусціўшых прарыў па якасці і колькасці, цягнучых назад усю прамысловасць Беларусі, зрываючых фінплан рэспублікі, не выконваючых рашэнні XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б,—прынясць неадкладна ўсе меры да ліквідацыі прарыву і звароту пролетарскай дзяржаве доўгу, які за імі лічыцца.

7

Пленум патрабуе ад партыйных, прафесіянальных і гаспадарчых арганізацый паставіць пытанне аб якасці прадукцыі ў цэнтры сваёй увагі, няўхільна прымяняць законы совецкага ўрада аб барацьбе з бракаробамі, з прагуламі, дабіваючыся на аснове шырока разгорнутага соцспаборніцтва і ўдарніцтва таго, каб у наступныя кварталы не толькі выканаць планавыя паказчыкі, але і пакрыць прарывы першага квартала па якасці.

8

Падкрэсліваючы вялікае значэнне пачыну віцебскіх арганізацый, выкарыстаўшых вопыт маскоўскіх большэвікоў і ў першым квартале і за красавік месяц дабіўшыхся выканання промфінплана прамысловасцю горада ў цэлым, пленум лічыць, што ўсе гарады і раёны Беларусі павінны змагацца за тое, каб выкананне плана прамысловасцю горада, раёна ў цэлым стала-б баявой традыцыяй партарганізацый,

комсамола, профсаюзаў і ўсіх рабочых (гэта прадпалагае асобую ўвагу адстаючым, дапамогу ім, грамадскі буксір і т. д.).

Разам з тым пленум прапануе Віцебскаму гаркому і ўсім астатнім гаркомам і райкомам звярнуць асаблівую ўвагу на ліквідацыю прарыву на адстаючых прадпрыемствах (у асаблівасці харчовых і вырабляючых будматэрыялы).

Пленум ЦК адзначае паспяховае асваенне за апошні перыяд прамысловасцю Беларусі раду новых машын і вытворчасцей (багер на заводзе імя Варашылава—Менск, цэнтравальная машына на заводзе «Комунар», варштат Аллова на заводзе «Чырвоны пролетарый», тэрмаізаляцыя на заводзе «Чырвоны хімік» і т. д.).

Пленум прапануе дырэктарам прадпрыемстваў і трэстаў звярнуць асаблівую ўвагу на далейшае асваенне новых тыпаў машын, на палепшанне работы канструктарскіх бюро, інструментальных майстэрань, лабараторый і т. д.

9

Партыя і ўрад за апошні перыяд правялі рад дадатковых мерапрыемстваў па далейшаму палепшанню добрабыту рабочых і ўсіх працоўных (свабодны продаж хлеба і промтавараў, рост культурнага абслугоўвання рабочых і ўсіх працоўных, шырокае комунальнае і жыллёвае будаўніцтва, апошняе рашэнне ЦК ВКП(б) і СНК СССР аб павышэнні зарплаты нізкааплачваемых слаёў рабочых, служачых і т. д.).

Усе партыйныя, савецкія, гаспадарчыя і прафесіянальныя арганізацыі павінны выкарыстаць гэтыя мерапрыемствы для мабілізацыі найшырэйшых мас на барацьбу за план, за ўмацаванне працоўнай дысцыпліны, за павышэнне прадукцыйнасці працы.

Пленум указвае дырэктарам—шчацінна-шчотачнага камбіната тав. **Перру**, Крычаўскага цэментнага завода тав. **Захараву** і Магілеўскага скурзавода тав. **Фрэйдзіну**—на недапушчальнасць такога становішча, калі яны самаўхіляюцца ад клопатаў аб рабочым снабжэнні, якасці абедаў у сталовых, своечасовай выдачы прадуктаў, ад работы каапгасаў і інш. матэрыяльна-бытавых пытанняў.

Пленум папярэджвае ўсіх дырэктароў прадпрыемстваў і трэстаў, што ЦК будзе строга спаганяць як з начальнікаў ОРС'аў, старшынь ЗРК, Белкаапсаюза, так і з дырэктароў пры выяўленні на прадпрыемствах фактаў пагардлівых, бюракратычных адносін да насутных патрэб рабочага снабжэння і быту.

Пленум ЦК лічыць недастаткова здавальняючай работу профсаюзаў Беларусі ў галіне разгортвання соцспаборніцтва і ўдарніцтва, аховы працы і здароўя рабочых, пастаноўкі пытанняў дробязей рабочага быту і т. д. і прапануе ЦСПСБ і асабліва ўсім ЦП саюзаў рашуча палепшыць сваю работу ў гэтай галіне.

Пленум абавязвае ЦСПСБ, ЦП саюзаў, наркаматы, дырэктароў фабрык і заводаў асобую ўвагу звярнуць на падрыхтоўку і правядзенне прапол кі і ўборкі агародаў, арганізацыю хавання гароднiны (забяспечанне тарай, гароднехавальнямі і т. д.). Разам з тым у бліжэйшы-ж час павінна быць вырашана пытанне аб арганізацыі прыгарадных гаспадарак для новых прадпрыемстваў.

Пленум рэзка асуджае маючыя за апошні час месца спробы раду гаспадарнікаў, пры патуранні многіх фабзаўкомаў, выканаць промфінплан за кошт парушэння элементарных правіл працоўнага законадаў-

ства і, ухваляючы мерапрыемствы ЦК па гэтаму пытанню, прапануе ЦСПСБ і пракуратуры рэспублікі надалей прымаць усе меры к недапушчэнню гэтага.

10

Адзначаючы наяўнасць у прамысловасці звыш 63 проц. рабочых беларусоў, пленум ЦК патрабуе ад гаркомаў, райкомаў і гаспадарчых органаў аддаць яшчэ большую ўвагу справе вылучэння на кіруючую работу рабочых мясцовых карэнных нацыянальнасцей—беларусоў, яўрэяў і т. д.

11

Канстатуючы, што партарганізацыі Беларусі яшчэ не ўзяліся па сутнасці за выкананне рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б, па мясцовай прамысловасці і прамысловай каапераціі, пленум пастанаўляе:

а) ухваліць мерапрыемствы ЦК КП(б)Б па ўмацаванню кіраўніцтва прамысловай кааперацыяй;

б) склікаць у ліпені ў Менску з'езд старшынь арцелей прамысловай кааперацыі (Белсампромсовета і Белкааплессаюза) з сакратарамі раду райкомаў, старшынямі РВК і дырэктарамі паасобных дзяржаўных прадпрыемстваў;

в) даручыць Белсампромсовету і Белкааплессаюзу арганізаваць рад новых промыслаў і адрадзіць такія промыслы, якія раней мелі развіццё ў Беларусі, праводзячы гэту работу ў першую чаргу праз калгасы, а таксама прыняць меры к палепшанню і патаненню асартымента ва ўсёй сістэме промкааперацыі;

г) прапанаваць райкомам, гаркомам, райвыканкомам і СНК у месячны тэрмін разгледзець усю суму пытанняў, ад якіх залежыць паспяховасць работы промарцелей (оргпытанні, крэдыт, сыравіна, шэфства дзяржаўных прадпрыемстваў над арцелямі, асартымент, сувязь з гандлёва-праводзячай сеткай) пад кутом вышукання магчымасці вытворчасці дадатковых прадметаў шырспажыву з мясцовай сыравіны і выпрацоўкі новых асартыментаў вырабаў;

д) даручыць СНК і Дзяржплану ўнесці ў двухдэкадны тэрмін у ЦК свае прапановы па пытаннях разгортвання мясцовай прамысловасці на аснове вышукання дадатковых сырцовых рэсурсаў даных раёнаў, а таксама выкарыстання адыходаў дзяржаўных прадпрыемстваў;

е) даручыць СНК склікаць у чэрвені Ўсебеларускую нараду па пытаннях мясцовай прамысловасці;

ж) даручыць бюро ЦК на працягу чэрвеня—ліпеня вырашыць пытанне аб перадачы раду прадпрыемстваў РВК, умацаваўшы мясцовую прамысловасць кадрамі вопытных сур'ёзных работнікаў.

Пленум ускладае персанальную адказнасць за работу мясцовай прамысловасці ў раёнах на старшыню РВК.

12

Пленум, лічачы абсалютна недапушчальнай няўвагу к рабоце дробных прадпрыемстваў, праяўляемую з боку наркаматаў, раду ГК, РК КП(б)Б, гарсовету, РВК, даручае Бюро ЦК у далейшым строга караць вінаватых у няўважлівых, пагардлівых адносінах к рабоце так званых «дробных» прадпрыемстваў, маючых ва ўмовах Беларусі велізарнае народна-гаспадарчае значэнне.

13

Адзначаючы некаторыя поспехі пачатай па ініцыятыве комсамола работы па разгортванню (асабліва ў лёгкай прамысловасці) тэхвучобы і зотаўскага руху, пленум лічыць дасягнутае ў гэтай галіне яшчэ абсалютна недастатковым у святле задач, што стаяць перад прамысловасцю БССР, асабліва ў галіне барацьбы за якасць, і падкрэслівае, што гэту работу побач з комсамольскімі і профсаюзнымі арганізацыямі дырэктары прадпрыемстваў павінны паставіць у цэнтры сваёй ўвагі.

Пленум прапануе Бюро ЦК, усім гаркомам і райкомам аддаць асаблівую ўвагу гэтай новай форме соцыялістычнага спаборніцтва, дабіваючыся ператварэння ў зотаўскія цэлых брыгад, цэхаў і прадпрыемстваў, праводзячы сістэматычнае вылучэнне на вучобу і кіруючую работу лепшых зотаўцаў (на пасады майстроў, нач. цэхаў і дырэктароў прадпрыемстваў).

Пленум ЦК звяртае ўвагу ўсіх дырэктароў прадпрыемстваў на неабходнасць выкарыстаць вопыт завода «Светлана» (Ленінград) і раду фабрык Беларусі па ўнядрэнню так званага тэхпромфінплана.

14

Адзначаючы абсалютнае неблагапалучча з ходам прамысловага капітальнага будаўніцтва за кошт запраектаванага ўкладання уласных сродкаў гаспадарчых органаў, прапанаваць СНК і наркаматам прыняць усе меры к таму, каб узмацніць гэтыя ўкладанні і на 100 проц. забяспечыць выкананне гадавога плана капітальнага будаўніцтва.

15

Пленум падкрэслівае, што рашэнні ЦК ВКП(б) аб шкле, запалках, торфе і партмасавай рабоце на сплаве даюць баявую праграму для поўнай ліквідацыі наяўных буйнейшых прарываў і недахопаў у рабоце гэтых галін гаспадаркі і прапануе ўсім райкомам, гаркомам, наркаматам, трэстам, дырэктарам прадпрыемстваў, сплаўкантор, леспрамгасаў забяспечыць безумоўнае выкананне гэтых рашэнняў ЦК.

16

Пленум ЦК папярэджвае ўсіх дырэктароў прадпрыемстваў, трэстаў і кіраўнікоў наркаматаў (тт. **Сакаленка, Гурэвіча, Розіна, Балціна**) аб іх выключнай адказнасці за забяспечанне прадпрыемстваў апалам на зіму, эканомнае расходванне сыравіны, апалу і электраэнергіі. Бюро ЦК павінна строга спаганяць з гаспадарнікаў, якія не змагаюцца за гэта. Пленум таксама прапануе строга спаганяць за ўсякія спробы парушэння дзяржаўнай дысцыпліны і разбазарванне прадукцыі і асоба падкрэслівае неабходнасць палепшання пастаноўкі ўліку сыравіны і прадукцыі на прадпрыемствах, а таксама ўзмацненне барацьбы з раскраданнямі і за правільную арганізацыю супроцьпажарнай справы.

17

Пленум звяртае ўвагу партыйных арганізацый Беларусі на тое, што важнейшай прычынай дрэннай работы прамысловасці БССР з'яўляецца нездавальняючае правядзенне ў жыццё партыйнымі арганізацыямі рашэнняў XVII з'езда ВКП(б) і ўказанняў тт. **Сталіна** і **Кагановіча** па арганізацыйнаму пытанню; недастатковая перабудова пар-

тыйных арганізацый, у асаблівасці на заводзе, фабрыцы, у цэху, змене, брыгадзе.

Пленум ЦК лічыць, што так працаваць далей, як працавалі парткомы, парторгі большасці прадпрыемстваў Беларусі да гэтага часу, нельга. Нельга, каб да гэтага часу прадаўжалася пасяджэнчая мітусня, каб парторгі не ведалі сваіх людзей у цэху. Партком, парторг павінны аператыўна рашаць бягучыя пытанні. Выхаваўчую работу трэба рашуча падняць. Пленум падкрэслівае, што няправільна абмяжоўваць круг пытанняў, якія ставяцца на партсходзе, толькі вытворчымі пытаннямі, як гэта робяць на некаторых прадпрыемствах.

У галіне разгортвання работы са спачуваючымі, прыцягнення правераных беспартыйных у спачуваючыя праяўляецца надзвычайная маруднасць і адсутнасць сур'ёзнай увагі гэтай справе. Ёсць рад фактаў нячулых, фармальных адносін паасобных партыйных і прафсаюзных работнікаў к заявам рабочых (шчацінна-шчотачны камбінат). Усё гэта супярэчыць рашэнням XVII з'езда і ўказанням тт. **Сталіна** і **Кагановіча**. Парторгі цэха, змены павінны быць у курсе кожнай дробязі, ведаць і ўлічваць настроі ўсіх слаёў рабочых, аддаваць асобую ўвагу старым кадравікам, рабочым і спецыялістам.

Не гледзячы на рад сур'ёзных масавых мерапрыемстваў, праведзеных комсамольскімі арганізацыямі Беларусі за апошні перыяд (зотаўская канферэнцыя, дапамога чыгуначнаму транспарту, сплаву і т. д.), пленум лічыць, што комсамольскія арганізацыі на радзе прадпрыемстваў Беларусі працуюць пакуль што яшчэ слаба.

Пленум ЦК прапануе ўсім ГК, РК, промаддзелу ЦК, ЦК ЛКСМБ у надыходзячы перыяд сканцэнтраваць у галіне прамысловасці галоўную ўвагу на баявым ажыццяўленні рашэнняў XVII з'езда па парторгпытаннях, перабудаваць работу фабрычна-заводскіх арганізацый, падняць іх боездольнасць, узмацніць іх сувязь з шырокімі масамі рабочых і завастрыць класавую пільнасць у адносінах пранікаючых на прадпрыемствы варожых элементаў, штодзённа ўзнімаючы авангардную ролю комуністаў і комсамольцаў ў барацьбе за план.

Пленум прапануе газетам «Рабочий» і «Звязда», а таксама ўсяму астатняму друку шырэй асвятляць і папулярызаваць узоры станоўчага вопыту партработы на прадпрыемствах.

* * *

Пленум звараchaецца з заклікам к рабочым і ўсім працоўным Совецкай Беларусі яшчэ актыўней уключыцца ў барацьбу за канчатковую ліквідацыю адставання нашай прамысловасці і вывесці нашу рэспубліку па прамысловасці ў рады перадавых абласцей Саюза.

**Дадатак да пастановы пленума ЦК КП(б)Б аб рабоце прамысловасці БССР за 4 месяцы 1934 г.**

## СПІС ПРАДПРЫЕМСТВАЎ, НЕ ВЫКАНАЎШЫХ ПРОМФІНПЛАН ЗА ПЕРШЫЯ 4 МЕСЯЦЫ 1934 ГОДА

1. Па рэспубліканскай прамысловасці Наркамцяжпрома (трэст Белмет—дырэктар т. **Левін**) за 4 месяцы недадана прадукцыі на 1 959 тыс. руб., г. зн. амаль уся недадача па рэспубліканскай прамысловасці Упаўнаркамцяжпрома, з іх:

а) завод «Комунар» (Менск)—былы дырэктар т. **Пажывілка**, сакра-

тар партком т. **Гоберман**, старшыня ФЗМК т. **Маслянскі**—недадаў прадукцыі за 4 месяцы на 472 тыс. руб.

б) «Чырвоны металіст» (Віцебск)—недадаў прадукцыі на 294 тыс. руб.—былы дырэктар т. **Каган**, сакратар парткома т. **Сімунін**, старшыня ФЗМК т. **Мукнер**.

в) «Чырвоны Окцябр» (Орша) недадаў на 275 тыс. руб.—дырэктар т. **Слонімскі**.

II. Па рэспубліканскай прамысловасці Наркамлегпрома прарыў стварыўся, галоўным чынам, па віне наступных прадпрыемстваў:

а) Фабрыкі «Праца» (Гомель), хоць за апошні час выконваючай план, але за 4 месяцы недадаўшай краіне прадукцыі на 136 тыс. руб. (трыкутнік—былы дырэктар т. **Гайсін**, старшыня фабкома тав. **Круглік**, ч. в. а. сакратара парткома т. **Нісенбаум**).

б) ФЗВ «КІМ» (Менск), недадаўшы прадукцыі на 298 тыс. руб., дырэктар т. **Лемберг**, сакратар парткома т. **Падалінскі**, старшыня ФЗМК т. **Бляхер**.

в) Лямцавай фабрыкі (Менск), недадаўшай краіне за 4 месяцы прадукцыі на 651 тыс. рублёў і выпускаўшай прадукцыю агіднейшай якасці—былы дырэктар т. **Свідэрскі**, былы сакратар парткома тав. **Маневіч**, былы старшыня ФЗМК тав. **Сычоў**.

г) Фабрыкі імя Крупскай (Менск), недадаўшай краіне прадукцыі на 686 тыс. руб.—дырэктар тав. **Рабкін**, сакратар парткома т. **Гоз**.

д) Шклянага завода «Ноўка» (Суражскі раён)—дырэктар т. **Сафронаў**, сакратар парткома т. **Гулякевіч**, старшыня ФЗМК **Гондлях**.

е) Шклозавода «Ільіч» (Быхаўскі раён)—дырэктар т. **Баранаў**, сакратар парткома тав. **Цёмкін**, ФЗМК т. **Комараў**.

д) Фабрыкі імя Кагановіча (Менск), за апошні час выконваючай план, але маючай за 4 месяцы доўг 249 тыс. руб. Трыкутнік—дырэктар тав. **Кліорын**, сакратар парткома тав. **Шамес**, б. старшыня ФЗМК тав. **Збанек**.

і) Фабрыкі «Усход» (Менск)—недадала 288 тыс. руб.—трыкутнік: дырэктар т. **Пінус**, сакратар парткома т. **Гефен**, старшыня ФЗМК т. **Шчарбацэвіч**.

к) Дняпроўскай мануфактуры (Дуброўна)—дырэктар т. **Кадышэс**, сакратар парткома т. **Дварэцкі**, ФЗМК—тав. **Левін**.

л) Віцебскай лямцавай фабрыкі—дырэктар **Бублікаў**.

м) Швейнай фабрыкі «Комінтэрн» — недадала прадукцыі на 160 тыс. руб.—дырэктар тав. **Каган**, сакратар парткома тав. **Гут**, ФЗМК—тав. **Беразоўскі**.

н) Фабрыкі «Чырвоны тэкстыльшчык», выканаўшай план толькі на 67,9 проц. Недадала краіне на 135 тыс. руб.—дырэктар т. **Каган**, сакратар парткома т. **Шнейдэрман**, старшыня ФЗМК т. **Левіна**.

III. Па рэспубліканскай прамысловасці Наркамснаба прарыў стварыўся, галоўным чынам, па віне наступных прадпрыемстваў:

а) Маргарынавага завода (Гомель), недадаўшага прадукцыі на 966 тыс. руб.—дырэктар т. **Вальфсон**, сакратар парткома т. **Герман**, старшыня ФЗМК тав. **Марголін**.

б) Завода «Чырвоны хімік» (Гомель)—трыкутнік: дырэктар тав. **Каган**, старшыня фабкома т. **Голад**, сакратар парткома т. **Храпавіцкі**. Недадаў краіне прадукцыі на 350 тыс. руб.

в) Фабрыкі «Казімі» (Гомель)—трыкутнік: дырэктар т. **Уліцін**, старшыня фабкома т. **Перкаль**, сакратар парткома т. **Лынькоў**. Недадала краіне прадукцыі на 789 тыс. рублёў.

г) Спіртаводачнага завода (Гомель) — недадаў прадукцыі на 433 тыс. руб.—дырэктар т. **Механікаў**, парторг т. **Кашыноўскі**, старшыня ФЗМК т. **Глухаўской**.

IV. Па саюзнай і рэспубліканскай прамысловасці Наркомлеса прарыў у асноўным стварыўся за кошт наступных прадпрыемстваў:

а) Гомельскага дрэваапрацоўчага камбіната—недадаў краіне за 4 месяцы прадукцыі на 661 тыс. руб. (дырэктар т. **Міхейчык**, сакратар парткома т. **Басс**, старшыня ФЗМК т.**Эркін**).

б) Фабрыкі «Герой працы» (Добруш)—недадала за першы квартал паперы на 1.687 тыс. руб. (был. дырэктар т. **Дзяндзюк**, былы сакратар парткома т. **Рындзіч**, старшыня ФЗМК т. **Цэйтлін**).

в) «Чырвоная звязда» (Чашнікі)—недадала за 4 месяцы краіне паперы на 1.068 тыс. рублёў—дырэктар т. **Ігнатоўскі**, сакратар парткома т. **Кужэўскі**.

V. Прадпрыемствы, вырабляючыя будматэрыялы:

а) Крычэўскі цэментны завод—дырэктар т. **Захараў**, сакратар парткома т. **Кофман**.

б) Чарапічны завод № 1 (Віцебск).

в) Цагельня № 6.

г) Вапняны завод № 1 (Віцебск)—дырэктар т. **Канечны**.

д) Завод буйна-блочных каменняў (Віцебск)—дырэктар т. **Айшпур**.

е) Трубаліцейны завод (Магілеў).

ж) Завод кафельных пліт (Орша).

**Па леспрамгасах:**

1. Лельчыцкі—дырэктар т. **Мукаеў**.
2. Петрыкоўскі—дырэктар тав. **Булатоўскі**.
3. Ельскі—б. дырэктар т. **Курылаў**.
4. Рагачоўскі—б. дырэктар т. **Крайзельман**.
5. Суражскі—дырэктар т. **Вольпер**.
6. Нараўлянскі—дырэктар т. **Навіцкі**.
7. Жыткавіцкі—дырэктар тав. **Малашонак**.
8. Тураўскі—дырэктар т. **Фрыдлянд**.

---

# Аб апале і снабжэнні апалам

Пленум ЦК КП(б)Б адзначае, што снабжэнне апалам прамыслова-васці і гарадоў БССР у другой палове 1933 года і першым квартале 1934 года было напружаным.

Аб'ясняецца гэта зусім нездавальняючым выкананнем плана торфа-здабычы і дастаўкі дроў у 1933 годзе (план здабычы торфу ў 1933 годзе выканан на 50 проц. і пастаўка дроў на 79,5 проц.).

Адначасова адзначаецца зусім слабая барацьба за якасць апалу (недапушчальна-высокая вільготнасць торфу і дроў), зусім дрэнная работа як унутрызаводскага, так і агульнага транспарта.

У 1933 і першым квартале 1934 года меў месца значны перарасход апалу па паасобных прадпрыемствах і адсутнічала барацьба за эканомію апалу, дапускалася расхлябанасць і нядбайнасць у справе транспартавання і хавання апалу, што цягнула за сабой недапушчальна вялікія страты апалу.

Цэнтральныя гаспадарчыя арганізацыі (Упаўнаркамцяжпрома, Лесбел, Белкааппромсовет, Белторф, НКЛегпром і НКСнабжэння), трэсты і прадпрыемствы, раённыя і гарадскія арганізацыі не ставілі сваёй практычнай задачай барацьбу за апал, за першыя пяць месяцаў 1934 года не дабіліся пералому ў справе здабычы мясцовага апалу і перабудовы ўсёй сваёй работы ў бок аператыўнасці па забяспечанню апалам.

ЦК адзначае, што падрыхтоўка да торфаздабычы і сам пачатак работы па выкананню праграмы ў 1934 г. праведзены дрэнна, са значным спазненнем, не скарыстаны асабліва добрыя ўмовы надвор'я для своечасовага разгортвання торфаздабычы. Да гэтага часу многімі раёнамі ігнаруецца такая важнейшая задача, як камплектаванне рабочай сілай усіх торфараспрацовак. Асабліва гэта назіраецца з боку Смалявіцкага, Шклоўскага, Сенненскага, Крупскага, Мсціслаўскага, Слуцкага, Расонскага, Асіпавіцкага, Талачынскага і Капыльскага раёнаў. Таксама практыкуюцца недапушчальныя метады перыядычнай замены рабочай сілы, якая ўжо працуе на торфараспрацоўках, новай рабочай сілай (Оршанскі раён). У сувязі з такімі нядбайнымі адносінамі да камплектавання рабочай сілай торфараспрацовак з самага пачатку сезона склалася пагроза зрыву плана торфаздабычы, асабліва па промкааперацыі. Белторф, Белпромкааперацыя, наркаматы і ўстановы, якія маюць уласныя торфараспрацоўкі, дрэнна падрыхтаваліся

да торфасезона, а ў пытаннях вярбоўкі рабочай сілы паложыліся на самацёк, пераключаючы гэту работу на раённыя арганізацыі. Таксама дрэнна і са спазненнем адрамантавалі торфмашыны.

Ацэнка ходу торфаздабычы па БССР, даная перадавым артыкулам «Праўды» за 20 мая 1934 года, з'яўляецца зусім правільнай, паказваючы, што «здабыча ідзе дрэнна і няроўнамерна», што «невыкананне плана здабычы торфу—цяжкі дакор партарганізацыі» і што гаспадарчыя арганізацыі Беларусі «патрабуюць спецыяльных пастаноў для таго, каб выканаць элементарнейшыя абавязкі».

Усе торфаздабываючыя і раённыя арганізацыі безадкладна павінны зрабіць належныя вывады з артыкула «Праўды».

ЦК адзначае, што вывазка дроў праводзіцца нездавальняюча. Гадавы план вывазкі дроў выканан на 20 мая толькі на 57 проц., а план другога квартала ў 750 тыс. р-м выканан на 20 мая 1934 года толькі ў размеры 48 тыс. р-м. Сплаў праходзіць таксама марудна, асабліва дрэнна па Бабруйскай сплаўнай канторы.

Пленум ЦК таксама адзначае, што кіраўніцтва Днепра-Дзвінскага рэчнага параходства не выконвае свайго плана па перавозцы дроў рэчным транспартам.

Дровазагатоўчымі арганізацыямі (Лесбел, самазагатоўшчыкі), горсоветамі і райвыканкомамі да гэтага часу зусім не разорнуты мерапрыемствы па загатоўцы і вывазцы апалу для асенне-зімняга перыяда.

Рад раёнаў, калі і арганізуюць вывазку дроў і лесаматэрыялаў, то пераважна для мясцовых мэт, ігнаруючы цэнтралізаваны план (Жыткавічы).

Не ўлічваюцца ўрокі мінулага года, калі з-за нядбайнасці ў падрыхтоўцы апалу, рад гарадоў уступілі ў зімні перыяд без ўсякіх запасаў апалу. Гэта вельмі цяжка адбілася на снабжэнні дровамі важнейшых прамысловых цэнтраў Беларусі і рабочых спажыўцоў.

Гаспадарчыя арганізацыі (торфаздабываючыя і Лесбел), гарадскія і раённыя арганізацыі не ўлічваюць магчымасцей пашыраных перавозак дроў чыгуначным і водным транспартам у чэрвені і ліпені месяцах.

Пленум ЦК КП(б)Б **пастанаўляе:**

1. Абавязаць усе гаспадарчыя арганізацыі, асабліва Белторф, Белпромкааперацыю і Лесбел, гарадскія і раённыя партыйныя і савецкія арганізацыі ўлічыць урокі дрэннай работы па здабычы апалу і вывазцы дроў у мінулым годзе і паставіць перад сабой задачу торфаздабычы, а таксама вывазкі дроў і торфу, як цэнтральную дзяржаўную задачу, і ўлічыць тое, што чэрвень і ліпень з'яўляюцца рашаючымі месяцамі ў справе забяспечання апалам. Таму ўсе сілы гаспадарчых і раённых арганізацый павінны быць накіраваны на тое, каб задача па здабычы і вывазцы дроў і торфу была-б у асноўным вырашана ў чэрвені месяцы і ў першай палове ліпеня.

Пленум ЦК абавязвае Белторф, Белторфпрамсаюз, дырэктароў прадпрыемстваў, маючых уласныя торфараспрацоўкі, кіраўнікоў ўсіх арганізацый, вядучых самазагатоўку дроў, гаркомы, горсоветы, райкомы і РВК безумоўна выканаць гадавы план здабычы і стварыць двухмесячны запас апалу да 1 кастрычніка 1934 года на прадпрыемствах і ў гарадах і задаволіць бягучыя патрэбы III квартала.

Канкрэтна, да 1 кастрычніка 1934 года павінны быць створаны наступныя запасы апалу па паасобных прадпрыемствах і гарадах:

| | Запас на 1.Х-34 г. | | Разам запас на 1.Х-34 г. і патрэба 3-га квартала з улікам запасу астачы на 1. VII-34 г. | |
|---|---|---|---|---|
| | Дроў тыс. р-м | Торфу тыс. тон | Дроў тыс. р-м | Торфу тыс. тон |
| Менск | 200,0 | 68,0 | 320,0 | 98,0 |
| У тым ліку электр. станц. | 8,7 | 52,1 | 17,0 | 77,3 |
| Віцебск | 115,0 | 14,0 | 210,0 | 23,0 |
| Гомель | 112,0 | 21,0 | 188,0 | 32,0 |
| Магілеў | 52,0 | 53,3 | 102,0 | 66,3 |
| У тым ліку Могвалакно | 6,3 | 50,3 | 9,3 | 59,8 |
| Бабруйск | 68,0 | 8,0 | 112,0 | 12,0 |
| Барысаў | 74,0 | 2,5 | 114,0 | 9,0 |
| Орша | 48,5 | 5,0 | 71,5 | 8,0 |
| Полацк | 26,0 | 2,0 | 41,0 | 2,5 |
| БелДРЭС | 16,2 | 132,2 | 27,7 | 162,0 |
| Крычаўскі цэмзавод | 1,8 | 7,0 | 4,2 | 15,0 |
| Шклозавод імя Сталіна | 2,35 | 101,5 | 6,35 | 123,5 |
| Добрушская папяровая ф-ка | 15,3 | 64,1 | 33,3 | 87,6 |

**Увага.** Па Менскай ДЭС, Могвалакну, БелДРЭС, шклозаводу імя Сталіна і Добрушскай папяровай фабрыцы ў запасы торфу на 1 кастрычніка 1934 года ўваходзяць запасы не толькі на саміх прадпрыемствах, але і на звязаных з імі ўласным транспартам торфазаводах.

Абавязаць камітэт апалу неадкладна ў адпаведнасці з гэтым размеркаваннем прыступіць да распрацоўкі каляндарнага плана вывазкі торфу і падвозкі дроў да чыгуначных станцый.

Асоба стаіць пытанне забяспечання апалам гор. Менска, як сталіцы БССР. Нельга дапусціць такіх перабояў у дастаўцы апалу, якія мелі месца ў канцы 1934 года.

Пленум ЦК ставіць перад рэспубліканскімі арганізацыямі (Упаўнаркомлес, Упаўнаркамцяжпром, Наркамлегпром, Наркамснаб, Белпромсаюз, камітэт апалу пры ЭКАНА), а таксама перад Асіпавіцкім, Бабруйскім, Парыцкім, Глускім, Петрыкаўскім, Старобінскім, Жыткавіцкім і Клічаўскім РК і РВК, перад Менскім гаркомам і горсоветам, як спецыяльную задачу іх работы, своечасовую загатоўку і вывазку апалу для Менска. Лічба накаплення двухмесячнага запасу апалу на 1 кастрычніка ў Менску з'яўляецца абавязковай для ўсіх арганізацый.

Пленум даручае Бюро ЦК і СНК распрацаваць рад канкрэтных мерапрыемстваў для бесперабойнага забяспечання апалам гор. Менска.

2. Даручыць Упаўнаркамцяжпрома, Лесбелу, Белторфу, Белкаппромсовету, наркаматам, горсоветам і РВК безадкладна забяспечыць торфазаводы, леспрамгасы, лестрангасы, сплаўучасткі сапраўдным аператыўным кіраўніцтвам, аказваючы ім тэхнічную дапамогу ў асваенні і скарыстанні механізмаў, у арганізацыі работы, безадкладна ўкамплектаваць торфараспрацоўкі, лесазагатоўкі, лесавывазкі, і сплаў рабочай і гужавой сілай, замацаваць рабочую сілу на вытворчасці і цалкам знішчыць расхлябанасць і нядбайнасць у культурна-бытавым абслугоўванні рабочых, занятых на гэтых работах.

Даручыць усім ГК і РК КП(б)Б аддаць асаблівую ўвагу рабоце торфарцелей, якія ў радзе раёнаў, выконваючы важную дзяржаўную функцыю па здабычы торфу, знаходзяцца ў беспрытульным становішчы.

Торфаздабываючыя арганізацыі, РК і РВК павінны звярнуць неабходную ўвагу і кантроль на справу забяспечання рабочых на торфазаводах.

3. Устанавіць, што поўнае выкананне плана торфаздабычы будзе лічыцца толькі пры выкананні колькасных і якасных паказчыкаў. Торфаздабываючыя арганізацыі павінны паставіць сваёй няўхільнай задачай барацьбу за якасць апалу, не дапускаючы вільготнасці торфу звыш устаноўленага стандарту (30—35 проц.).

Асабліва стаіць пытанне аб скарыстанні фрэзернага торфу. Пленум адзначае, што многія гаспадарчыя арганізацыі ігнаруюць здабычу і скарыстанне фрэзернага торфу, і абавязвае дырэктароў усіх прадпрыемстваў і прамысловыя наркаматы ў максімальнай меры скарыстаць фрэзерны торф у летні час з тым, каб запасы торфу на зіму складаліся з кускавога торфу.

4. Адзначыць, што цэнтральнымі і мясцовымі самазагатоўшчыкамі загатоўкі і вывазка апалу праводзяцца вельмі дрэнна і многія арганізацыі, якія абавязаны самі загатовіць для сваіх патрэб апал, паўтараюць сваю бяздзейнасць па прыкладу мінулага года, разлічваючы, што іх патрэбы будуць задавальняцца за кошт цэнтралізаваных рэсурсаў.

Папярэдзіць усіх самазагатоўшчыкаў (райкомы і РВК тых раёнаў, якія не ўключаны ў цэнтралізаванае забяспечанне, а таксама наркаматы і кіраўнікоў цэнтральных устаноў, за якімі замацаваны торфмасівы і лесасекі), што на іх патрэбы ніякіх фондаў апалу з цэнтралізаваных рэсурсаў выдзяляцца не будзе і што ўся адказнасць за забяспечанне іх патрэб ускладаецца выключна на кіраўнікоў адпаведных устаноў.

Забараніць камітэту апалу пры ЭКАСО выдаваць гэтым установам хоць-бы адзін кубаметр апалу з цэнтралізаваных рэсурсаў.

5. Улічваючы, што чэрвень з'яўляецца рашаючым месяцам для ўсяго ходу ў справе здабычы і пастаўкі апалу для прадпрыемстваў і гарадоў, пленум ЦК КП(б)Б абвяшчае месячнік торфаздабычы, вывазкі і пастаўкі дроў і торфу з 1 чэрвеня да 1 ліпеня.

Даручыць райкомам разгарнуць шырокую палітычна-грамадскую работу па прыцягненню ўсёй грамадскасці да выканання плана торфаздабычы і вывазкі дроў і торфу ў часе месячніка, а таксама разгарнуць работу па паляпшэнню культурна-бытавых умоў рабочых, занятых на торфараспрацоўках.

6. Пленум ЦК КП(б)Б лічыць нецярпімым і факты перарасходавання апалу прадпрыемствамі, як, напрыклад, прамысловасць Наркамцяжпрома план выпуску прадукцыі выканала ў 1933 г. на 91 проц., расходы апалу складаюць 108,3 проц. ад плана. Па прамысловасці Наркамлегпрома план выпуску прадукцыі выканан на 84,1 проц., а апалу зрасходавана 116,5 проц. Па Наркамлесу план выпуску прадукцыі выканан на 82,1 проц., а апалу зрасходавана на 105,5 проц.

Такія-ж самыя нядбайныя адносіны да эканоміі апалу дапушчаны ў 1-м квартале 1934 г., напрыклад, па шкляной прамысловасці перапал апалу складае 11,5 проц., па БелДРЭСУ—15 проц., па фабрыцы «Герой працы»—27,5 проц., «Дзвіне»—27 проц., па фабрыцы «КІМ»—15 проц., па Гомельскай ДЭС,—4 проц., па Дубровенскай мануфактуры—16 проц., па Белгалоўспірту—27,5 проц., па заводу «Чырвоны хімік» па вырабу крэйды перапал—100 проц., па тэрмаізаляцыі—123 проц.

Паказаныя факты сведчаць аб тым, што гаспадарчыя арганізацыі і трыкутнікі прадпрыемстваў зрываюць дырэктывы партыі і саюзнага ўрада аб найстражэйшай эканоміі апалу. Таксама наглядаюцца недапушчальныя страты апалу пры транспартаванні і хаванні торфу і дроў. Ігнаруецца задача скарыстання адкідаў і сурагатаў.

Пленум ЦК даручае кіраўнікам усіх гаспадарчых арганізацый і прадпрыемстваў разгарнуць сапраўдную барацьбу за суровую эканомію апалу, з прыцягненнем да гэтай справы шырокай грамадскасці і ІТР.

Профсаюзы Беларусі павінны стаць на чале барацьбы за найстражэйшую эканомію апалу, уцягваючы ў гэту работу шырокія кругі рабочых і ІТР.

Даручыць пракурору рэспублікі прыцягваць да судовай адказнасці ўсіх асоб, якія дапускаюць перапал апалу.

7. У мэтах знішчэння беспарадку і абязлічкі ў справе размеркавання апалу паміж спажыўцамі яшчэ раз пацвердзіць, што адказнасць за забяспечанне апалам прамысловых прадпрыемстваў ускладаецца непасрэдна на адпаведныя наркаматы і дырэктароў трэстаў і прадпрыемстваў.

На гартопы ўскладаецца адказнасць за забяспечанне апалам мясцовай прамысловасці, комунальных прадпрыемстваў, культурна-бытавых устаноў і працоўнага насельніцтва гарадоў.

Абавязаць гарсоветы ў дэкадны тэрмін на падставе гэтай пастановы дакладна вызначыць арганізацыі, якія снабжаюцца апалам праз гартопы, і знішчыць абязлічку, якая мае месца ў гэтай справе.

8. Абавязаць прэзідыум ЦСПСБ забяспечыць шырокі ўдзел профсаюзаў у арганізацыі торфаздабычы, загатовак, вывазкі і сплаву драўніны, размеркавання і забяспечання на прадпрыемствах барацьбы за эканомію апалу і за эканомію электраэнергіі.

Пленум ЦК даручае ЦК ЛКСМБ разгарнуць шырокую практычную работу сярод комсамола па ўцягненню ўсіх членаў ЛКСМБ у справу торфаздабычы, загатовак, вывазкі і сплаву драўніны. Комсамол павінен разгарнуць энергічную работу па эканоміі апалу і электраэнергіі, не забываючы аб тым, што комсамольскія арганізацыі з'яўляюцца шэфамі энергагаспадаркі.

9. Даручыць гаркомам, гарсоветам, ЦП саюзаў, дырэктарам прадпрыемстваў, якія прымацаваны па апалазабяспечанню да торфазаводаў, леспрамгасаў, сплаўкантор, зараз-жа разгарнуць канкрэтную рэальную дапамогу падшэфным торфараспрацоўкам, у тым ліку і

торфараспрацоўкам арцелей і леспрамгасам, непасрэдна ўключыўшыся ў практычную работу як шляхам арганізацыі грамадскіх форм удзеяння на выкананне плана здабычы і пастаўкі апалу, так і выдзялення і замацавання рабочых і спецыялістаў на торфараспрацоўках для бягучага абслугоўвання і рамонту торфмашын, інвентара і т. д.

10. Прызнаючы задачу здабычы мясцовага апалу (галоўным чынам торфу) для поўнага забяспечання патрэбнасці народнай гаспадаркі БССР цэнтральнай народна-гаспадарчай задачай, пленум ЦК даручае ўсім гаспадарчым арганізацыям, гарсоветам і райвыканкомам разам з выкананнем плана торфаздабычы, шырока разгарнуць работу па падрыхтоўцы балот для 1935 года і стварэнню соцыяльна-бытавых умоў для рабочых. Даручыць Дзяржплану ў 2-х дэкадны тэрмін распрацаваць і ўнесці прапановы на разгляд СНК аб пашырэнні торфаздабычы ў 1935 годзе і дадатковых укладаннях у падрыхтоўку балот.

11. Падкрэсліваючы, што барацьба за выкананне плана здабычы, вывазкі і забяспечання апалам з'яўляецца першачарговай задачай усіх партыйных, совецкіх, профсаюзных і комсамольскіх арганізацый БССР, пленум ЦК абавязвае кожнага члена партыі па-большэвіцку змагацца за поўнае датэрміновае выкананне плана торфаздабычы 1934 года ў паўтара мільёна тон, за вывазку і пастаўку 7,7 млн. р—м дроў, за высокую якасць апалу, за самую суровую эканомію апалу, электраэнергіі, за чоткае, канкрэтнае, аператыўнае кіраўніцтва ў гэтай важнейшай галіне соцыялістычнай гаспадаркі.

---

# Аб выніках сяўбы і бліжэйшых чарговых задачах практычных работ па сельскай гаспадарцы

Ажыццяўляючы ў штодзённай рабоце гістарычныя рашэнні XVII з'езда партыі і ўказанні правадыра партыі тав. **Сталіна**, рабочы клас і калгаснае сялянства Совецкага саюза дабіліся бліскучых перамог у веснавой пасеўнай кампаніі другога года другой пяцігодкі **як па тэмпах сяўбы, так і па якасці**. БССР у гэтым годзе таксама мае рад буйных поспехаў у ходзе веснавой сяўбы (раннія тэрміны скончэння сяўбы, больш высокія тэмпы, лепшая якасць, выкананне сяўбы звыш плана).

Гэтых поспехаў БССР дабілася ў рэзультаце **правадзімай** перабудовы партыйных, совецкіх і зямельных арганізацый, разгорнутай работы палітаддзелаў МТС і соўгасаў на аснове рашэнняў XVII з'езда партыі і ўказанняў тав. **Сталіна** аб рабоце на вёсцы.

Вялікая арганізацыйная і масава-палітычная работа КП(б)Б пад **кіраўніцтвам яе ЦК, прароблена ў 1933 і асабліва ў бягучым годзе**, падрыхтавала партыйную арганізацыю да выканання гэтага важнейшага гаспадарча-палітычнага задання, якім з'яўляецца веснавая сяўба бягучага года. Велізарную ролю адыграла матэрыяльная (харчовая, насенная) дапамога, якая была аказана ЦК ВКП(б) і ўрадам Саюза ў бягучую веснавую пасеўную кампанію.

Адрозненне цяперашняга года ад папярэдніх гадоў у веснавой сяўбе заключаецца яшчэ ў тым, што:

а) ранняя вясна спаткана падрыхтавана; б) сяўба гэтага года праводзілася, галоўным чынам, сіламі саміх раённых арганізацый і без масавай пасылкі людзей у раёны для дапамогі ў сяўбе; в) веснавая пасеўная кампанія прайшла ва ўмовах велізарнага палітычнага і вытворчага ўздыму найшырэйшых калгасна-сялянскіх мас, што выражаецца не толькі ў тэмпах і якасці сяўбы, але і ў значным прыліве ў калгасы ў радзе раёнаў і ў павышэнні свядомых адносін усёй масы калгаснікаў да калгаснай працы.

Своечасовае ўказанне ЦК ВКП(б) аб рабоце з аднаасобнікамі падняла на ногі ўсю КП(б)Б, у рэзультаце чаго аднаасобны сектар па тэмпах сяўбы быў падцягнут да тэмпаў сяўбы калгасаў.

Рашаючае значэнне ў паспяховым правядзенні веснавой сяўбы мела стварэнне ўстойлівых кадраў калгаснага і соўгаснага актыва, якія вылучыўся ў рэзультаце паслядоўнага і няўхільнага правядзення рашэнняў ЦК ВКП(б) па загатоўках у Беларусі і работах па сельскай гаспадарцы—пад кіраўніцтвам партыі і асабліва ў рэзультаце арганізацыі палітаддзелаў. Гэтыя кадры давалі рашучы адпор усякім кулацкім спробам сарваць сяўбу. Шырокія калгасныя масы не на словах, а на справе ўзяліся непасрэдна і практычна за соцыялістыч-

ную будоўлю на вёсцы, за ажыццяўленне ўказанняў тав. **Сталіна** аб барацьбе за большэвіцкія калгасы і за заможнае культурнае жыццё калгаснікаў, пацвердзіўшы на справе ўказанне тав. **Сталіна**, што і для Беларусі прайшоўшы этап быў перыядам стварэння прадпасылак для быстрага ўздыму і магутнага разбегу сельскай гаспадаркі.

Побач з гэтым паасобныя раёны: Мсціслаўскі, Крычаўскі, Клімавіцкі, Лёзненскі, Сіроцінскі, Веткаўскі, Гарадоцкі, Суражскі, Асвейскі і рад МТС—Путчынская, Горацкая, Мсціслаўская—яшчэ да канца не перабудавалі сваю работу па-новаму і цягнуліся ў хвасце на працягу ўсёй сяўбы; асабліва гэта датычыць значнай часткі соўгасаў. Кіраўніцтва гэтых раёнаў і МТС павінна зрабіць для сябе сур'ёзныя палітычныя і практычныя вывады з вопыту і вынікаў работы па пасеўнай і ўзмацніць канкрэтнае кіраўніцтва сельскай гаспадаркай, дабіўшыся пры правядзенні чарговых работ па сельскай гаспадарцы поўнай ліквідацыі свайго адставання.

Разам з тым, кожны раён павінен, у рэзультаце прыняцця раду канкрэтных мерапрыемстваў, дабіцца ў гэтым годзе такога становішча, каб у раёне не было адстаючых соўгасаў, калгасаў і сельсаветаў і каб усе віды сельскагаспадарчых работ па кожнаму калгасу, соўгасу і сельсовету былі выкананы ва ўстаноўленыя тэрміны і добра па якасці, на справе і да канца дабіўшыся высокага ураджаю.

Наркамзем у гэтым годзе, у адрозненне ад усіх папярэдніх гадоў, праявіў большую аператыўнасць у кіраўніцтве пасеўнай кампаніяй. У той-жа час пленум ЦК лічыць, што Наркамзем і яго сістэма яшчэ не цалкам перабудаваліся згодна рашэнняў XVII з'езда партыі і ў іх практычнай рабоце ёсць яшчэ цэлы рад недахопаў, якія выражаюцца ў тым, што цэнтральныя звенні яго, раённыя органы і МТС не выконваюць раду сваіх абавязкаў (своечасовая дача аграўказанняў, своечасовы разгляд планаў, падрыхтоўка кадраў, правільнае і максімальнае скарыстанне агратэхнічных сіл, сістэматычны кантроль над работай спецыялістаў).

Упаўнаркомсоўгасаў і соўгасныя трэсты да сёнешняга дня прадаўжаюць аставацца самым адстаючым участкам у барацьбе за перабудову сельскай гаспадаркі ў Беларусі. Гэта аб'ясняецца, галоўным чынам, тым, што як апарат Упаўнаркомсоўгасаў, так і гаспадарчае кіраўніцтва трэстаў не перабудаваліся згодна рашэнняў партыі і ў сваёй практычнай рабоце дапускаюць рад грубейшых памылак і недахопаў (факты няправільнай перакідкі насення, злачыннае ў радзе выпадкаў скарыстанне сваёй механічнай сілы, загадзя арыентуючы калгасы на чаканне дапамогі, адсутнасць адказнасці і аператыўнасці ў рабоце, недастатковая барацьба за дысцыпліну, у некаторых звеннях трэстаў і соўгасаў сістэмы Упаўнаркомсоўгасаў маюць месца элементы апартуністычных адносін да даручанай справы—недаацэнка ранняй сяўбы, спасылка на „аб'ектыўныя“ прычыны).

Пленум ЦК падкрэслівае, што рад сігналаў ужо гаворыць аб тым, што ва многіх раёнах, на аснове поспехаў веснавой сяўбы, наступіла самасупакаенне і праяўляецца настрой самацёку. Адначасова з гэтым пытанні падрыхтоўкі да ўборачнай (падрыхтоўка інвентара, цягі) не пастаўлены яшчэ, як баявыя пытанні сёнешняга дня.

Выходзячы з гэтага, пленум ЦК лічыць неабходным правесці наступныя мерапрыемствы.

## 1. Па прапопцы зернавых, тэхнічных і агародных культур

Правесці праполку ад пустазелля ўсіх зернавых пасеваў яравых культур.

Усе пасевы ільну прапалоць не менш двух раз, а па селекцыйнаму ільну шырокараднага пасеву правесці не менш 2-х міжрадных апрацовак.

Па бульбе правесці не менш 2—3 прапашак з паследуючай запраўкай бульбяніка і праполкай у радах.

Па агародных культурах і караньплодах правесці не менш 2—3 прапалак.

Пленум ЦК звяртае асаблівую ўвагу партыйных, савецкіх і зямельных арганізацый на якасць праполкі і арганізацыю ўліку і аператыўнага кіраўніцтва праполкай.

Пленум ухваляе пастанову Бюро ЦК аб правядзенні мерапрыемстваў па масавай рабоце сярод калгаснік, работніц соўгасаў і аднаасобніц у перыяд прапалачнай і ўборачнай кампаній і абавязвае ўсе партыйныя і савецкія арганізацыі забяспечыць практычнае правядзенне ў жыццё гэтага мерапрыемства.

## 2. Па сенаўборцы, уборцы насенных траў і сіласаванню

Пленум ЦК КП(б)Б абавязвае Наркамзем, Упаўнаркамсоўгасаў, Белкаапсаюз, РК КП(б)Б, РВК, дырэктароў і начальнікаў палітаддзелаў МТС і соўгасаў да 10 чэрвеня г.г. з плошчы ўраджаю канюшыны, цімафееўкі і лугавых дзіка-растучых траў правесці браніраванне насеннікаў для забеспячэння поўнага выканання плана кантрактацыі і патрэбнасці ў насенні. Выдзяленне насеннікаў канюшыны правесці, як правіла, з першага ўкосу. Увесь беспакроўны пасеў серадэлы і вікі на зярно забраніраваць пад насеннікі, забяспечыўшы належны догляд і ўборку пасеваў гэтых траў.

Сенаўборку правесці ў раннія і максімальна кароткія тэрміны з тым, каб забяспечыць атрыманне другога ўкосу сеяных шматгадовых траў і натуральных сенажацей, не дапускаючы разрыву паміж сенакашэннем і стагаваннем больш 3—5 дзён, ведучы рашучую барацьбу са стратамі пры сенаўборцы (чыстата касьбы, зграбанне, стагаванне) пры перавозцы сена ў сенахавальні і інш.

У сенаўборцы поўнасцю скарыстаць наяўныя ў МТС, у соўгасах і калгасах сенаўборачныя машыны (сенакасілкі, граблі), не пазней 15 чэрвеня закончыць рамонт іх.

Пленум адзначае зусім нездавальняючы завоз кос у сельпо і абавязвае Белкаапсаюз, пад асабістую адказнасць тав. **Баскіна** і загадчыкаў базамі, завезці ў раёны да пачатку пасеўнай неабходную колькасць кос, малаткоў, бабак і мянташак з тым, каб гэты завоз быў закончан не пазней 10 чэрвеня. Абавязаць Белсельгасснаб, пад асабістую адказнасць тав. **Петрушэвіча**, завезці ўборачныя машыны і інвентар не пазней 15 ліпеня, а запасныя часткі к уборачным машынам да 25 чэрвеня. Пленум ЦК звяртае ўвагу ўсіх партыйных і савецкіх арганізацый раёнаў, калгасаў, соўгасаў на неабходнасць арганізацыі своечасовай, непасрэдна з лугоў, вывазкі і здачы сена дзяржаве.

Звярнуць выключную ўвагу на поўнае выкананне плана і на якасць сіласавання. Не пазней 20 чэрвеня адрамантаваць і прыстасаваць усе

сіласарэжучыя машыны і сіласахавальні (ямы, траншэі, вежы) і закончыць новае будаўніцтва не пазней 25 жніўня.

На працягу чэрвеня правесці міжкалгасныя курсы і канферэнцыі па падрыхтоўцы сіласавальшчыкаў.

## 3. Уборка зернавых

Пленум ЦК лічыць, што лозунгам кожнага соўгаса і калгаса, кожнага калгасніка і аднаасобніка павінна быць: ні аднаго зерняці страт. У сувязі з гэтым пленум абавязвае:

1. Усе партыйныя, совецкія і зямельныя арганізацыі неадкладна павінны заняцца правядзеннем рамонту (усяго ўборачнага інвентара, сканчэннем рамонту жняярак, снопавязалак і конных грабель не пазней 20 ліпеня, малатарань, рухавікоў і лакамабіляў—не пазней 1 ліпеня, устанавіўшы, як правіла, што складаныя і поўскладаныя малатарні, трактарныя снопавязалкі і рухавікі прымаюцца з рамонту, па прыкладу трактароў, асабіста дырэктарам, старшым механікам МТС і соўгаса са складаннем прыёма-здатачнага акту, з указаннем асоб, праводзіўшых рамонт. Па астатніх уборачных машынах і малатарнях, прыёмка з рамонту павінна праводзіцца старшынёй калгаса з абавязковым удзелам калгаснікаў, за якімі замацоўваюцца машыны для работы. Абавязаць тав. **Сакаленка** і дырэктароў заводаў закончыць выкананне заказа на запчасткі да 15 чэрвеня і забяспечыць іх адгрузку на базы канторы Сельснаба не пазней 20 чэрвеня.

2. Уборку праводзіць у пачатку васковай спеласці, **абавязкова прымяняючы касьбу хлябоў спецыяльна прыстасаванымі косамі** і шырока практыкуючы апраўдаўшыйся ў практыцы ўборкі мінулага года парадак уборкі на паасобных паспяваючых участках, не чакаючы поўнага паспявання ўсяго поля. Да ўборачных машын абавязкова прыстасаваць зернеўлавіцелі, а таксама шырока практыкаваць зграбанне і збор каласоў.

3. Даручыць палітаддзелам і РК КП(б)Б арганізаваць шырокую праверку работы калгасаў па пабудове гумнаў і сушылак. Лічыць неабходным водпуск лесу і іншых будматэрыялаў калгасам для гэтай справы. Абавязаць РВК прыняць адпаведныя меры.

4. На ўсіх стадыях уборкі, сушкі і абмалоту ўраджаю павінна быць арганізавана барацьба са стратамі, наладжан найстражэйшы ўлік і ўстаноўлена строгае хаванне, мабілізуючы на гэта ўвесь калгасны і соўгасны актыў, комсамольскія і піонерскія дазоры, аб'езды, вышкі і інш. формы аховы.

Пленум даручае ЦК ЛКСМБ спецыяльна разгледзець і правесці рад мерапрыемстваў па ахове калгаснага і соўгаснага ўраджаю.

5. У мэтах выканання пастановы XVII партз'езда па пытанню аб гатунковым насенавытварэнні, правесці ў бягучым годзе гатунковую ацэнку ўсіх гатунковых пасеваў зернавых культур дзяржсортфонда, МТСаўскага фонда і часткі таварна-гатунковых; усіх гатунковых пасеваў ільну, бульбы і агародных культур, а таксама ўсіх забраніраваных насеннікаў шматгадовых траў (канюшына, цімафееўка, лугапасьбішчныя). Разам з тым, звярнуць асаблівую ўвагу на адбор лепшых участкаў у калгасах для браніравання іх у якасці насеннікаў. Гэта мерапрыемства правесці, як вялікую палітычную гаспадарчую задачу, наладзіўшы праверку яго выканання сіламі РК і палітаддзелаў.

## 4. Па ільну

1. У справе барацьбы за якасныя паказчыкі, якія забяспечваюць ураджай ільну, яго поўнае захаванне ад страт, належнага пераломy з боку партыйных і савецкіх арганізацый яшчэ няма.

2. Адна з галоўных задач партыйна-масавай работы павінна заключацца ў тым, каб прывіць калгаснікам і аднаасобнікам асаблівыя клопаты і ўвагу да гэтай каштоўнейшай культуры.

Неабходна забяспечыць сваечасовую і добраякасную праполку, церабленне, сушку і хаванне ільну, ліквідаваць злачынныя адносіны да гэтай культуры, якія выражаюцца ў сцілцы і мочцы ў радзе выпадкаў неабмалочанага ільну, малацьбе яго на зернавых малатарнях, нядбайным наглядзе за лёжкай і мочкай.

3. У мэтах большага кантролю за ходам работ выдзеліць у кожным буйным калгасе і кожнай брыгадзе адказнага па ільну.

Адначасова пленум ЦК указвае на недапушчальнасць паўтарэння леташніх памылак па ўборцы ільну, якія выразіліся ў значным разрыве паміж цярабленнем, абмалотам і расцілам. На час праполкі і церáблення прымацаваць звенні да ўчасткаў.

4. Даручыць Наркамзему правесці неабходную перакідку машын з неільнаводчых раёнаў у ільнаводчыя з тым, каб закончыць яе да 1 ліпеня. Абавязаць праўленні калгасаў падрыхтаваць дастатковую колькасць грэбняў для ачосу ільну.

5. Абавязаць усе партыйныя арганізацыі неадкладна прыступіць да падрыхтоўкі кадраў ільнацерабільшчыкаў, маючы на ўвазе, што факты зрыву падрыхтоўкі кадраў ільнацерабільшчыкаў сведчаць, што да гэтага часу прадаўжаецца супраціўленне ў справе механізацыі ўборкі ільну.

Даручыць Наркамзему разам з Заготільном распрацаваць мерапрыемствы па пытанню аб павышэнні зацікаўленасці калгасаў і калгаснікаў, працуючых на ільне, у лепшай апрацоўцы і сваечасовай здачы яго дзяржаве, з тым, каб гэта дырэктыва была спушчана ў раёны не пазней 25 чэрвеня.

## 5. Гародніна і бульба

Праполка, падрыхтоўка да ўборачнай і ўборка гародніны і бульбы з'яўляецца адзіным комплексам работ, не дапускаючым ніякіх перарываў і перадышак. Неадкладна за пасадкай павінна быць праведзена праполка, а ў патрэбных выпадках і паліўка. Выбарка гародніны павінна быць арганізавана перыядычна, не дапускаючы яе перарастання.

Устанавіць перыяд уборкі бульбы ў соўгасах, калгасах не больш 15—20 дзён з абавязковым поўным скарыстаннем усёй наяўнасці бульбаўборачных машын і з арганізацыяй задачы бульбы па пастаўках на здатачныя пункты непасрэдна з поля.

## 6. Аб уздыме папараў і цаліны

Пленум адзначае, што пад прыкрыццем усякіх апартуністычных разважанняў аб недахваце пахаці, пахатна-прыгодных зямель і выпасаў рад раёнаў, МТС і калгасаў праяўляюць поўную бяздзейнасць у сваечасовым выкананні зусім рэальнага да выканання плана ўздыму папараў і цаліны.

Асабліва нецярпіма становішча з ходам уздыму папараў і цаліны ў раёнах: Талачынскім, Касцюковіцкім, Старадарожскім, Кармянскім, Рэчыцкім і Глускім.

У сувязі з зусім недапушчальным зацягваннем у радзе выпадкаў устанаўлення дакладных планаў падняцця папараў і цаліны па калгасах і МТС і давядзення гэтых планаў да кожнага калгаса, дaручыць НКЗ тав. **Бенеку** і нач. Палітсектара НКЗ тав. **Ратнеку** спецыяльна расследваць гэта пытанне і далажыць яго Бюро ЦК, дабіўшыся ў бліжэйшыя-ж дні прадстаўлення дакладных планаў узняцця папараў і цаліны па кожнаму калгасу і МТС.

## 7. Аб рабоце трактароў

Пленум ЦК адзначае, што трактарны парк у пасеўную гэтага года працаваў значна лепш, чым у мінулым годзе, хоць побач з гэтым меўся рад МТС, якія сарвалі выкананне плана (Плешчаніцы, Чавусы, Лагойск і інш.).

Дабіўшыся ў бягучым годзе ў рэзультаце своечасовага і добраякаснага рамонту і лепшай арганізацыі работ значнага пералому ў выкананні трактарных работ (выкананне амаль удвая больш супроць мінулага года), значная частка МТС на гэтым супакоілася. Між тым, план трактарных работ па БССР не выканан, а ў радзе МТС і соўгасаў ёсць зусім недапушчальнае, а часамі злачыннае перарасходванне гаручага і змазачнага матэрыялаў у рэзультаце дрэннай падрыхтоўкі (адсутнасць леек, помпаў, нядбайныя адносіны да перавозкі, дрэннае хаванне і скарыстанне не па прызначэнню). Пленум абавязвае дырэктароў МТС і загадчыкаў нафтабазамі на працягу двухдэкаднага тэрміну зніштожыць адзначаныя недахопы, а Наркамзему пасля гэтага тэрміну праверыць усе МТС і далажыць на Бюро ЦК.

Пленум папярэджвае ўсіх дырэктароў і начальнікаў палітаддзелаў МТС і соўгасаў, што іх абавязкам з'яўляецца поўнае выкананне плана па ўсіх відах трактарных работ пры безумоўным захаванні тэхнічных правіл па догляду трактароў. Кожная МТС павінна ў максімальнай ступені скарыстаць трактарны парк на ўздыме папараў, у азімай сяўбе і зябліве, асваенні новых зямель, рашуча змагаючыся з усё яшчэ наяўнымі фактамі скарыстання трактароў на тых работах, якія могуць быць больш паспяхова праведзены конскай сілай.

Не гледзячы на значную насычанасць складанымі сельска-гаспадарчымі машынамі раёнаў МТС, да гэтага часу працяўжаюцца недапушчальныя адносіны да поўнага скарыстання машын. Таму скарыстанне прапольваючых і ўборачных машын, малатарань і радковых сеялак павінна стаць цэнтральным пытаннем кіраўніцтва раёнаў, МТС і калгасаў. Для работы на гэтых машынах павінны быць падабраны і падрыхтаваны кваліфікаваныя кадры з лепшых комсамольцаў і актывістаў-калгаснікаў.

У цэлым радзе раёнаў, соўгасаў і калгасаў стан конскай цягавай сілы астаецца нездавальняючым. Неабходна рашуча ўзмацніць догляд і ўтрыманне коняй, даць узмоцнены рацыён і адпачынак слабасільным коням перад уборкай з тым, каб к пачатку ўборачных работ у БССР не было ні аднаго слабасільнага коня.

* * *

Далейшай задачай усіх партыйных і совецкіх арганізацый павінна стаць сапраўдная барацьба за якасць усіх правадзімых сельска-гаспа-

дарчых работ. Створаныя ў працэсе веснавой сяўбы інспекцыі якасці ў соўгасах і калгасах павінны быць замацаваны, папоўнены лепшымі калгаснікамі, працуючымі на вытворчасці, і пераключаны на праверку ўсіх сельска-гаспадарчых работ у летне-асенні перыяд.

Пленум адзначае неабходнасць самай рашучай перабудовы ў бліжэйшы-ж час апарата Наркамзема, згодна рашэння XVII з'езда партыі аб перабудове сістэмы Наркамзема ў бок найбольш поўнага і апаратыўнага кіраўніцтва МТС, калгасамі, маючы на ўвазе, што практыка кіраўніцтва толькі праз раёны ў цяперашні час у значнай ступені сябе зжывае і МТС у сістэме кіраўніцтва Наркамзема павінны з'яўляцца адным з асноўных звенняў работы.

## 8. Аб кадрах

Пленум ЦК адзначае, што пры наяўнасці значнага ўмацавання і росту сельска-гаспадарчых кадраў у калгасах і раёнах яшчэ да гэтага часу многія ўчасткі сельска-гаспадарчых работ не забяспечаны надзейнымі, добра падрыхтаванымі кадрамі. Абавязаць РК і палітаддзелы правесці ў перыяд да ўборкі кароткатэрміновыя курсы падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі асноўных калгасных кадраў (па складаных сельска-гаспадарчых машынах, асабліва па ільнацерабілках і складаных малатарнях). Таксама правесці курсы, канферэнцыі падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі старшынь, брыгадзіраў калгасаў і інш. масавых кваліфікацый. Разам з тым пленум ЦК адзначае, што задача ўмацавання ўжо падрыхтаваных кадраў павінна быць адной з цэнтральных задач у пытанні аб кадрах.

НКЗ і раённыя арганізацыі павінны забяспечыць адпаведнае месца ў перабудове сельскай гаспадаркі аграперсаналу, вызваліўшы яго ад неўласцівых яму функцый (складанне ўсякага роду зводак) і цалкам скарыстаўшы яго ў раёне для работы на сельгасвытворчасці—у калгасе, соўгасе, а не ў канцылярыі, узнімаючы аўтарытэт і адказнасць аграномаў у сельска-гаспадарчай вытворчасці да ўзроўню інжынераў на фабрыцы і заводзе і паляпшаючы іх матэрыяльна-бытавое становішча. Даручыць СНК разгледзець прапановы Наркамзема па пытанню аб палепшанні матэрыяльна-бытавога становішча аграперсанала.

Пленум ЦК адзначае, што да гэтага часу пастанова ЦК аб арганізацыі аграгабінетаў не выканана. Разам з тым, пленум ЦК падкрэслівае, што аналагічнае мерапрыемства па УССР дало ўжо ў гэтым годзе велізарнейшыя поспехі па ауладанню агратэхнічнымі ведамі асноўнай масай калгаснага актыва. Пленум ЦК абавязвае сакратароў РК, нач. палітаддзелаў, старшынь РВК, дырэктароў соўгасаў, Наркамзем і Ўпоўнаркамсоўгасаў забяспечыць на працягу чэрвеня арганізацыю аграгабінетаў у кожным раёне, у кожнай МТС, разгарнуць масавую работу па арганізацыі агралабараторый у калгасах.

* * *

Пленум абавязвае ГК і РК КП(б)Б і палітаддзелы ўзмацніць партработу і канкрэтнае кіраўніцтва пярвічнай партарганізацыяй на вёсцы у калгасе, соўгасе і асабліва парткомсамольскімі ядрамі, комуністамі-адзіночкамі.

Адзначаючы, што соцспаборніцтва і ўдарніцтва знайшло вялікае месца ў калгасах, соўгасах, брыгадах у гэту пасеўную кампанію, ЦК

даручае райкомам, гаркомам і палітаддзелам замацаваць поспехі соцспаборніцтва і пашырыць яго на ўсе віды работы па праполцы, сенаўборцы і ўборачнай

Пленум асабліва звяртае ўвагу ўсёй партарганізацыі на яшчэ большае разгортванне палітычна-масавай работы сярод аднаасобнікаў вакол асноўных гаспадарча-палітычных задач (уборка, хлебаздача і інш. віды загатовак) пад лозунгам датэрміновага і якаснага выканання работ па ўборцы ураджаю і выкананню абавязацельстваў перад дзяржавай.

Усе гэтыя мерапрыемствы павінны забяспечыць, побач з поўным выкананнем у тэрмін, і высокую па якасці праполку, сенаўборку і ўборку ураджаю, таксама прыліў у калгасы новых соцень і тысяч калгаснікаў з тым, каб у 1934 годзе закончыць у асноўным калектывізацыю сельскай гаспадаркі Беларусі.

Пленум ЦК упэўнен, што ўся КП(б)Б з падвоенай энэргіяй і бальшэвіцкай упорнасцю будзе працаваць над замацаваннем дасягнутых поспехаў і дабʼецца рашаючых перамог у справе падняцця і захавання ураджаю і забяспечыць датэрміновую арганізацыю здачы сельскагаспадарчай прадукцыі дзяржаве. Асабліва пленум упэўнен, што партыйныя раённыя арганізацыі разам з палітаддзеламі скарыстаюць усю ўзросшую актыўнасць не толькі працоўных мас калгаснікаў, але і аднаасобнікаў, і справу калгаснага будаўніцтва ў Беларусі партыйныя арганізацыі ў бягучых работах па сельскай гаспадарцы, асабліва ў рабоце па загатоўках, яшчэ больш замацуюць і ўзмоцняць.

---

## Аб арганізацыі абавязковых паставак зярна і бульбы і цэнтралізаваных загатовак гародніны і прадукцыі ільну і канапель з ураджаю 1934 года

1. Пленум ЦК адзначае, што асаблівасці 1934 г. (ранняе завяршэнне сяўбы, больш ранняе выспяванне сельска-гаспадарчых культур, магчымасць і неабходнасць уступіць у перыяд паставак і загатовак у больш раннія, супроць мінулага года, тэрміны) прад'яўляюць да ўсіх партыйных, савецкіх, гаспадарчых, зямельных, кааператыўных і профсаюзных арганізацый пат абаванні аб максімальным ушчыльненні тэрмінаў сканчэння паставак (зярна, бульбы) і загатовак ільну, у сувязі з гэтым больш паскоранага завяршэння як поўнай падрыхтоўкі матэрыяльна-тэхнічнай базы, так і неабходных арганізацыйных мерапрыемстваў (падрыхтоўка кадраў, укамплектаванне загатоўчых пунктаў, выданне плакатаў і брашур і т. д.)

2. Пленум ЦК звяртае ўвагу зямельных і загатоўчых органаў і раённых партыйных і савецкіх арганізацый на неабходнасць арганізацыі паставак зярна з такім разлікам, каб забяспечыць безумоўнае першачарговае выкананне абавязковых паставак зярна з першага абмалоту і непасрэдна з малатарань на загатоўчыя пункты, а бульбы і гародніны—з поля ў вагоны і з безумоўным захаваннем устаноўленых абавязковых якасных кандыцый.

3. Вопыт 1933 г. паказаў, што пытанням своечасовага паступлення натураплаты па зярну, бульбе і прадукцыі ільну не аддавалася належнай увагі: паступленні натураплаты адставалі ад агульнага ходу паступлення прадукцыі, былі дапушчаны памылкі пры планаванні паступленняў натураплаты, а таксама былі даны няправільныя ўказанні аб чарговасці паступлення натураплаты.

Пленум ЦК патрабуе ад усіх членаў партыі і ў першую чаргу начальнікаў палітаддзелаў, сакратароў райкомаў, дырэктароў МТС устанаўлення чоткай работы і цвёрдай дысцыпліны ў справе паступлення натураплаты за работу МТС.

Пленум абавязвае начальнікаў палітаддзелаў, сакратароў райкомаў партыі і дырэктароў МТС арганізаваць работу па здачы зярна, бульбы і прадукцыі ільну па натураплаце з такім разлікам, каб знішчыць усякую чарговасць у гэтай справе, каб натураплата за паслугі МТС была-б выканана ва ўстаноўленыя для гэтага тэрміны і ні ў якім выпадку не адставала-б ад агульнага ходу выканання планаў.

4. Здача зярна і бульбы соўгасамі і калгасамі, а таксама зварот насеннай пазыкі працякалі ў 1933 г. надзвычай нездавальняюча. Буржуазна-кулацкім тэндэнцыям работнікаў раду соўгасаў, трэстаў

і каапгасаў не была дано своечасова большэвіцкага адпору як з боку наркаматаў, так і раённых партыйных арганізацый, што прывяло ў некаторых выпадках да зрыву выканання плана.

Пленум ЦК патрабуе ад упаўнаважанага Наркамсоўгасаў, кіраўнікоў трэстаў і соўгасаў карэннай перабудовы ўсёй работы па выкананню планаў здачы прадукцыі дзяржаве, з тым, каб у 1934 г. выкананне плана соўгасамі працякала больш быстрымі тэмпамі і на больш высокім узроўні.

Пленум ЦК папярэджвае ўсіх членаў партыі, работнікаў соўгасаў, трэстаў і каапгасаў аб безагаворачным і своечасовым выкананні плана здачы загатовак 1934 года як па тэрмінах, так і па якасці здаваемай прадукцыі. Усякія настроі самацёку, антыдзяржаўныя, кулацкія і апартуністычныя тэндэнцыі павінны рашуча перасякацца з неадкладным прыцягненнем вінаватых да партыйнай і судовай адказнасці.

Разам з тым пленум патрабуе ад загатоўчых органаў, раённых савецкіх і партыйных арганізацый, соўгасаў і каапгасаў поўнага выканання або звароту насеннай і харчовай пазыкі (па зярну, бульбе, ільну) да 1 кастрычніка гэтага года, улічваючы пры гэтым, што калгасы варочаюць насенную пазыку восенню 1934 года ў межах адной трэці ўсёй запазычанасці, а соўгасы, каапгасы і аднаасобныя працоўныя гаспадаркі абавязаны пагасіць у тым-жа годзе ўсю запазычанасць па пазыках.

5. Рэзультаты сяўбы ў 1934 годзе забяспечваюць магчымасць атрымання прадукцыі значна больш высокай якасці, чым у мінулым 1933 г., што абавязвае партыйныя, савецкія, гаспадарчыя, загатоўчыя і зямельныя органы ўсе свае арганізацыйныя і тэхнічныя мерапрыемствы накіраваць у бок поўнага захавання не толькі колькаснай, але і высокай якасці ўбіраемай і загатаўляемай сельска-гаспадарчай прадукцыі ва ўсіх працэсах сельска-гаспадарчай вытворчасці, пачынаючы ад уборкі і канчаючы здачай, хаваннем і далейшым транспартаваннем.

6. У загатоўчую кампанію 1934 г. неабходна шырока ўцягнуць грамадскасць соўгасаў і капгасаў у справу кантролю за якасцю здаваемай дзяржаве прадукцыі. У гэтых мэтах неабходна ва ўсіх соўгасах і калгасах выдзеліць інспектароў па якасці, выбіраемых агульнымі сходамі рабочых (у соўгасах) і калгаснікаў (у калгасах) для арганізацыі барацьбы за якасць здаваемай дзяржаве прадукцыі.

Асаблівае значэнне набывае ў гэтым годзе ўцягненне вопытных ільнаводаў-калгаснікаў у справу кантролю за прыёмкай здаваемай на ільназаводы і загатоўчыя пункты ільнапрадукцыі. Неабходна на ўсіх ільназагатоўчых пунктах і на ўсіх ільназаводах мець па 1 вылучанаму самі і калгаснікамі прадстаўніку—вопытнаму ільнаводу-калгасніку, які сумесна з сартыроўшчыкамі заводаў і загатоўчых пунктаў правяраў-бы якасць здаваемай калгасамі прадукцыі.

Пленум ЦК звяртае асаблівую ўвагу мясцовых партыйных органаў і загатоўшчыкаў на неабходнасць стараннай падрыхтоўкі складскіх памяшканняў, папярэдняй дэзінфекцыі зернаскладаў з тым, каб папярэдзіць якую-небудзь магчымасць псавання зярна, бульбы, гароднiны, ільну або нават паніжэння якасці іх.

7. Раённыя партыйныя арганізацыі, зямельныя і загатоўчыя органы не павінны ні ў якім выпадку абмяжоўвацца ўстаноўленымі сярэднімі нумарамі для загатаўляемай ільнатрасты і валакна. На аснове лепшай арганізацыі калгаснай працы партыйныя арганізацыі і асабліва зямельныя і загатоўчыя органы павінны дабівацца павышэння ўстаноўленых абавязковых нумароў, раз'ясняючы калгаснікам і працоўным адна-

асобнікам матэрыяльныя выгады для іх ад лепшай апрацоўкі і лепшай сартыроўкі прадукцыі ільну і канапель.

8. Пленум лічыць зусім нездавальняючым становішча новага складскага буда ніцтва (асабліва па Белплодагароднiне, Белкааплодагароднiне і Загатільну) і ход рамонту старых складаў і пунктаў (па ўсіх арганізацыях).

Пленум даручае гаркомам і райкомам КП(б)Б на працягу бліжэйшых 2-х дэкад праверыць ход новага будаўніцтва і рамонт складаў і загатоўчых пунктаў зярна, бульбы, гародніны і ільну, ход падрыхтоўкі іх да загатоўчай кампаніі, спецыяльна абмеркаваць на бюро ГК, РК даклады раённых кіруючых работнікаў загатоўчых органаў у мэтах выпраўлення недахопаў і забяспечання своечасовай падрыхтоўкі ўсёй тэхнічнай базы да ўстаноўленага тэрміну.

Даручыць СНК і Дзяржплану БССР фінансаванне і снабжэнне будматэрыяламі будаўніцтва складаў (зернавых, плодагароднiх і ільняных) правесці з такім разлікам, каб закончыць усё будаўніцтва: зернавых складаў—да 1 ліпеня, плодагародных і ільняных—да 15 ліпеня.

9. Пленум ЦК асуджае меўшую месца ў 1933 годзе, наперакор указанням ЦК і СНК, практыку прыёму зярна і бульбы пад захавальныя расліскі (Мсціслаў, Гарадок, Брагін і інш.). Пленум катэгарычна патрабуе як ад загатоўчых органаў, так і мясцовых партыйных і совецкіх арганізацый недапушчэння ні ў якім выпадку прыёму ў загатоўчую кампанію 1934 года прадукцыі пад захавальныя расліскі.

Пленум папярэджвае, што за парушэнне гэтай пастановы ў аднольковай меры павінны несці адказнасць як здатчык, так і загатоўшчык, а таксама і мясцовыя арганізацыі, у выпадку прад'яўлення імі патрабавання аб прыёме прадукцыі пад захавальныя расліскі.

10. Пленум ЦК адзначае, што з прычыны няправільнага размяшчэння плану азімай і яравой сяўбы 1933 г. па паасобных калгасах і працоўных аднаасобніках, некаторыя раёны не забяспечылі налічэння абавязковых паставак зярна і бульбы ў межах, устаноўленых планамі сяўбы (па Полацкаму раёну неданалічана 1 376 гект. зярна, 189 гект. бульбы; па Магілеўскаму—950 гект. зярна, 339 гект. бульбы; па Бярэзінскаму—832 гект. зярна і Сіроцінскаму—181 гект. бульбы).

Гэта акалічнасць патрабуе больш чоткай работы пры правядзенні абавязковых паставак і цэнтралізаваных загатовак з тым, каб забяспечыць безумоўную і поўную рэалізацыю планаў як па абавязковых пастаўках, так і па цэнтралізаваных загатоўках.

У гэтым годзе павінна быць чотка пастаўлена і работа па абавязковых пастаўках зярна з ураджаю прысядзібных участкаў калгаснікаў.

11. Павышэнне матэрыяльна-культурнага ўзроўню і запатрабаванняў калгаснікаў патрабуе ў гэтым годзе значнага ўзмацнення культурна-бытавога абслугоўвання здатчыкаў на загатоўчых пунктах і выключна чулых адносін да іх. Загатоўчы апарат, партыйныя і совецкія арганізацыі павінны ў гэтым годзе забяспечыць выключны падбор і падрыхтоўку кадраў на прыёмачных і загатоўчых пунктах, стварыць культурную абстаноўку на саміх пунктах і забяспечыць цэлы рад мерапрыемстваў па культурна-бытавому абслугоўванню здатчыкаў зярна (чайныя, ларкі з промтаварамі, медычная дапамога, ленкуткі).

12. Пленум ЦК звяртае ўвагу ўсіх членаў партыі на немінучасць кулацкага супраціўлення пры правядзенні прадстаячых сельска-гаспадарчых кампаній, асабліва пры ўборцы і здачы прадукцыі дзяржаве. У сувязі з гэтым пленум ЦК прапануе ГК, РК КП(б)Б, загатоўчым арганізацыям і ўсім членам партыі ўзмацніць бальшэвіцкую пільнасць

у рабоце па загатоўках і на аснове масавай раз'ясняльнай работы арганізаваць большэвіцкі адпор спробам астаткаў кулацтва зрываць здачу зерна, бульбы і загатоўкі ільну.

13. Пленум ЦК абавязвае ўсе арганізацыі з самага пачатку загатоўчай кампаніі ўзяць пад асобы нагляд справу арганізацыі і выканання абавязковых паставак і цэнтралізаваных загатовак аднаасобнымі гаспадаркамі і асабліва цвёрдых заданняў кулацкімі гаспадаркамі і кантраляваць пастаянна выкананне планаў кожным у паасобку здатчыкам.

14. Барацьба за больш раннія тэрміны здачы прадукцыі і датэрміновае выкананне ўсяго плана абавязковых паставак зярна і бульбы і цэнтралізаваных загатовак гародніны і прадукцыі ільну і канапель павінна весціся на аснове шырокай масавай работы па раз'ясненню калгаснікам выгад своечасовага завяршэння плана здачы па абавязковых пастаўках і цэнтралізаваных загатоўках. Неабходна шырока раз'ясняць кожнаму калгасніку, што ажыццяўленне лозунга правадыра партыі -„зрабіць усе калгасы большэвіцкімі, а ўсіх калгаснікаў заможнымі"—магчыма толькі на аснове своечасовага і поўнага выканання кожным калгасам, кожным калгаснікам і кожным працоўным аднаасобнікам абавязацельстваў перад дзяржавай.

Таму пленум ЦК абавязвае ўсе раённыя партыйныя арганізацыі цесна ўвязаць усю падрыхтоўчую работу да выканання абавязковых паставак і загатовак з глыбокай масава-палітычнай і арганізатарскай работай на вёсцы, раз'ясненнем сутнасці пастаноў ЦК і СНК пра абавязковыя пастаўкі і цэнтралізаваныя загатоўкі і барацьбой супроць якіх бы там ні было скажэнняў гэтых пастаноў.

Пленум ЦК заклікае ўсіх членаў партыі, гаркомы і райкомы КП(б)Б, загатоўчыя арганізацыі, соўгасы, калгасы і працоўных аднаасобнікаў—на аснове соцыялістычных метадаў працы і арганізацыі соцыялістычнага спаборніцтва—безагаворачна дабіцца датэрміновага выканання ў 1934 г. усяго плана абавязковых паставак зярна і бульбы і цэнтралізаваных загатовак гародніны і прадукцыі ільну і канапель.

15. Пленум ЦК зацвярджае прадстаўленыя Бюро ЦК практычныя мерапрыемствы па абавязковых пастаўках і цэнтралізаваных загатоўках з ураджаю 1934 года.

# Аб ходзе мясапаставак

Становішча выканання плана мясапаставак 1934 года і асабліва 2-га квартала (план 2 квартала выканан на 25,7 проц., адгрузка ў Ленінград—на 30.6 проц. па Белзагатжывёле і 25 проц па Белмясу) паказвае, што рашэнні сакавіцкага пленума ЦК КП(б)Б аб мясапастаўках большасцю партыйных і гаспадарчых арганізацый, асабліва загатоўчых органаў, не выканана.

Такія адносіны да важнейшых рашэнняў пленума ЦК сведчаць, што совецкія і партыйныя арганізацыі Беларусі не забяспечылі большэвіцкіх адносін да выканання важнейшых рашэнняў партыі.

Асноўнымі прычынамі такога становішча выканання плана мясапаставак з'яўляюцца: адсутнасць канкрэтнага кіраўніцтва і правільнай арганізацыі мясапаставак у калгасным і аднаасобным сектарах, у прыватнасці, падмена канкрэтнай арганізацыі справы мясапаставак і глыбокай масава-палітычнай работы голым адміністраваннем, якое з'яўляецца па сутнасці прамым вынікам бяздзейнасці большасці работнікаў загатоўчага апарата ў галіне мясапаставак і недастатковасці кантролю і кіраўніцтва совецкіх і партыйных арганізацый. Аб такой бяздзейнасці сведчыць тое становішча, што 35 проц. гаспадарак па БССР зусім не прыступілі ў першым квартале да выканання абавязацельстваў па мясапастаўках, не арганізавана групавая здача жывёлы па аднаасобнаму сектару і замест падрыхтоўкі і арганізацыі адкорму жывёлы для выканання плана мяспаставак фактычна справа загатовак прадастаўлена самацёку. У рэзультаце за першы квартал 1934 г. 42,8 проц. паступіўшай буйнай жывёлы аказалася ніжэй сярэдняй упітанасці і тым самым выклікала павелічэнне колькасці здаваемай жывёлы на 6450 галоў; да гэтага часу яшчэ загатоўчыя органы (Загатжывёла) з'яўляюцца, у лепшым выпадку, пасіўнымі прыёмшчыкамі паступаючай жывёлы, але ні ў якай меры не арганізатарамі загатовак мяса і актыўнымі барацьбітамі за выкананне мясапаставак.

Пленум ЦК адзначае асабліва нездавальняючую работу соўгасных трэстаў і дырэкцый соўгасаў у галіне барацьбы за павелічэнне выпуску валавой прадукцыі, а значыцца, і выкананне дзяржаўнага плана мясапаставак.

Да гэтага часу партыйныя арганізацыі соўгасаў не арганізавалі як след рашучай барацьбы з антыдзяржаўнымі тэндэнцыямі зрыву мясапаставак у паасобных соўгасах.

Раённыя партыйныя арганізацыі не забяспечылі яшчэ работы па сапраўднаму выкрыццю кулацкай сутнасці проціпастаўлення задач развіцця жывёлагадоўлі выкананню плана мясапаставак.

Пленум ЦК КП(б)Б **пастанаўляе:**

1. Прапанаваць усім партыйным арганізацыям і загатоўчым органам разгарнуць шырокую работу па выкананню плана мясапаставак

не пазней 15-га чэрвеня 1934 г., маючы на ўвазе ў першую чаргу забяспечанне справы снабжэння мясам Ленінграда і Чырвонай арміі. Неабходна намеціць канкрэтныя каляндарныя планы здачы мяса, арганізаваць папярэдні адкорм паллягаючай здачы дзяржаве жывёлы і праз упоўнаважаных дзесяцідворак—групавую здачу аднаасобнікамі мяса, працугледжанага планам, дабіўшыся безумоўнага выканання рашуча ўсімі гаспадаркамі сваіх абавязацельстваў.

У сувязі з асаблівым адставаннем Талачынскага, Мсціслаўскага, Касцюковіцкага, Оршанскага, Лепельскага, Кармянскага, Гомельскага, Бешэнковіцкага і Магілеўскага раёнаў лічыць неабходным узяць пад асобы нагляд ход мясапаставак у гэтых раёнах. Даручыць Бюро ЦК заслухаць пасля 15-га чэрвеня даклады сакратароў партарганізацый, старшынь РВК і кіраўнікоў загатоўчых арганізацый гэтых раёнаў аб выкананні плана мясапаставак.

2. бавязаць Упаўнаркомсоўгасаў праверыць здачу жывёлы па паасобных соўгасах з тым, каб выправіць дапушчаныя памылкі і блытаніну ў гэтай справе і забяспечыць чоткія каляндарныя планы здачы па кожнаму соўгасу ў межах ўстаноўленага ўрадам плана.

3. Адзначаючы невыкананне рашэння пленума ЦК аб праверцы і ўмацаванні апарата Заготжывёлы, пленум ЦК абавязвае партыйныя і гаспадарчыя арганізацыі (гаркомы, райкомы Наркамснаб) на працягу бліжэйшага месяца забяспечыць поўную праверку і ўмацаванне апарата Заготжывёлы.

Пленум ЦК абавязвае ўсе партыйныя арганізацыі забяспечыць шырокае выкрыццё кулацкіх спроб сарваць мясапастаўкі шляхам проціпастаўлення задач развіцця жывёлагадоўлі выкананню плана мясапаставак, і падняць работу па арганізацыі мясапаставак да ўзроўню арганізацыі і правядзення паставак усіх астатніх сельска-гаспадарчых культур.

---

## Аб ходзе малакопаставак

Пленум ЦК КП(б)Б адзначае поўны зрыў малакопаставак у першым квартале 1934 г. Не гледзячы на тое, што другі квартал з'яўляецца рашаючым для выканання ўсяго гадавога плана паставак малака, аднак, работа загатоўчых арганізацый—Белмаслапрома, Белкаапмалако—зусім не забяспечвае выканання гадавога плана малакопаставак і ставіць яго пад яўную пагрозу зрыву. Замест выканання 39 проц. гадавога плана на 20 мая, план выканан усяго толькі на 20,7 проц. (па Белмаслапрому—22,5 проц., Белкаапмалако—19,6 проц.)

Пленум ЦК КП(б)Б лічыць, што такое становішча з выкананнем плана малакопаставак з'яўляецца рэзультатам выключна дрэннай работы Белмаслапрома, Белкаапмалако і іх нізавой загатоўчай сеткі, слабага кіраўніцтва з боку Наркамснаба гэтымі арганізацыямі, а таксама зусім недастатковага кіраўніцтва малакопастаўкамі з боку гаркомаў і райкомаў партыі, недастатковасці арганізацыйнай і палітычнай работы ў масах калгаснікаў і аднаасобнікаў, непрыняцця мер уздзеяння ў адпаведнасці з законам да ўхіляючыхся ад малакопаставак, злосных няздатчыкаў, не выканаўшых абавязацельстваў перад дзяржавай за 1933 год і таксама зусім не прымаўшых удзелу у пастаўках малака 1934 г., што на справе прывяло па раду раёнаў да прамога патурання кулацкага сабатажу ў малакопастаўках.

Выходзячы з гэтага, пленум ЦК КП(б)Б **пастанаўляе:**

1. Абавязаць Белмаслапром (т. **Жалезнага**), Белкаапмалако (т. **Глікмана**):

а) неадкладна арганізаваць праверку выканання на месцах кожным малакоздатчыкам абавязацельстваў па здачы малака, прыняўшы рашучыя меры ўздзеяння ў адносінах нядоімшчыкаў, фальсіфікатараў, а таксама павесці рашучую барацьбу з разбазарваннем малака ў калгасах, а таксама і на прыёмачных пунктах;

б) на працягу бліжэйшай дэкады канчаткова ліквідаваць запазычанасць малакоздатчыкам за 1933 г. і за першы квартал 1934 г. і безагаворачна забяспечыць своечасовую расплату за прынятае малако ад здатчыкаў;

в) прыняць канкрэтныя меры да забяспечання нізавой загатоўчай сетк тарай, пергаментам, соллю, рэактывамі. малочнай пасудай і інвентаром, а таксама наладзіць транспартаванне прадукцыі на базы;

г) перагледзець на працягу чэрвеня ўвесь склад малакозагатоўчага апарата, ачысціўшы яго ад варожых элементаў, растратчыкаў, людзей, няздольных праводзіць у жыццё дырэктывы партыі і ўрада аб малакопастаўках, умацаваўшы кіруючы склад раённых заводакіраўніцтваў і райзагаў;

д) забяспечыць спагнанне нядоімак па малакопастаўках за 1933 г. з усіх нядоімшчыкаў.

2. Не знімаючы адказнасці за ход выканання малакопаставак з малакозагатоўшчыкаў, абавязаць сакратароў гаркомаў і райкомаў партыі ўзяць пад непасрэдны кантроль і кіраўніцтва работу малакозагатовак у раёне, забяспечыўшы безумоўнае выкананне не менш 60 проц. гадавога плана малакозагатовак да 1-га ліпеня 1934 года.

3. Даручыць Бюро ЦК КП(б)Б на бліжэйшым паседжанні разгледзець пытанне ў адносінах тых раёнаў, якія да гэтага часу не прадставілі спісаў нядоімшчыкаў па малакопастаўках за 1933 год.




Галоўлітсел №А 3667.
Тыраж 8875
362 560 друк. зн. ($6^3{}_4$ арк.)
Здана ў набор 19/VI—34 г.
Падпісана да друку 3/VII—34 г.
Набрана на лін. № 6.
Адк. кар. друк. *А. Мацкевіч.*

*Рэдкалегія*: Мінкін (адк. рэдактар), Конік, Злоткін

Друкарня імя Сталіна, зак. № 927

**ЦАНА 25 кап.**






ВЫДАЕ...

Ме...

ЧАСОПІ...

# „БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ"

ОРГАН ЦК КП(б)Б.

**Б. Б.** асвятляе асноўныя пытанні марксізма-ленінізма, тэарэтычныя і практычныя пытанні партыйнай, савецкай, гаспадарчай, прафесіянальнай работы і вядзе рашучую барацьбу за генеральную лінію партыі на ўсіх участках соцыялістычнага будаўніцтва.

**Б. Б.** асвятляе пытанні нацыянальнай палітыкі партыі і вядзе рашучую барацьбу з буржуазна-нацыяналістычнымі скажэннямі лініі партыі ў нацыянальным пытанні.

**Б. Б.** асвятляе ўсе пытанні тэорыі і практыкі культурнага будаўніцтва і марксісцка-ленінскага выхавання.

**Б. Б.** шырока асвятляе работу палітаддзелаў МТС і саўгасаў, іх барацьбу за соцыялістычную рэканструкцыю сельскай гаспадаркі.

**Б. Б.** асвятляе работу палітаддзелаў транспарта ў справе выканання задач, пастаўленых перад намі партыяй.

**Б. Б.** шырока асвятляе пытанні партыйнага будаўніцтва, пытанні перабудовы партыйнай работы ў адпаведнасці з рашэннямі ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б.

**Б. Б.** у абагуленым парадку асвятляе вопыт работы раёнаў, прадпрыемстваў, паасобных парт'ячэек на розных участках соцыялістычнага будаўніцтва, работу саўгасаў, калгасаў, МТС, транспарта і іх барацьбу за рэалізацыю чарговых задач, высунутых партыяй.

**Б. Б.** увёў аддзел кансультацыі па розных пытаннях: палітыка-эканамічных, агратэхнічных і інш.

**Б. Б.** разлічан на кіруючы і нізавы партактыў, які вядзе работу ў розных галінах нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

**Б. Б.** з'яўляецца часопісам абсалютна неабходным у штодзённай рабоце партарганізацый, кіруючым часопісам па пытаннях партбудаўніцтва як для парткомаў і ячэек, так і для паасобных членаў партыі.

## ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на час. „БОЛЬШЭВІК БЕЛАРУСІ" на 1934 год

**ПАДПІСНАЯ ЦАНА:**

| | На год | | На 6 м-цаў | | На 1 м-ц | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Р. | К. | Р. | К. | Р. | К. | |
| 24 НУМАРЫ Ў ГОД | 6 | — | 3 | — | — | 50 | КОШТ АДНАГО НУМАРА 25 к. |

Падпіска прымаецца штомесяц усімі райбюро Саюздруку, паасобнымі упаўнаважанымі па друку на прадпрыемствах, ва ўсіх паштовых аддзяленнях, агенцтвамі і ўсімі газэтаносцамі.